БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
Беларускага згуртавання татараў-мусульман
"АЛЬ-КІТАБ"

## № 3

Менск 1994

БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

*Квартальнік*
*Беларускага згуртавання татараў-*
*мусульман*

**“АЛЬ-КІТАБ”**

**№ 3**

Менск 1994

***Рэдактарская група:***

*І. Александровіч,*
*Я. Гучок,*
*І. Канапацкі,*
*Т. Кароткая,*
*В. Садыкава,*
*А. Скрыцкі*

***Надрукавана ў Навагрудку***

بِسْمِ ٱللَّهِ ٱلرَّحْمَٰنِ ٱلرَّحِيمِ

# АССАЛЯМУ АЛЕЙКУМ, СПАДАРЫНІ І СПАДАРЫ, СУПЛЯМЕННІКІ-ТАТАРЫ, УСЕ МУСУЛЬМАНЕ!

Сёлета, 17-га верасня, былі 55-я ўгодкі ўз`яднання Беларусі і Заходняй Украіны ў адзіную сям`ю народаў СССР. Сям-там у гарадах і мястэчках на тэрыторыі былой Польшчы яшчэ можна прачытаць на шыльдачках назву вуліцы — 17 верасня. 55 гадоў таму класік беларускай літаратуры напісаў вершы. Сярод іншых быў у яго і такі радок:

*Верасень месяц*
*Семнаццаты дзень*
*Зняў з нас навекі*
*Смутак і цень!*

Ішла вайна Польшчы з Германіяй. Нягледзячы на мужную абарону Войска польскага, нямецкая авіяцыя панавала ў небе. Нямецкія лётчыкі дзеля забавы стралялі з кулямётаў нават па пастухах. Храбрыя польскія уланы ішлі ў атаку супраць нямецкіх танкаў. Сярод абаронцаў Польшчы былі і татары. Адвагай і ўмельствам у вайне з немцамі вызначыўся татарскі эскадрон. Нямала татар разам са сваімі калегамі былі ў шэрагах польскіх легіёнаў, ваявалі з немцамі ў паўночнай Афрыцы, у Нарвегіі, у Італіі.

У сродках масавай інфармацыі, школьных і інстытуцкіх падручніках пісалі, што 17 верасня 1939 года Урад СССР даў загад Чырвонай Арміі перайсці граніцу былой Польшчы каб узяць пад ахову жыццё і маёмасць народаў заходніх тэрыторый, населеных пераважна беларусамі і ўкраінцамі. Ад каго трэба было ахоўваць гэтых беларусаў і ўкраінцаў? Ад Германіі? Гэтага слова не вымаўлялі, нават да чэрвеня 1941 года спалучэнне слоў — фашысцкая

Германія — не ўжывалі. Толькі нядаўна стала ўсім вядома, што па дамове Рыбентропа-Молатава (а на самой справе Гітлера і Сталіна) было вызначана, што забяруць сабе немцы, а што дастанецца Саветам, калі польская армія будзе разбіта.

Той, хто жыў у 1939 годзе ў Брэсце, сваімі вачыма бачыў, як хораша дружылі немцы з рускімі: Вермахт (нямецкая армія) і Чырвоная армія наладзілі сумесны парад.

Як аксіёма прымаецца палажэнне, што ў гісторыі не ўжываецца ўмоўны лад. Нельга разважаць, што было б, каб не тое і не гэта. Вернікі спрадвеку казалі: усё што робіцца, гэта ад Бога. Можа з цягам часу гісторыкі і навучацца хоць бы ставіць пытанне перад матэматыкамі-праграмістамі, каб тыя з дапамогай ЭВМ перабралі тысячы, а можа і мільёны варыянтаў сітуацыі, што было б, калі б Сталін не заключыў дамову з агрэсарам. Можа і не распачалася б другая сусветная вайна? Ну хоць бы ў 1939 годзе?

Помніцца мне, што беззямельныя і малазямельныя людзі ў Заходняй Беларусі абрадаваліся, што новая ўлада падзеліць іх зямлёй з панскіх маёнткаў. Ужо было склалі спісы для новых гаспадароў зямлі... На базе маёнткаў стварылі калгасы. Каб аднаасобнікі таксама ўтваралі калгасы, аб гэтым ішлі частыя і доўгія сходкі. Для большай нагляднай агітацыі ўжывалася і матэрыяльная прынука. Падаткі на сялян зрабілі ў некалькі разоў большымі, чым пры панскай уладзе. Калі не хочаш плаціць падаткі —то ідзі ў калгас.

Начамі, без бачнай для ўсіх прычыны, сталі вывозіць сем`і польскіх службоўцаў, нават палясоўшчыкаў. Жонак і дзяцей арыштаваных завезлі ў Сібір і Казахстан, а мужчын у вязніцы і канцэнтрацыйныя лагеры (якія існавалі не толькі ў тагачаснай Германіі, але і ў СССР).

Сярод вывезеных у Сібір і Казахстан былі і татарскія сем`і. Той з сасланых у Сібір, хто выжыў, пасля 2-й сусветнай вайны выехаў у Польшчу, а некаторыя і далей.

Радасць татар Заходняй Беларусі пасля ўз`яднання з БССР скора была азмрочана. Сутрэч з татарамі, роднымі і сваякамі, з якімі расталіся ў гады першай сусветнай вайны, не адбылося. З заходніх абласцей паехаць на ўсход проста так было нельга. Да таго ж мы скора даведаліся, што савецкія татары, якія мелі перапіску з польскімі татарамі, трапілі пад падазрэнне і былі зняволены, а хутчэй за ўсё загублены.

Усё ж верасень 1939 года мае ў гісторыі беларускага (а разам з ім і татарскага) народа і дадатнае: устанавіліся больш справядлівыя тэрыторыі пражывання беларускага этнасу, хоць і з вельмі абмежаваным суверэнітэтам.

Радасная падзея адбылася ў пачатку ліпеня гэтага (1994) года ў Слоніме. Сабраліся татары Слоніма і Слонімшчыны, ураджэнцы і іх нашчадкі з Польшчы і яшчэ далейшага замежжа, госці з ґарадкоў і мястэчак. Наведалі мізар, маліліся за душы памерлых мусульман. Была ўрачыстасць, былі прадстаўнікі грамадскасці і мясцовых улад, госці з арабскіх краін і з Турцыі. Асвячаўся малітоўны мусульманскі дом у Слоніме. Пасля малення былі сяброўскія сустрэчы за сталамі, навуковыя даклады, цікавыя паведамленні. Справаздачу аб тым, што адбылося ў Слоніме, мы надрукуем у "Байраме" і іншых нашых выданнях.

Яшчэ трэба згадаць пра ўжо і не новую, але вельмі важную для нас падзею — адкрыццё і работу мусульманскага лагера вучобы і адпачынку ў Стайках каля Мінска. З нашымі дзецьмі працавалі студэнты-мусульмане, якія навучаюцца ў беларускіх ВНУ, а таксама менскія татары, якія ахвяравалі свой адпачынак для агульнай справы. Больш за сотню

хлопчыкаў і дзяўчынак, іх бацькі і родныя шчыра дзякуюць выхавацелям і спонсарам за ўсё тое добрае, цікавае і карыснае, што яны атрымалі ў гэтае лета.

Вельмі карысную і цікавую выцечку па мясцінах кампектнага пражывання татар на Беларусі зрабіў наш муфтэй Ісмаіл Александровіч. Ён занатаваў свае ўражанні і некаторыя з іх надрукуюць нашы выданні.

Некалькі слоў пра сувязі беларускіх татар з нашымі адзінаверцамі з замежжа.

Пра жыццё татар заходняй Сібіры паведаміў нам з Цюмені рэдактар маладзёжнай татарскай газеты М. Ібатуллін. Рэгулярна дасылаюць свае газеты татары з Украіны (дзякуй ім за цікавыя звесткі, некаторыя з іх надрукуе "Байрам"). Наш даўні і добры сябар з Казані Фаіз Фаязаў прыслаў часопіс "Ідэл", у якім па-татарску надрукавана яго балада пра Аўлія Кунтуся. З гэтым высокамастацкім творам можна будзе пазнаёміцца ў арыгінале, а можа быць і ў паэтычным перакладзе па-беларуску.

Парадавалі нас нашы адзінаверцы з Саудаўскай Аравіі, якія праездам пабывалі на Беларусі, сустракаліся з татарамі Гродзеншчыны (у самім абласным цэнтры, у Навагрудку, у Іўі), аглядалі ў Менску пляцоўку, на якой, калі на тое будзе воля Аллага, пабудуем мячэць. Нашы госці аказалі татарам маральную і матэрыяльную дапамогу.

Цяпер найважнейшая наша задача — арганізавана распачаць навучанне дзяцей у мусульманскіх школках; ёсць настаўнікі, ёсць праграмы, навучальная літаратура. Трэба толькі, каб была ў дзяцей ахвота вучыцца.

Няхай шчасціць Вам у жыцці, дарагія нашы чытачы!

Ассаляму алейкум! Мір Вам!

*Якуб Якубоўскі*

*Пішыце на адрас:* 220086, г. Мінск, вул. Славінскага, д. 21, кв. 8. Тэл. 63-37-89.

# Нарада кіраўнікоў нацыянальных культурных аб`яднанняў у Міністэрстве культуры і друку

16 верасня, у пятніцу Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь арганізавала нараду кіраўнікоў нацыянальных культурных згуртаванняў, якія зарэгістраваны ў нашай краіне. Прысутнічалі кіраўнікі яўрэйскай, польскай, рускай, літоўскай, нямецкай, карэйскай і татарскай. Згуртаванне татар-мусульман Беларусі прадстаўлялі І.Александровіч, Р.Александровіч, І.Канапацкі. Вёў нараду намеснік міністра культуры і друку Генадзь Бураўкін. Прысутнічалі таксама работнікі міністэрства Іван Яновіч, Станіслаў Палякоў, Марыя Дабжынская. На нарадзе, якая доўжылася больш за дзве гадзіны, былі разгледжаны наступныя пытанні:

1. Стварэнне Рэспубліканскага Цэнтра нацыянальных культур. Статут Цэнтра. Асноўныя мэты дзейнасці. Структура органаў кіравання. Штатны расклад. Прапановы да плана работы Цэнтра на 1995 год.
2. Статусы нацыянальных Цэнтраў (польскага, літоўскага, карэйскага, і іншых). Узаемадзеянне з Рэспубліканскім Цэнтрам.
3. Узаемадзеянне нацыянальных аб`яднанняў з бібліятэкамі і іншымі ўстановамі і органамі культуры (правядзенне мерапрыемстваў, арганізацыя дзейнасці самадзейных творчых калектываў, павышэнне кваліфікацыі кіраўнікоў калектываў, матэрыяльная дапамога).
4. Правядзенне фестываля нацыянальных культур у 1995 годзе (мэтазгоднасць, месца і дата правядзення, удзельнікі фестываля, у тым ліку з-за мяжы, фінансаванне).

5. Аб выданні газеты "Супольнасць" (дадатак да газеты "Рэспубліка"). Нацыянальныя перыядычныя выданні. Выданне кніг.
6. Аб прадстаўленні заявак Мінкультуры і друку з патрэбамі нацыянальных аб'яднанняў, фінансаванне якіх неабходна ўзгадніць з Мінфінам.
7. Аб супрацоўніцтве нацыянальных аб'яднанняў на працягу 1994 г. з Домам ветэрана.
8. Аб пытаннях нацыянальных аб'яднанняў у сферы культуры, вырашэнне якіх адносіцца да кампетэнцыі Кабінета Міністраў.

Гэта была першая нарада ў 1994 годзе. У 1993 годзе такая нарада праводзілася ў Міністэрстве інфармацыі міністрам А.Бутэвічам.

Як ужо паведамлялася, 3 чэрвеня ў Мінску ў памяшканні Дома ветэранаў адбылося урачыстае адкрыццё Цэнтра нацыянальных культур. Але да гэтага часу Цэнтр не запрацаваў на поўную моц. У выступленні на нарадзе намесніка начальніка ўстаноў культуры і народнай творчасці Івана Яновіча прагучала ўпэўненасць, што да канца 1994 года павінны быць вырашаны ўсе пытанні па Цэнтру нацыянальных культур. Гэта будзе ўстанова культурнага тыпу рэспубліканскага падпарадкавання. Праўда, пакуль што невядома каму яна будзе падпарадкавана. Асноўнымі напрамкамі дзейнасці Цэнтра будуць: навукова-метадычная работа, арганізацыя культурна-асветных мерапрыемстваў, арганізацыя гурткоў, курсаў мастацкай самадзейнасці, выдавецкая дзейнасць, турыстычная работа, кінавідэапаказ, міжнародныя зносіны і абмен, камерцыйная дзейнасць. Па астатніх пытаннях парадку дня ўдзельнікі нарады абмяняліся сваімі думкамі. Вострая дыскусія адбылася па пытанні выдання газеты "Супольнасць" як дадатка да газеты

“Рэспубліка”. Большасць удзельнікаў адмоўна выказаліся на прапанову Саўміна выдаваць газету “Супольнасць” як дадатак да “Рэспубліці” і настойвалі на выданні “Супольнасці” як незалежнай газеты.

Міністэрства культуры і друку прапанавала кіраўнікам нацыянальных культурных згуртаванняў даслаць заяўкі з патрэбамі нацыянальных аб`яднанняў для таго, каб узгадніць іх фінансаванне з Міністэрствам фінансаў. Такая заяўка была нашым згуртаваннем складзена і ўжо ў аўторак, 20 верасня аддадзена ў канцылярыю Міністэрства культуры і друку. Ніжэй падаецца поўны тэкст прапаноў Беларускага згуртавання татараў-мусульман “Аль-Кітаб” Міністэрству культуры і друку.

**МІНІСТЭРСТВУ КУЛЬТУРЫ**
**РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**спадару Івану Іосіфавічу ЯНОВІЧУ**

## ПРАПАНОВЫ

Беларускага згуртавання татар-мусульман “Аль-Кітаб” па пытаннях, узнятых на сустрэчы ў Міністэрсвте культуры і друку з удзелам кіраўнікоў нацыянальных культурных аб`яднанняў Рэспублікі Беларусь (16.09.1994).

1. Аб`яднанне “Аль-Кітаб” вельмі занепакоена станам трох помнікаў гісторыі, вельмі дарагіх сэрцу кожнага татарына, які нарадзіўся і вырас на Беларусі:

   *а)* Самая старадаўняя ў Еўропе драўляная мячэць, пабудаваная ў Даўбуцішках (Даўбучках), былой вёсцы Даўбянкоўскага сельсавета Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці ў XVI ст. У гады таталітарнага рэжыму, калі праследаваліся мусульмане-вернікі, мячэць разбурылася.

   Разбураны храм з добрым намерам улада і

Міністэрства культуры разабралі будынак і перавезлі ў Строчыцы пад Мінск для аднаўлення яе ў такім выглядзе, якой яна была ў 40-х гадах гэтага стагоддзя.

Праект аднаўлення мячэці быў распрацаваны ў рэстаўрацыйных майстэрнях за дзяржаўныя сродкі, але вось ужо 3 гады, як складзенае пад дахам ляжыць бярвенне гэтага гістарычнага і архітэкттурнага помніка і нічога не робіцца, каб яго адбудаваць. Мы вельмі просім вылучыць фінансавыя сродкі, каб даць магчымачць музею драўлянага дойлідства ў Строчыцах аднавіць гэты архітэктурны помнік (вясною 1994 г., па словах кіраўніцтва музея, трэба было 250 млн. рублёў, пасля дэнамінацыі, відаць, менш).

*б)* другі помнік гісторыі XIX ст. — драўляная мячэць у Навагрудку, якая была адабрана савецкай уладай у мусульман-вернікаў і на працягу 50 гадоў скарыстоўвалася як жылы дом. Цяпер мясцовыя ўлады вярнулі гэты будынак мусульманскай абшчыне. Але ў сённяшніх вернікаў цяпер адзіная надзея на дапамогу дзяржавы, якая на працягу 50 гадоў брала з жыхароў (а гэта 6 кватэр) арэндную плату. Каб прывесці гэтую мячэць у першапачатковы стан, трэба было 190 тыс. рублёў (у цэнах 1991 г.). Будаўніцтва падаражэла, па апошніх звестках у 208-210 разоў, таму трэба прасіць у ўрада выдзеліць на аднаўленне гэтага помніка гісторыі 40 млн. рублёў.

*в)* аднаўленне разбуранай мячэці ў Лоўчыцах Мітрапольскага сельсавета Навагрудскага раёна — помніка драўлянага дойлідства XVII ст. Міністэрства культуры ў 1991 г. фінансавала праект рэстаўрацыі мячэці, але затым гэта работа спынілася па прычыне недахопу сродкаў.

2. Згуртаванне “Аль-Кітаб” ухваляе ідэю правядзення ў 1995 г. Першага фестывалю

нацыянальных культур і просіць вылучыць сродкі для таго, каб запрасіць ансамбль з Татарстана і ансамбль з Крыма.

3. Згуртаванне "Аль-Кітаб" просіць уключыць у дзяржаўны заказ наступныя перыядычныя выданні і літаратуру беларускіх татар на 1995 год:

— Квартальнік "Байрам" (4 кніжкі памерам 5 друкаваных арк.). Наклад 1 тыс. паасобнікаў.

— Татарска-мусульманская грамата. Тлумачэнне на беларускай мове (аб`ём 10 друкаваных арк.). Аўтарскі калектыў. Наклад 2 тыс.

— Беларуска-крымскататарскі і крымскататарска-беларускі слоўнік з асновамі крымскатарскай граматыкі (на 5 тыс. слоў). Складальнік Ісмаіл Меметаў. Наклад 5 тыс. паасобнікаў.

— Аль-Кітаб беларускіх татараў — помнік татарскага і беларускага пісьменства XV-XVI стагоддзяў. У двух кнігах па 15 друкаваных аркушаў. Наклад кожнай кнігі 5 тыс. паасобнікаў.

— Татарскі штогоднік (аб`ём 10 друкаваных арк.). Наклад 2 тыс. паасобнікаў.

— Мулліні Хамаіл у двух кнігах (на арабскай і беларускай мовах). Аб`ём па 10 друкаваных арк. Наклад 1 тыс. паасобнікаў.

— Энцыклапедычны даведнік "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы". Пробныя артыкулы і прынцыпы пабудовы даведніка. На беларускай мове. Аб`ём 5 друкаваных аркушаў. Наклад 500 паасобнікаў.

— Матэрыялы першай міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 600-годдзю татарскага асадніцтва на землях Беларусі, Літвы і Польшчы, распачатага пры Вітаўце. Аб`ём 25 друкаваных арк. Наклад 1 тыс. паасобнікаў.

— Мусульманскі каляндар беларускіх татар (на 1996 г.). Аб`ём 3 друкаваныя аркушы.

Складальнік Ісмаіл Варановіч. 2 тыс. паасобнікаў.

***Прадугледзець выданне на 1996 год:***

— Беларускія мусульмане: гісторыя, сучаснасць і перспектывы. Навуковае даследаванне. Аўтар Ібрагім Канапацкі. Аб`ём 10 друкаваных арк. Наклад 5 тыс. паасобнікаў.

— Выцечкі па татарскіх мясцінах на Беларусі. Турыстычны даведнік. Аб`ём 5 друкаваных арк. Складальнікі Абубекір Шабановіч, Ісмаіл Александровіч, Ібрагім Канапацкі. Наклад 10 тыс. паасобнікаў.

— Мячэці беларускіх татар. Фотабуклет. (20 фотаздымкаў). 1 друкаваны арк. Складальнік Ісмаіл Александровіч. Тыраж 5 тыс. паасобнікаў.

— Мусульманскі каляндар беларускіх татар (на 1997 г.). Аб`ём 3 друкаваныя аркушы. Складальнік Ісмаіл Варановіч. 2 тыс. паасобнікаў.

4. Згуртаванне "Аль-Кітаб" просіць уключыць у план дзяржаўнага фінансавання:
   *1)* правядзенне сацыялагічнага, этнаграфічнага даследвання ў месцах кампактнага пражывання татар;
   *2)* правядзенне навуковых, археаграфічных экспедыцый з мэтай збору кніг, навуковых матэрыялаў па гісторыі і культуры беларускіх татар;
   *3)* уключыць у план правядзенне Другой міжнароднай навуковай канферэнцыі "Культура беларускіх татар", прысвечанай 600-годдзю рассялення татар на Беларусі (красавік 1995 г.).
5. Беларускае грамадска-культурнае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб" просіць вылучыць у межах магчымасці для задавальнення культурных інтарэсаў беларускіх татар месцы для мэтавага навучання нашай моладзі ў ВНУ і тэхнікумах Беларусі.
6. Просім таксама замацаваць адну з бібліятэк у

Мінску, а таксама бібліятэкі ў іншых гарадах Беларусі для захавання кніжнага фонду беларускіх татар, правядзення сумесных мерапрыемстваў татарскай грамадскасці з удзелам беларусаў і ўсіх жыхароў нашай рэспублікі.

7. Просім таксама вылучыць адзін з дамоў культуры Мінска для арганізацыі і правядзення вечароў, канцэртаў, святочных урачыстасцей беларускіх татар.

*Віцэ-прэзідэнт Беларускага згуртавання татар-мусульман "Аль-Кітаб" Ібрагім Канапацкі.*

# КУР'АН

## СУРА АЛЬ-НІСА — ЖАНЧЫНЫ (працяг)

**101.** І хто пераселіцца з краіны сваёй ў імя Аллага — знойдзе на зямлі шмат прытулку і прастору. І хто пакіне дом свой, перасяляючыся ва імя Аллага і Пасланніка Яго, і смерць напаткае яго, таму ўзнагарода — у распараджэнні Аллага, і Аллаг Уседаравальны і Міласэрны.

**102.** І калі вы ў пераездзе па зямлі, не будзе грэх, калі вы скароціце малітву, калі вы ў небяспецы, калі знаходзіцеся пад пагрозай няверных. Сапраўды, няверныя — яны вашы ворагі.

**103.** Калі ж ты (о, Мухаммед) знаходзішся сярод іх і кіруеш Малітваю для іх, няхай частка іх стаяць з табою, і няхай яны возьмуць зброю сваю. І калі яны здейсняць зямныя паклоны свае, няхай яны стануць за табою, і няхай яны другая частка іх, якія яшчэ не маліліся, выйдуць наперад і моляцца з табою; і няхай яны трымаюць нагатове свае сродкі абароны і сваю зброю. Няверныя хочуць, каб вы не звярталі ўвагі на зброю вашу і рыштунак

ваш, каб тут жа напасці на вас. І не будзе граху ў тым, калі вы пакладзяце зброю сваю пад цяжарам дажджу ці хваробы, пры гэтым у адносінах да сябе не губляйце пільнасць. Сапраўды, Аллаг прыгатаваў няверным зневажальныя кары.

**104.** Калі ж вы прапусціце малітву, вы (у думках) звярніцеся да Аллага, ці стаяць будзеце, ці сядзець, ці ляжаць. Калі ж вакол спакойна стане, вы звершыце (адпаведную) малітву. Малітвы ў вызначаны час строга прадпісаны для верных.

**105.** Безупынна праследуйце людзей, якія ворагі вам. І калі вы зносіце нягоды пры гэтым, дык і яны такіяж нягоды зносяць, хоць у вас ёсць ад Аллага надзея на тое, на што яны спадзявацца не могуць. Сапраўды, Аллаг Усемагутны, Мудры.

**106.** Сапраўды, даравалі Мы табе Кнігу, у якой ісціна, каб ты мог між людзьмі судзіць так, як паказаў табе Аллаг. Не будзь абаронцам для тых, хто вераломна здраджвае іншым.

**107.** І прасі ў Аллага даравання. Сапраўды, Аллаг — Уседаравальны і Міласэрны.

**108.** Не спрачайся, каб апраўдаць такіх, хто здраджвае сам сябе. Аллаг, сапраўды, не любіць такіх, хто здраджвае і вераломны.

**109.** Ім можна схавацца ад людзей, але ім не схавацца ад Аллага. Аллаг знаходзіцца пры іх, калі ў начы яны вядуць сваю гаворку, што не патрэбна Аллагу. Аллаг ведае ўсё, што яны робяць.

**110.** Вось, спрачаешся ты, каб апраўдаць іх у гэтым жыцці. А хто будзе спрачацца з Аллагам у іх карысць у Дзень Уваскрошвання? І хто ж будзе паручыцелям за іх?

**111.** І кожны, хто чыніць зло ці прычыняе зло душы сваёй, а пасля просіць даравання ў Аллага, — знойдзе Аллага Ўседаравальным і Міласэрным.

**112.** І кожны, каторы грашыць — грашыць толькі супроць сваёй душы. Сапраўды, Аллаг Усеведны, Мудры!

**113.** І хто правіннасць учыніць або грэх, пасля абвінаваціць у іх тых, хто не вінаваты, той на сябе бярэ ману і яўны грэх.

**114.** І каб ні шчодрасць Аллага, ні міласэрнасць Яго да цябе, некаторыя з іх задумалі б звясці цябе са шляху, але толькі сябе яны са шляху збіваюць, табе ж яны не перашкодзяць ні ў чым. Бо паслаў жа Аллаг табе Пісанне і мудрасць і навучыў таму, чаго не ведаў ты. І якая ж вялікая да цябе шчодрасць Аллага!

**115.** У большасці іх тайных размоў няма дабра, акрамя тых, якія навучаюць (на ачышчэнне) міласціню раздаваць, клічуць людзей да дабра і заклікаюць да прымірэння паміж імі. Таму, хто ставіцца так, шукаючы прыхільнасці Аллага, даруем Мы вялікую ўзнагароду.

**116.** Хто ад Пасланніка адыйдзе, калі яму быў ясна шлях прамы ўказаны, і не пойдзе шляхам набожным, таго пакінем Мы ісці шляхам, які ён сам выбраў, і (праз гэты шлях) увядзем яго ў Агонь. Якое ж дрэннае прыстанішча (для грэшных)!

**117.** Не даруе Аллаг, калі што-небудзь дараўноўваць да Аллага, але даруе Ён усё і ўсім, калі захоча. А той, хто прыраўноўвае што-небудзь да Аллага, далёка той зышоў з праведнага шляху.

**118.** І просяць яны паратунку замест Аллага ў бяздушных прадметаў, і заклікаюць толькі Шайтана, упаратага бунтаўшчыка,

**119.** Якога пракляў Аллаг! І сказаў Шайтан: "Я абавязкова ад прыхільнікаў Аллага вазьму сябе назначаную частку,

**120.** І, сапраўды, я ўвяду іх у зман, і, сапраўды, я

буду выклікаць у іх марныя жаданні, і, сапраўды, я буду падбухторваць іх, і яны будуць абразаць вушы ў свойскай жывёлы, і, сапраўды, я буду падбухторваць іх і яны будуць створанае Аллагам скажаць!". І хто Шайтана сябе ў заступнікі бярэ, мінуючы Аллага, сябе на вечную відавочную гібель асуджае.

121. Шайтан спакушае іх абяцаннямі і абуджае нікчэмныя жаданні ў іх, але Шайтан не абяцае ім нічога акрамя марнасці.

122. Пекла будзе жыллём іх; і не знойдуць яны выйсця з яго.

123. Але тых, якія веруюць і чыняць добрыя справы, мы павядзем у сады, па якіх цякуць ручаі, і там праведнікі будуць жыць вечна. Такое непарушнае абяцанне Аллага; і чыё слова можа быць больш праўдзівае, чым слова Аллага?

124. (І тут) ні вашыя дамаганні, ні дамаганні людзей, якія маюць Кнігу (Аллагам прынятыя не будуць). Хто чыніць зло, таму адплочана будзе тым жа. І не знойдзе акрамя Аллага, ні апякуна, ні памочніка сябе.

125. А той, хто чыніць дабро, мужчына гэта, ці жанчына, і верыць пры гэтым у Аллага, той у Рай увойдзе і там крыўды не будзе мець ні на шалупінку фінікавага насення.

126. І ці можа хто мець больш веры, чым той, хто пакараецца Аллагу і чыніць дабро, і ідзе шляхам ханіфа Ібрагіма! Сапраўды, Аллаг прыняў і наблізіў да Сябе Ібрагіма.

127. І Аллагу належыць усё, што ёсць на небе, і ўсе, што ёсць на зямлі; і Аллаг ахоплівае ўсё.

128. Яны чакаюць указанняў ад цябе адносна іх жанчын. Скажы: "Аллаг дае вам указанні ад іх і тое, што вам чытаецца ў гэтай Кнізе: і адносна сірот, якім не даяце вы таго, што вам прадпісана

даваць, жадаючы ўзять іх за жонкі; аб безабаронных слабых дзецях. І каб заўсёды да ўсіх сірот вы строга трымаліся справядлівасці. І што б вы добрага ні зрабілі, Аллаг, сапраўды, аб гэтым ведае!"

**129.** І калі жанчына асцерагаецца дрэнных адносін ці раўнадушна з боку мужа свайго, не будзе тое грэхам для іх, калі яны належным чынам паміраецца адно з адным; і прымірэнне лепш за ўсё. І людзі схільныя да прагавітасці. І калі вы чыніце дабро і праведны, сапраўды, Аллагу ведамы вашыя ўчынкі.

**130.** Вы ніколі да ўсіх вашых жонак не можаце быць аднолькава справядлівымі, нават калі б вам вельмі моцна жадалі і ґэтага. І ўсё ж ні ад адной з іх вы не павінны цалкам ухіляцца, каб яна ў неўпэўненасці не заставалася. І калі вы дамовіліся мірна між сабою, пры гэтым памяркоўнасць праяўляючы, то спагадлівым Аллаг і міласэрным (да вас будзе)!

**131.** Але калі ўсе ж яны скасуюць шлюб, Аллаг ад шчодрасці Сваёй даруе незалежнасць ім абоім; Шчодры і мудры Аллаг.

**132.** І Аллагу належыць усё, што ёсць на небе, і ўсё, што ёсць на зямлі. І, спраўды, загадалі Мы тым, каму падорана Кніга раней за вас, а таксама загадалі вам баяцца Аллага. Але калі вы не верыце, памятайце, што Аллагу належыць усё, што ёсць на небе, і ўсё, што ёсць на зямлі, і Аллаг — вольны ад усялякіх патрэб і слаўны!

**133.** Ва ўладзе Аллага ўсё, што ёсць на зямлі і ў небе, і заступніцтва Яго дастаткова.

**134.** І калі б Ён пажадаў таго, Ён ухіліў бы вас, о людзі! І змест вас паставіў бы іншых. Ён, сапраўды, мае поўную ўладу зрабіць гэта.

**135.** А хто ўзнагароды на гэтым свеце хоча, — дык

гэта ж у волі Аллага ўзнагарода бліжэйшага жыцця і другога. Ён чуе ўсё і бачыць!

136. О вы, хто верыць! Паказваючы перад Аллагам, павінны захоўваць вы строга справядлівасць, нават калі б гэта было супроць вас саміх, ці супроць бацькоў і блізкіх вашых. Багаты ён ці бедны, Аллаг больш клапоціцца аб іх абоіх, чым вы. Такім чынам, не схіляйцеся да ганебных учынкаў, каб вы маглі дзейнічаць сумленна. І калі вы скрываеце праўду ці абыходзіце яе, то памятайце, што Аллагу ведамы ўсе ўчынкі вашыя.

137. О вы, вернікі, верце ў Аллага і Пасланніка Яго, і ў Кнігу, якую Ён адкрыў Пасланніку свайму, і ў Кнігу, якую Ён адкрыў да гэтага. І той, хто не верыць у Аллага і Ангелаў Яго, і ў Кнігі Яго, і ў Пасланнікаў Яго, і ў Апошні Дзень, сапраўды, далёка збочылі са шляху.

138. Тых, якія веруюць, пасля не веруюць, пасля веруюць зноў, пасля не веруюць, і пасля заскарузнуць у нявер`і, ніколі не даруе Аллаг і не накіруе Ён іх на шлях.

139. Абвясці крывадушнікам, што цяжкая кара чакае іх.

140. Тым, каторыя бяруць сябе ў сябры няверных пераважна перад вернікамі. Ці яны шукаюць велічы з іх рук? Тады няхай памятаюць яны, што ўся пашана належыць Аллагу.

141. І, сапраўды, Ён ужо адкрыў вам у Кнізе, што, калі вы чуеце знакі Аллага адкідваюць ці глумяцца над імі, не заставайцеся разам з такімі людзьмі, пакуль не пяройдуць да іншай тэмы; бо інакш вы становіцеся падобнымі за іх. Сапраўды, Аллаг збярэ крывадушнікаў і няверных усіх разам у пекла;

142. Такіх, хто падпільноўвае, што здарыцца з вамі: калі з дапамогай Аллага вы пераможаце, скажуць

(аяты 137 — 141 па-арабску гл. на ст. 24)

(вам): "Ці мы не былі там з вамі?" Калі ж поспех будзе спадарожнічаць няверным, скажуць (тым): "Ці ж не мы стараліся вам дапамагчы і абараніць ад вернікаў?". Аллаг рассудзіць паміж вамі ў Дзень Суда, і ніколі няверным не дасць магчымасць перамагчы вернікаў!

143. Крывадушнікі шукаюць спосаб як бы ашукаць Аллага, але Ён пакарае іх за ашуканства. І калі становяцца яны на малітву, яны стаяць з лянотай і на паказ людзям і мала памятаюць яны пра Аллага;

144. Хістаюцца яны то між аднымі, то між другімі, не далучаючыся ні да тых, ні да другіх. І для таго, каго Аллаг кіне на пагібель, таму ты не знойдзеш шляху.

145. О вы, вернікі, не бярыце сябе ў сябры няверных замест вернікаў. Ці вы хочаце даць Аллагу ясны доказ супроць сябе?

146. І, бясспрэчна, будуць крывадушнікі ў самай глыбіні агню; і не знойдзеш ты заступніка да іх, —

147. Акрамя тых, якія раскайваюцца і цвёрда стануць на шлях Аллага, набожнымі будуць у сваёй веры перад Аллагам. Такія разам з вернікамі будуць, пасля Аллаг дасць вернікам вялікую ўзнагароду.

148. Навошта ж Аллагу падвяргаць вас пакаранню, калі ўдзячныя і набожныя вы? Сапраўды, Аллаг Уседаравальны і Усёведны.

149. Аллаг не любіць, каб зло (публічным) словам агалошвалася, хіба што хто-небудзь несправядліва пакрыўджаны. Сапраўды, Аллаг і чуе ўсё і ведае аб усім.

150. Ці абнародуеце добрае, ці ўтойце, ці даруеце зло, сапраўды, Аллаг — Дaруючы, Усёведны.

151. Сапраўды, тые, хто не вераць у Аллага і

сапраўды, забіты ён не быў.

159. Наадварот, (не быў ён забіты)! Аллаг узняў яго да Сябе. Аллаг Вялікі і Мудры!

160. І з людзей пісання няма нікога, хто б не паверыў у яго да яго смерці, а ў Дзень Уваскрашання ён будзе сведкам супроць іх!

161. За тое, што вернікі іўдзейскай веры паступаюць несправядліва (Мы забаранілі ім асобныя стравы, якія былі дазволены для іх); за тое, што яны адхілілі многіх ад шляху Аллага.

162. За тое, што бралі ліхву, хоць гэта было ім забаронена, бо яны неправедна спажывалі спажытак людзей. І для тых з іх, хто не верыць, Мы прыгатавалі цяжкае пакаранне.

163. Але тыя з іх (іудзеяў), якія маюць глыбокія веды, і тым, хто верыць у тое, што Аллаг пасляў табе, і ў тое, што да цябе (іншым) Ён падараваў, малітву адбывае (у адпаведны час), і ачышэнне робіць (раздае міласціну), і ў Аллага верыць і ў Судны Дзень, — такім даруем Мы вялікую ўзнагароду.

164. Мы паслалі адкрыццё табе таксама, як Нуху Мы іх паслалі і ўслед за ім — іншым прарокам: Мы Ібрагіму паслалі іх, і Ісмаілу, і Йакубу, і ўсім (дванаццаці) каленам, (а таксама) Ісе, і Аййубу, і Йюнусу, Гаруну, Сулейману, і далі Мы псалтыр Дауду.

165. І былі сярод прарокаў Нашых тыя, аб якіх расказалі Мы табе, але былі таксама і такія, аб якіх Мы табе не распавядалі. А з Мусой Аллаг меў гаворку.

166. І былі сярод прарокаў Нашых пасланнікі, якія абвяшчалі (вернікам), і тыя, якія (няверных) папераджалі, (ім пагражаючы Днём Страшнага Суда), каб пасля іх ніхто перад Аллагам не мог прадставіць сведчанне пра тое, што па няведанні

(грашыў). І Аллаг Магутны, Мудры.

167. Аллаг сведчыць Сам, што ўсё, пасланае Ім табе, па Яго мудрасці і веданні выходзіць, і ангелы сведчаць гэта, хоць сведчання Аллага дастаткова!

168. Тыя, якія не вераць і адгаворваюць іншых ад шляху Аллага, сапраўды, далёка адышлі ад правільнай дарогі.

169. Сапраўды, хто не ўвераваў і робіць беззаконне, не будзе мець дараванне Аллага, не будзе накіраваны па праведнаму шляху,

170. І толькі дарогай пойдзе ў пекла, дзе быць яму навечна, і лёгка гэта зрабіць Аллагу.

171. Людзі! Да вас прыйшоў пасланнік з ісцінай ад Аллага. Паверце — на дабро для сябе! А калі застанецеся няверымі, (што ж!) — толькі Аллагу належыць усё на зямлі і на небе, сапраўды, Аллаг Усёведны і Мудры!

172. О людзі Кнігі! Не перасягайце межаў у веры вашай і не гаварыце пра Аллага нічога, акрамя ісціны. Месія Іса, сын Марйам — прарок Аллага і дараваная Слова Аллага, якого Аллаг падараваў Марйам, і міласцю Яго. Такім чынам, верце ў Аллага і Пасланнікаў Яго, і не кажыце "Іх трое". І трымайцеся лепш за тое, што адзін (наш) Аллаг, і ўся хвала — Яму! Бацькам (для смертнага) не трэба прадстаўляць Аллага. Аллагу належыць усё на зямлі і ў небе. Яго, як паручыцеля дастаткова!

173. Сапраўды, ніколі не адмовіцца месія быць слугой Аллага, таксама як і анелы, блізкія да Аллага; а хто перастане пакланяцца Яму і будзе фанабэрыцца, тых збярэ Ён да Сябе (каб трымалі яны адказ перад Ім).

174. А тым, хто верыць і чыніць добрае, адплаціць Ён (адпаведнай) узнагародай і да яе яшчэ дадасць Сваіх шчодрасцяў. А ганарыстых і фанабэрыстых Ён падвергне жудасным пакутам; і не знойдуць

яны, акрамя Аллага, ні апякуна і ні памочніка сябе.

175. О людзі! Прыйшло да вас бясспрэчнае сведчанне ад вашага Уладыкі, — Мы вам паслалі яснае святло!

176. І тых, хто верыць у Аллага і цвёрда трымаецца Яго, увядзе Ён ва ўлонне Сваё і шчодрасцю Сваёй адорыць, простым шляхам да Сябе накіруе.

177. Яны чакаюць тлумачэнняў ад цябе. Скажы: "Аллаг дае вам тлумачэнне Сваё аб тых (якія спадчыну атрымліваюць па памерлых) па бакавой лініі (бацькоўскай): калі памрэ мужчына, які не меў дзяцей, і ў яго ёсць (зводная) сястра, ёй — палавіна ад таго, што ён пакінуў; а ён — па ёй спадчыну атрымае, калі яна памрэ бяздзетнай. А калі ў яе ёсць дзве сястры, то ім — дзве траціны з таго, што ён пакінуў. А калі ў яго браты ёсць і сёстры, то кожнаму мужчынскаму полу доля дзьвюх жанчын належыць." Так растлумачвае вам Аллаг, каб вы не памыліліся. Аллагу ўсё добра ведама.

**(У наступным нумары квартальніка пачынаем друкаваць пераклад суры Аль-Маіда — ТРАПЕЗА)**

يَٰٓأَيُّهَا ٱلَّذِينَ ءَامَنُوٓا۟ ءَامِنُوا۟ بِٱللَّهِ وَرَسُولِهِۦ وَٱلْكِتَٰبِ ٱلَّذِى
نَزَّلَ عَلَىٰ رَسُولِهِۦ وَٱلْكِتَٰبِ ٱلَّذِىٓ أَنزَلَ مِن قَبْلُ ۚ وَمَن
يَكْفُرْ بِٱللَّهِ وَمَلَٰٓئِكَتِهِۦ وَكُتُبِهِۦ وَرُسُلِهِۦ وَٱلْيَوْمِ ٱلْءَاخِرِ فَقَدْ
ضَلَّ ضَلَٰلًۢا بَعِيدًا ﴿١٣٧﴾
إِنَّ ٱلَّذِينَ ءَامَنُوا۟ ثُمَّ كَفَرُوا۟ ثُمَّ ءَامَنُوا۟ ثُمَّ كَفَرُوا۟ ثُمَّ ٱزْدَادُوا۟ كُفْرًا
لَّمْ يَكُنِ ٱللَّهُ لِيَغْفِرَ لَهُمْ وَلَا لِيَهْدِيَهُمْ سَبِيلًۢا ﴿١٣٨﴾
بَشِّرِ ٱلْمُنَٰفِقِينَ بِأَنَّ لَهُمْ عَذَابًا أَلِيمًا ﴿١٣٩﴾
ٱلَّذِينَ يَتَّخِذُونَ ٱلْكَٰفِرِينَ أَوْلِيَآءَ مِن دُونِ
ٱلْمُؤْمِنِينَ ۚ أَيَبْتَغُونَ عِندَهُمُ ٱلْعِزَّةَ فَإِنَّ ٱلْعِزَّةَ
لِلَّهِ جَمِيعًا ﴿١٤٠﴾
وَقَدْ نَزَّلَ عَلَيْكُمْ فِى ٱلْكِتَٰبِ أَنْ إِذَا سَمِعْتُمْ ءَايَٰتِ
ٱللَّهِ يُكْفَرُ بِهَا وَيُسْتَهْزَأُ بِهَا فَلَا تَقْعُدُوا۟ مَعَهُمْ
حَتَّىٰ يَخُوضُوا۟ فِى حَدِيثٍ غَيْرِهِۦٓ ۚ إِنَّكُمْ إِذًا مِّثْلُهُمْ ۗ
إِنَّ ٱللَّهَ جَامِعُ ٱلْمُنَٰفِقِينَ وَٱلْكَٰفِرِينَ فِى جَهَنَّمَ
جَمِيعًا ﴿١٤١﴾

# ГІСТОРЫЯ ДЗЯРЖАВЫ ІДЭЛЬ-УРАЛ

## Другі раздел

## Рэвалюцыя 1905 года

Пасля рэвалюцыі 1905 г., калі настала, праўда, адносная свабода друку і слова, цюрка-татарская інтэлігенцыя на ўсіх франтах, як палітычным, так і культурным, — вядзе работу ў напрамку адзінства цюркаў. Доказам гэтаму з`яўляюцца першы і другі мусульманскія з`езды ў 1905 і 1906 гг., якія адбыліся ў час Ніжнегародскага кірмашу, і арганізацыя палітычных партый у агульнацюркскам маштабе, як напрыклад, "Іттыфак", "Такчы" і Сацыял-Дэмакратычнай партыі. Акрамя гэтых агульных палітычных партый, у 1905 г. у Казані навучэнцы стварылі тайнае згуртаванне пад назовам "Шакірдлік". За вельмі кароткі час членамі гэтай арганізацыі становіцца не толькі ўся актыўная частка навучэнцаў Ідэль-Урала і Сібіры, але і Крыма. Арганізацыя гэта выпускае ў Казані свой нелегальны орган "Тараккі" ("Прагрэс"). Хоць праграма гэтай арганізацыі была даволі цьмяная, але ў агульным яна была накіравана супроць самаўладства і клікала нацыю да барацьбы за сваю самастойнасць. Арганізацыя гэта, удзельнічаючы ў вырашэнні ўсіх нацыянальных пытанняў, укл[illegible] да адкрыцця якой-небудзь школы ў самай глу[illegible]атарскай вёсцы, мела вельмі вялікі ўплыў на грамадска-палітычнае жыццё цюрка-татар. За гэта яна пастаянна падвяргалася праследванню з боку ўрада.

Самай характэрнай асаблівасцю пачатку XX ст. было з`яўленне так бы мовіць, "Мусульманскіх Дабрачынных Згуртаванняў". Існавалі яны легальна.

Акрамя дабрачыннай дзейнасці выконвалася не толькі культурная работа, але і палітычная. Ствараліся яны не толькі ў гарадах, але і ў вялікіх мусульманскіх вёсках. Аказваючы дапамогу бедным і хворым, гэтыя згуртаванні адчынялі бібліятэкі, рамесныя школы, выдавалі стыпендыі, арганізоўвалі кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы, прымалі чынны ўдзел ва ўгодках цюрка-татарскіх грамадска-палітычных дзеячаў і г.д. Асабліва вялікую паслугу прынеслі гэтыя згуртаванні ў дні рэакцыі, што настал і пасля рэвалюцыі 1905 г., калі яны, пад выглядам той ці іншай нагоды, прымалі чынны ўдзел у выбарах дэпутатаў у Дзяржаўную Думу.

Пачатак руска-японскай вайны абудзіў увесь цюркскі свет, у асаблівасці цюрка-татар Ідэль-Урала. У выдатнай перамозе японцаў і маральна-фізічным паражэнні рускай зброі ўсе цюркі былой Расіі бачылі прадвесніка вырашэння нацыянальна-палітычных пытанняў. З гэтай нагоды ў дні вайны была ўтворана нелегальная палітычная партыя "Хуррыят" ("Воля") з радыкальна-нацыянальнай праграмай. Гэта партыя прыцягнула да сябе шмат інтэлігенцыі. Арганізацыя гэта, прымаючы чынны ўдзел у тагачасным жыцці цюрка-татар, вяла агітацыю супроць урада, заклікала на старонках свайго друкаванага органа "Хуррыят" да ухілення ад вайсковай павіннасці. Яна таксама прыняла вялікі ўдзел ва ўсерасійскім мусульманскім з`езде, скліканым у 1905 г. падчас Ніжнегародскай ярмаркі і імкнулася накіраваць з`езд на рэвалюцыйны шлях. З`езд гэты, як вядома, раздзяліўся на ўмерана-канстытуцыйную і радыкальна-рэвалюцыйную групы. Дарэчы, невялікая дэталь — з прычыны таго, што граданачальнік кірмашу не дазволіў праводзіць з`езд, дэлегаты пад выглядам гуляння нанялі невялікі параход на Ацэ і, плывучы па рацэ, абмяркоўвалі і вырашалі свае палітычныя пытанні.

Пасля маніфеста 17-га кастрычніка 1905 г., які даў цюркам права на выданне перыядычнай літаратуры, у Ідэль-Урале пачынаецца ліхаманкавая дзейнасць па выданні газет і часопісаў. На працягу толькі аднаго года выйшла больш за 50 назваў газет і часопісаў.

Гэты ж маніфест адчыняе перад цюрка-татарскай грамадскасцю шырокае поле дзейнасці і ў галіне палітычнай. Так утварыліся палітычныя партыі: "Іттыфак" ("Згуртаванасць") і "Танчы", якія мелі фактычна праграму кадэтаў, але нацыянальна афарбаваную праграму накшлат сацыял-рэвалюцыянераў і сацыял-дэмакратаў. Гэтыя партыі выдавалі газеты і часопісы, прымалі чынны ўдзел у палітычным жыцці краіны, арганізоўвалі сялян і рабочых і наогул цюрка-татарскі народ. Супярэчнасці ў палітычных праграмах гэтых партый не перашкаджалі ім весці адну і тую ж палітыку ў нацыянальным пытанні, а менавіта: захоўваць самабытнасць цюрка-татар з аўтаномным кіраваннем ва ўсіх галінах жыцця, а таксама з утварэннем нацыянальных вайсковых падраздзяленняў з цюрка-татар (што дало б магчымасць вaскоўцам есці мусульманскія страву, маліцца, вывучаць каманды і статуты на зразумелай ім мове — *заўвага рэд.*). У гэты ж час сярод цюрка-татарскай моладзі ўтварылася група тэрарыстаў для барацьбы супроць шпіёнаў і правакатараў (якіх, вядома, засылала ў шэрагі рэвалюцыянераў царская ахранка — *заўвага рэд.*).

У выніку гэтай работы ў Дзяржаўнай Думе ўтварылася адзіная фракцыя, названая чыста па тактычных меркаваннях мусульманскай, а не цюркскай, якая абараняла інтарэсы ўсіх расійскіх мусульман. Акрамя таго, многія дэпутаты гэтай фракцыі аб'ядноўваліся вакол польскага прафесара Бадуэн дэ Куртанэ, які змагаўся за шырокае

самавызначэнне ўсіх нацыянальнасцей, якія насялялі Расію.

Калі настала рэакцыя і быў абнародаваны закон 3-га чэрвеня 1907 г., які замяніў структуру выбараў у Дзяржаўную Думу, больш за ўсіх пацярпела цюркская нацыя наогул, а цюрка-татары ў асаблівасці. Доказам гэтаму можа служыць наступнае: калі ў 1-й і 2-й Дзяржаўных Думах колькасць дэлегатаў ад цюркскага насельніцтва было больш за 40, то пасля закона 3-га чэрвеня, гэта значыць у 3-й Дзяржаўнай Думе, колькасць дэпутатаў ад цюркскага насельніцтва не перавышала 10, а ўжо ў 4-й Дзяржаўнай Думе было толькі 7 дэпутатаў. Акрамя таго, закон гэты моцна змяніў і палітычны воблік самых дэпутатаў, бо яны маглі быць абранымі толькі па жаданні якой-небудзь рускай курыі.

У духоўна-культурнай вобласці рэакцыя была не менш моцная, чым у палітычнай і таму настаўнікам цюрка-татарам працаваць сярод казак-кіргізаў і туркестанцаў забаранялася. У Ідэль-Урале былі прыняты вялікія абмежаванні для адкрыцця свецкіх школ і выкладання свецкіх навук у мусульманскіх духоўных вучылішчах — медрэсе. Акрамя гэтага, цюрка-татары, якія атрымалі адукацыю за мяжой (Турцыя, Егіпет, Індыя, Аравія і інш), не мелі права стаць мулламі, г.зн святарамі. Нягледзячы на тое, што папярэдняя цэнзура для перыядычнага друку адменялася наогул, для цюрка-татарскага друку яна ўзнаўляецца адміністратыўнымі шляхамі і становішча гэта працягвалася да самай рэвалюцыі 1917 г.

Да існуючых абмежаванняў адносна колькасці дэпутатаў у мясцовых органах улады ад цюрка-татар у гарадскіх думах гарадоў Ідэл-Урала, колькасць якіх не дасягала больш за 20% ад колькасці дэпутатаў ад рускіх, рэакцыя, якая наступіла пасля рэвалюцыі 1905 г. прынесла новае абмежаванне, на гэты раз у

адносінах да адвакатаў цюрка-татар. Норма 10% пры прыёме ў саслоўе адвакатаў "инородцев", якая, дарэчы, прымянялася толькі ў адносінах да яўрэяў, асобным цыркулярам урада была пашырана і на цюрка-татар Ідэль-Урала. Такім чынам рэвалюцыя 1905 г. не толькі не вырашыла набалелыя нацыянальныя пытанні, але, наадварот, наступіўшая пасля яе рэакцыя прынесла новыя абмежаванні.

Для больш выразнай ілюстрацыі прыводзім яшчэ адзін факт, а менавіта: просьбу цюрка-татарскага насельніцтва аб уключэнні расходаў на нацыянальныя школы ў агульнадзяржаўны бюджэт, урад адмовіў і матываваў гэта тым, што галоўны даход дзяржавы складае прыбытак ад манаполіі на спіртныя напоі, а мусульмане, вера якіх забараняе ўжываць спіртныя напоі, п`юць мала і таму задаволіць просьбы мусульман было бы несправядліва ў адносінах да рускіх.

Аднак ніякія меры рускай рэакцыі не маглі ўжо затрымаць працу цюрка-татарскага народа, які стаў на шлях адраджэння. Таму, нягледзячы на ўсе перашкоды і забароны ўрада, самаадданая праца мусульманскіх дабрачынных і іншых згуртаванняў, а таксама асобных людзей, прывяла да таго, што ў 1913-1914 гг. усе дзеці школьнага ўзросту (хлопчыкі і дзяўчынкі) былі ахоплены нацыянальнай школай на 100%. Кнігадрукаванне зрабіла вялікія поспехі. На выставе наладжанай у Санкт-Пецербургу пры дэпартаменце друку ў 1914 г., колькасць выданых у Ідэль-Урале кніг на цюркскай мове перавысіла больш за 100 назваў.

Руская рэакцыя ў адным пытанні прынесла карысць цюрка-татарам, а менавіта: усе палітычныя партыі, якія выйшлі на палітычную арэну ў выніку пераймання (мэлпавання) рускім партыям (кадэтам, сацыял-дэмакратам і сацыял-рэвалюцыянерам) як з`ява ненацыянальная, захірэлі, а на іх месцы

ўтварыўся нябачны нацыянальны цэнтр, які кіраваў усімі нацыянальнымі справамі цюрка-татар. У час сусветнай вайны афіцыйным органам гэтага цэнтра было часовае бюро пры мусульманскай фракцыі Дзяржаўнай Думы. Бюро збіралася на розныя нарады пад рознымі прычынамі для вырашэння надзённых пытанняў.

## Трэці раздзел

# Першая сусветная вайна і яе наступствы

У час сусветнай вайны цюрка-татары як Крыма, так і Ідэль-Урала як адзіны народ з усіх мусульман Расіі, выконваючы вайскавую павіннасць, пацярпеў больш, чым каўказцы і туркестанцы. Хоць цюрка-татары былі сярод тых, хто спадзяваўся на паражэнне Расіі ў вайне і гарадское насельніцтва ўсімі сродкамі імкнулася ўхіліцца ад мабілізацыі, але вайна моцна адбівалася на дабрабыце цюрка-татарскай вёскі. Трэба зазначыць і тое, што цюрка-татарская інтэлігенцыя ў сваім байкоце вайны зайшла вельмі далёка, так што колькасць афіцэраў цюрка-татар складала вельмі малы працэнт у параўнанні з салдатамі з цюрка-татар.

Хоць вайна забірала вельмі многа жыццяў і прыносіла эканамічнае збядненне, цюрка-татары цярпелі ў надзеі на лепшае, бо ўсе войны Расіі, нават у выпадку перамогі яе зброі, завяршаліся рэформай, а паражэнне павінна было скончыцца рэвалюцыяй, як і пасля руска-японскай вайны, ад каторай цюрка-татары таксама чакалі вырашэння нацыянальнага пытання. Сусветная вайна, якая з першых дзён прыняла, насуперак імкненню яе ўдзельнікаў, характар вызваленчага руху паняволеных народаў, пераконвала цюрка-татар у правільнасці іх пункту гледжання.

Заграні́чная група цюрка-татар, якая дабівалася прызнання Еўропай права цюркскіх народаў на самавызначэнне, працавала ў кантакце з бюро пры мусульманскай фракці Дзяржаўнай Думы, а на Лазанскім кангрэсе, які адбыўся ў 1916 г., пад старшынствам прафесара Стамбульскага універсітэта Юсуфа Акчура-Бея (з Казані), выступала ад імя нацыянальнага цэнтра цюрка-татар. Яна ж арганізавала асобныя атрады з палонных цюрка-татар у Германіі для будучай барацьбы з рускай уладай.

У выніку сусветнай вайны ў 1917 г. пачынаецца другая расійская рэвалюцыя. Цюрка-татары прынялі ў ёй чынны ўдзел, выступаючы ўсюды кампактнай масай. Часы першай рускай рэвалюцыі 1905 г., калі цюрка-татары раздрабіліся на шэраг асобных груп і партый, і нават уступалі ў рускія партыі, адыйшлі ў нябыт. Нацыянальная самасвядомасць за апошнія гады пусціла ў цюрка-татарскіх масах глыбокія карані; яны асэнсавалі сваё адзінства і выступалі сумесна, ствараючы на месцах і ў цэнтры свае нацыянальна-рэвалюцыйныя арганізацыі. У Петраградзе членамі мусульманскай фракцыі былой Дзяржаўнай Думы і членамі бюро пры гэтай фракцыі (нацыянальны цэнтр) была створана цэнтральная арганізацыя пад назвай "Усерасійскае Мусульманскае Рэвалюцыйнае Бюро". Гэтае цэнтральнае Бюро арганізавала ўсерасійскі мусульманскі з`езд, які быў скліканы 1-га траўня 1917-га г. ў Маскве. У з`езде ўдзельнічала больш за 900 дэлегатаў, якія прадстаўлялі 30-мільённае мусульманскае насельніцтва Расіі.

Самым сур`ёзным і вострым пытаннем, на абмеркаванне якога з`езд патраціў шмат часу і ўвагі, было пытанне аб будучай форме дзяржаўнага ўладкавання Расіі. Удзельнікі з`езда добра разумелі, што вырашэнне гэтага пытання цесна звязана з вырашэннем самага актуальнага ў Расіі нацыянальнага пытання. Пераважнай большасцю

з`езд пастанавіў, што Расія павінна быць федэратыўна-дэмакратычнай рэспублікай, пабудаванай на нацыянальных пачатках. Разгледзеўшы пытанні аграрнае, рабочае і пытанні асветы, з`езд для каардынацыі грамадска-палітычнай дзейнасці мусульман на месцах і для зносін з Часовым Урадам выбраў свой выканаўчы орган — Усерасійскі Мусульманскі Камітэт, знаходжанне якога планавалася ў Петраградзе. Прызначыўшы дзень і месяц склікання Другога Ўсерасійскага З`езда — у ліпені ў Казані — з`езд спыніў сваю работу. На другі З`езд, скліканы ў Казані, прадстаўнікі Каўказа, Туркестана і Крыма, а таксама Казахстана не з`явіліся (з прычыны анархіі ў Расіі), і таму з`езд гэты павінен быў прызнаць сябе з`ездам толькі цюрка-татар Ідэль-Урала. У той жа час у Казані былі скліканы два іншых усерасійскія з`езды: 1 — з`езд мусульманскага духавентсва і 2 — усерасійскі мусульманскі вайсковы з`езд. Кожны з гэтых трох з`ездаў займаўся сваёй справай: з`езд духоўны быў заняты пытаннямі рэлігіі і рэлігійнага ўпраўлення, вайсковы з`езд абмяркоўваў пытанне аб стварэнні нацыянальных цюркскіх палкоў, а палітычны з`езд прыняў пастанову аб абвяшчэнні для цюрка-татар Ідэль-Урала культурна- нацыянальнай аўтаноміі. нарэшце, усе тры з`езды на аб`яднаным паседжанні абвясцілі для Ідэль-Урала культурна-нацыянальную аўтаномію. Было абрана часовае бюро для склікання нацыянальнага сходу, які і быў скліканы ў горадзе Уфе 22-га лістапада таго ж 1917 г.

Нацыянальны сход выпрацаваў асноўныя законы культурна-нацыянальнай аўтаноміі і, зацвердзіўшы іх, абраў нацыянальнае ўпраўленне, якое складалася з трохведамстваў: духоўнага, фінансавага і культурна-асветнага. Далей гэтым жа нацыянальным сходам была абрана асобая калегія, якая складалася з трох асоб, для адпраўкі ў Еўропу, на Версальскую пакаёвую канферэнцыю. Самае ж

галоўнае, нацыянальны сход выбраў яшчэ асобую калегію для распрацоўкі пытанняў аб стварэнні асобнага цюрка-татарскага — Ідэль-Урал — аўтаномнага штата з вельмі шырокімі правамі, як этап да самастойнасці на выпадак немагчымасці суіснавання з Расіяй. Гэты нацыянальны сход даў цюркам, якія насялялі Ідэль-Урал, новую назву, наіменаваўшы нацыянальнае управленне "цюрка-татарскім". І таму з гэтага часу ўсе цюркі Ідэль-Урала пачалі называцца цюрка-татарамі; таму і ў гэтым нарысе назва "цюрка-татары" ўжываецца на падставе пастановы нацыянальнага сходу.

Мусульманскі вайсковы з`езд вылучыў свой выканаўчы орган — Усерасійскае мусульманскае вайскавое шуро (савет), якое і прыступіла да стварэння нацыянальных палкоў. Вайскавое шуро, з прычыны анархіі, якая пачалася ў Расіі, і перашкоды ў адносінах з іншымі цюркскімі абласцямі, не магло ажыццяўляць дзейнасці ў агульнарасійскім маштабе, а таму яго дзейнасць абмяжоўвалася толькі тэрыторыяй Ідэль-Урала. Вайскавое шуро пры падтрымцы нацыянальнага цэнтра нястомна працавала над стварэнем нацыянальных палкоў шляхам вылучэння салдатаў цюрка-татар з рускіх палкоў, ствараючы палкі і батальёны ў тых месцах, дзе было многа татар-мусульман, і асобныя роты, дзе такіх было менш. Так на румынскім фронце была створана цэлая армія (узначаліў яе генерал-лейтэнант Юсуф Сулькевіч — беларускі татарын — *заўвага рэд.*), а на рыжскім фронце — дывізія.

З прыходам бальшавікоў да ўлады вельмі замарудзілася вырашэнне ўсіх нацыянальных задач. Адносіны цюркскага насельніцтва да бальшавікоў былі яўна адмоўным, а таму пасля першага выступлення бальшавікоў у Петраградзе 4-га ліпеня Ўсерасійскі Мусульманскі Рэвалюцыйны Камітэт прапанаваў Камітэту Дзяржаўнай Думы для выратавання становішча арганізаваць кааліцыйны

ўрад з прадстаўнікоў нацыянальнасцяў, але ўрад не прыняў гэтай прапановы, у выніку чаго Часовы Ўрад вымушаны быў уступіць сваё месца бальшавікам. Аднак Нацыянальнае Ўпраўленне і Вайскавое шуро яшчэ доўга вялі барацьбу з бальшавікамі і да 12-га красавіка 1918 г. з'яўляліся фактычнымі гаспадарамі становішча ўсяго Ідэль-Урала. Увесь гэты час нацыянальныя цюрка-татарскія палкі неслі ахову гарадоў Ідэль-Урала ад бальшавіцкіх пагромаў, падпарадкоўваючыся свайму Нацыянальнаму Цэнтру. Створаная на румынскім фронце мусульманская армія па загаду таго ж Цэнтра рухалася на дапамогу Крымскаму нацыянальнаму ўраду, але германскае камандаванне на Украіне, па незразумелых прычынах, перашкодзіла таму руху.

У пачатку красавіка 1918 г. бальшавікі пасля закалючэння Брэст-Літоўскага міру накіравалі вялікія атрады на Казань і Уфу (Казань — вайскавы цэнтр, месцазнаходжання вайсковага шуро, а Уфа — нацыянальны цэнтр, месцазнаходжанне Нацыянальнага Ўпраўлення). Пасля шэрагу баёў паміж нацыянальнымі часцямі і бальшавікамі апошнія атрымалі перамогу, у выніку чаго Казань і Уфа былі ўзяты імі. Пасля ўзяцця гэтых гарадоў бальшавікі чыста па-бальшавіцкаму разгрымілі нацыянальныя арганізацыі, распусцілі нацыянальныя палкі, канфіскавалі нацыянальную казну і арыштавалі нацыянальных правадыроў, якія не паспелі своечасова схавацца. Але бальшавікі не доўга святкавалі сваю перамогу. У час выступлення чэшскіх атрадаў ў ліпені 1918 года паўстала цюрка-татарскае насельніцтва і аднавіла свой Нацыянальны Цэнтр і свае палкі.

У верасні 1918 г., у час дзяржаўнай нарады ў горадзе Уфе, Нацыянальны Цэнтр заключыў дамову з Урадам Устаноўчага Сходу аб сумеснай барацьбе з бальшавікамі на грунце прызнання права цюрка-татарскага народа на самавызначэнне; пасля гэтага

нацыянальны Цэнтр прыняў удзел у раганізацыі агульнага ўрада. Але рэакцыйны Сібірскі рускі ўрад Калчака, захапіўшы уладу з рук абранай на Уфімскай дзяржаўнай нарадзе дырэкторыі, змагаўся не толькі з бальшавікамі, а не ў меншай ступені ён змагаўся і з цюркскім нацыянальным рухам. Ён не прызнаваў нацыянальных цюркскіх арганізацый і не дазваляў стварэнне нацыянальнага войска. Нацыянальны полк, стораны ў дні дзяржаўнага сходу ва Уфе, быў уключаны ў адну з дывізій Калчака пад найменнем 16-га татарскага палка. Мала гэтага, урад Калчака спрабаваў нават арыштаваць муфція як аднаго з членаў нацыянальнага ўпраўлення. Такім чынам, цюрка-татары апынуліся паміж двума агнямі: з аднаго боку — з усімі іх жудасцямі бальшавікі, з другога боку — рускія чорнасоценцы. Такая палітыка Калчака раскрыла перад бальшавікамі шырокую прастору для агітацыі і яны пачалі выступаць у ролі абаронцаў прыгнечаных народаў, абяцаючы апошнім не толькі самавызначэнне, але нават самастойнасць. З прычыны рэакцыйнай палітыкі Калчака адвярнуліся ад яго не толькі цюрка-татары, а і наогул цюркі, якія імкнуліся шляхам каласальных ахвяр да сваёй нацыянальнай волі, у тым ліку дэмакратычна настроенае рускае грамадства. Калчак, застаўшыся толькі са сваімі чорнасоценцамі, гіне. Застаўшыеся ў жывых ніжнія чыны татарскага нацыянальнага палка, разам з многімі цюрка-татарамі, вымушаны былі эміграваць на Далёкі Усход.

**(заваршэнне нарыса будзе надрукавана ў наступным нумары квартальніка "Байрам")**

# ВАЙСКОВЫЯ ДЗЕІ ЛІТОЎСКІХ ТАТАР

## ХРОНІКУ СКЛАЎ ПОЛЬСКІ ГІСТОРЫК Станіслаў Крычыньскі

*(апрацаваў і падрыхтаваў для друку Ян Тышкевіч)*

**1319** Першы ўдзел у абароне ітарэсаў народаў Беларусі і Літвы на баку Гедыміна ў бітве з крыжакамі.

**1324** Францысканскі манах Лука Вадзінг, гаворачы пра насельнікаў Літвы, успамінае "Скіфаў, якія прышлі сюды з зямлі нейкага хана, а ў малітвах карыстаюцца азіяцкай мовай".

**1350** У гэтым годзе татарскія атрады ў войску Кейстута бароняць літоўскія землі ад наезду Казіміра Вялікага.

**1362** Удзел татар у вайне Альгерда за Падолле.

**1386** Пры ўрачыстым уездзе ў Кракаў 12 лютага 1386 г. Ягайла сярод іншых меў пры сабе атрад татар. Гэта першыя татары на службе польскага караля.

**1397** Татарскі хан Тахтамыш браў удзел у паходзе Вітаўта на ніжні Дон і Крым. Вітаўт пасяліў сем'і татар на землях дзяржавы.

**1399** Удзел Тахтамыша і яго войска ў бітве Вітаўта з Залатой Ардой на Ворскле.

**1410** Удзел татар пад камандай Джалал-эд-Дзіна ў бітве пад Грунвальдам на баку Вітаўта. Удзел гаспадарскіх татар у гэтай бітве.

**1418** Удзел татарскай конніцы ў баях на Падоллі супроць крымскіх татар.

1422 Пад Луцкам у лагеры літоўскіх воінаў было некалькі тысяч татар.

1430 На з'ездзе ў Троках пры Вітаўце ў ахове былі літоўскія татары.

1432 Вялікі князь Свідрыгайла меў на службе 3 тысячы татарскіх коннікаў пад началам Цеміра Туган-бея.

1517 У войску К.Астрожскага ў паходзе на Пскоў былі таксама літоўскія татары.

1565 26 студзеня літоўскія войскі з удзелам татар разбілі на р. Ула маскоўцаў. Узначальваў татараў Мікалай Радзівіл Руды.

1572 Харугва Цемрука Шынкевіча выгнала за Прут валохаў.

1578 Харугва Цемрука Шынкевіча вызначылася ў баях з гданьчанамі пад Тчэвам і Любяшоўскім возерам.
У войску Стафана Батуры ў вайне з Масквой за Інфлянты бралі ўдзел татары.

1605 27 верасня пад Кіргольмам бралі ўдзел у бітве супроць шведаў 400 татарскіх коннікаў.

1608 У Інфлянтах несла службу татарская рота (200 чалавек).

1610 Рота Ібрагіма Аслановіча ўваходзіла у склад войска, якое асаджала Смаленск.

1631 Існавалі наступныя татарскія харугвы (у дужках названы харунжыя): Усланская (Чумбай Улан Малушыньскі), Найманская (Ібрагім Кеньскі), Юшынская (Давыд Хазбіевіч), Ялаірская (Гайляш Заблоцкі), Кандрацкая (Ях'я Завацкі), Барлінская (Шахманцар Рудніцкі). Яны бралі ўдзел у выправе на Смаленск караля Уладзіслава IV.

1653 У гэтым годзе ўспамінаюцца яшчэ татарская харугва Яўхіма Сялецкага (120 вершнікаў), "казацкая харугва" князя Дзімітра Вісьнявецкага (начальнік Станіслаў Друшкевіч, 250 вершнікаў).

1654 На службе ў караля 15 татарскіх харугваў, у якіх 1400 вершнікаў: у Мустафы Судзіча, Галембека Мураўскага, Яна Сялецкага, Адама Турашоўскага і Багдана Мурзы — па 120 вершнікаў; у Багуслава Ляшчынскага — 155, у Бараноўскага — 70, у Мікалая Падгайскага — 86, у Міхаіла Быдлоўскага — 76, у Адамовіча Тальковіча — 120, у Багдана Лося — 89 і Аляксандра Крычынскага — 100 вершнікаў. Усе гэтыя харугвы ў час войнаў з казакамі (1648-1652) ваявалі пад началам Януша Радзівіла або Ярэмы Вісьнявецкага.

1655 і 1656 Пасля паражэння каронных войск пад Грудкам татарскі ротмістр Аляксандр Крычыньскі 29 верасня ў Брухнальскім баі ратуе жыццё гетману Патоцкаму. У снежні 29 дня некалькі харугваў татарскіх далучылася да Тышавецкай канфедэрацыі. Пад началам гетмана Чарнецкага татары бяруць удзел у разгроме шведаў каля Казяніцаў, а таксама ўдзельчаюць татары ў паходзе на Данію.

1660 У гэтым годзе татарскімі харугвамі камандавалі: Гадэт Халецкі, Самуэль Сіліманович, Мустафа Багдановіч, Мустафа Талькоўскі, Бяхір Мураўскі, Халембек Мураўскі.

1661 У Цудноўскай бітве татарскія харугвы першымі дасягнулі табару непрыяцеля. У гэтым жа годзе было 20 татарскіх харугваў, каля 3200 вершнікаў.

1667 Татарскія харугвы прымаюць удзел у вайне з

казакамі пад камандаваннем Яна Сабескага.

**1671** 21 кастрычніка пад Калінікамі б'юцца татарскія харугвы князя Астрожскага пад началалм Чаркаса і Крычыньскага, а таксама татарска-малдаўская харугва Яна Піва. У гэты час вядомы таксама харугвы Самуэля Мірзы Карыцкага і Данілы Шаблоўскага.

**1673** У час "бунту ліпкаў" 9 лістапада з туркамі пад Хоцінам на баку Рэчы паспалітай біліся 3 харугвы татар (324 вершнікі пад началам Аляксандра Шэжуцкага, Крыштафа Шахманцара і Багдана Карыцкага).

**1679** Пасля Журавінскай дамовы ўпамінаюцца наступныя татарскія харугвы: Мустафы Сулькевіча (100 вершнікаў), Самуэля Крэчаўскага (88 вершнікаў), Халімбека Басацкага (95 вершнікаў), Юхі Крабіцкага (98 вершнікаў).

**1683** 7 кастрычніка ў бітве пад Парканамі татарскі ротмістр Самуэль Крачэўскі ратуе жыццё караля-гетмана Яна Сабескага.

**1700** Татары літоўскія прымаюць удзел у баях пад Рыгай; удзельнічаюць у бітве пад Алькенікамі.

**1700 — 1717** Удзел татар у Паўночнай вайне.

**1715** Татары літоўскія прымаюць удзел у тарнагродскай канфедэрацыі.

**1716** "Дэпартамент размяшчэння кароннага войска" называе лёгкія татарскія харугвы (лічбы — колькасць вершнікаў): Паплаўскага і Серштофа — 125, Адамовіча і Юзафа Улана — 125, Давыда Улана і Мурзы — 125, Дабравольскага і Стжашкоўскага — 125, Чумбая Улана — 50.

**1733** Сфарміраваны татарскія вайсковыя часці: Чацвёрты полк авангарднай аховы Вялікага княства Літоўскага, якім па чарзе камандуюць: (пазней называўся палком лёгкіх каралеўскіх уланаў) палкоўнікі Сігадзіньскі, Чумбай Мірза Рудніцкі, Юсуф Беляк (пазней генерал), Мустафа Ахматавіч. Пяты полк авангарднай аховы Вялікага княства Літоўскага ўзначальвалі па чарзе палкоўнікі Галляшэвіч, А.М.Карыцкі, Горыч, Бышэўскі, Лісоўскі.

**1792** 10 чэрвеня пераможная бітва татарскага палка конніцы пад камандай генерала Юсуфа Беляка з рускімі каля Стоўбцаў.

**1794** Удзел татараў у паўстанні Касцюшкі супроць царскага самаўладства за непадлегласць.

**1812** Удзел татар у руска-французскай вайне 1812-1814 гадоў. Татары былі пераважна ў складзе рускага войска, адзін эскадрон на баку Напалеона I.

**1831 — 1832** Удзел татар у паўстанні за незалежнасць Рэчы Паспалітай.

**1863 — 1864** Удзел татар у паўстанні пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага за незалежнасць ад Расіі.

**1939 — 1945** Удзел татар у вайне супроць фашысцкай Германіі.

# УДЗЕЛЬНІКІ
# ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ – МУСУЛЬМАНЕ МЯДЗЕЛЬСКАГА ПРЫХОДА – ДЖАМІЯТА

**СМОЛЬСКІ** Аляксандр, сын Фатымы і Ібрагіма. Нарадзіўся ў 1920 г. ў вёсцы Баяры Мядзельскага раёна. Загінуў на тэрыторыі Польшчы. Засталіся дзве дачкі-сіроткі.

**СМОЛЬСКІ** Хасень, сын Фатымы і Ібрагіма. Нарадзіўся ў 1923 г. ў вёсцы Баяры Мядзельскага раёна. Загінуў у 1945 г. на тэрыторыі Германіі. Быў нежанаты.

**СМОЛЬСКІ** Якуб, сын Айшы і Амурата. Нарадзіўся ў 1922 г. ў Паставах. Загінуў у 1944 г. ў Германіі. Быў нежанаты.

**СМОЛЬСКІ** Якуб, сын Хасеня. Нарадзіўся ў Паставах. Загінуў на тэрыторыі Германіі. Засталіся тры дачкі-сіроты.

**ЯСІНСКІ** Хасень, сын Зулі і Адама. Нарадзіўся ў 1920 г. ў в. Баяры Мядзельскага раёна. Загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Засталася сіротка Зіна.

**(Працяг будзе)**

# УДЗЕЛЬНІКІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ З ЛІКУ СМІЛАВІЦКІХ ТАТАР, ШТО ДАЖЫЛІ ДА 50-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ АД ФАШЫЗМУ

**(працяг, пачатак у № 2 за 1994 г.)**

***Франтавікі:***

АСАНОВІЧ Бекір Хасеневіч (1920 г.)[1], АСАНОВІЧ Сюлейман Хасеневіч (1926), ГЕМБІЦКІ Хасень Хусаінавіч (1918), ГЕМБІЦКІ Давыд Аляксандравіч (1925), ІЛЬЯСЕВІЧ Мухамед Аляксандравіч (1918), ІЛЬЯСЕВІЧ Сапар Мустафавіч (1923), ІЛЬЯСЕВІЧ Сюлейман Аляксадравіч (1924), КАНАПАЦКІ Адам Хасеневіч (1910), КАНАПАЦКІ Аляксандр Мухарэмавіч (1904), КАНАПАЦКІ Адам Зянонавіч (1926), ПАЛТАРЖЫЦКІ Сюлейман Якубавіч (1911), ХАСЯНЕВІЧ Якуб Аліевіч (1926), ХАСЯНЕВІЧ Мустафа Аляксандравіч (1926), ЯКУБОЎСКІ Аляксандр Сюлейманавіч (1926), ЯКУБОЎСКІ Мустафа Ібрагімавіч (1926).

***Партызаны:***

АСАНОВІЧ Мустафа Хасеневіч (1908), АСАНОВІЧ Сапар Хасеневіч (1918), ГЕМБІЦКІ Якуб Хасеневіч (1927).

## СУСТРЭЧА ВЕТЭРАНАЎ

3 ліпеня 1994 г. у нядзелю, сабраліся мясцовыя татары-мусульмане г.п. Смілавічы ў хаце інвалда Вялікай Айчыннай вайны Ільясевіча Сапара

---

[1] У дужках пазначаны год нараджэння ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны.

Мустафавіча (вул. Наберажная, 3) каб адзначыць вялікае свята — 50-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прыйшлі тыя, хто дажыў да гэтага светлага дня. А іх засталося зусім няманога — 18 удзельнікаў апошняй вайны.

***Сярод іх франтавікі:***

КАНАПАЦКІ Аляксандр Мухарэмавіч (1904), КАНАПАЦКІ Адам Хасеневіч (1910), ПАЛТАРЖЫЦКІ Сюлейман Якубавіч (1911), ГЕМБІЦКІ Хасень Хусаінавіч (1918), АСАНОВІЧ Бекір Хасеневіч (1920), ІЛЬЯСЕВІЧ Магамет Аляксандравіч (1918), што з першага да апошняга дня былі на вайне. ***Улетку 1944 года пайшлі на вайну:*** ІЛЬЯСЕВІЧ Сюлейман Аляксандравіч (1924), ЯКУБОЎСКІ Аляксандр Сюлейманавіч (1926), КАНАПАЦКІ Адам Зянонавіч (1926), АСАНОВІЧ Сюлейман Хасеневіч (1926), ХАСЯНЕВІЧ Якуб Аліевіч (1926), ІЛЬЯСЕВІЧ Сапар Мустафавіч (1923), ГЕМБІЦКІ Давыд Аляксандравіч (1925), ЯКУБОЎСКІ Мустафа Ібрагімавіч (1926), ХАСЯНЕВІЧ Мустафа Аляксандравіч (1926).

***Ваявалі ў партызанскіх атрадах на тэрыторыі Міншчыны:***

АСАНОВІЧ Сапар Хасеневіч (1918), яго родны брат АСАНОВІЧ Мустафа Хасеневіч (1908) і ГЕМБІЦКІ Якуб Хасеневіч (1927).

З асаблівым хваляваннем чытаў ЯСІН за душы палеглых на вайне ветэран і інвалід Вялікай Айчыннай вайны (ён жа пацярпеў і пад час сталінскіх рэпрэсій на Беларусі) смілавіцкі імам Адам Хасеневіч Канапацкі. Гучалі ўспаміны пра тых, хто не прыйшоў з вайны. А такіх мусульман са Смілавіч вельмі шмат — па аднаму, а то і па два з кожнай хаты (дарэчы наш квартальнік пачаў друкаваць спіс смілавіцкіх татар, якія загінулі на вайне; гл. № 2, 1994 г.).

Затым адбылася гаворка пра справы надзённыя. Раіліся, як аднавіць тое, што было знішчана ў мінулыя гады. Абураліся мусульмане, што зруйнавалі ў гады так званай "калектывізацыі" мячэць, якая была пабудавана ў м. Смілавічы яшчэ ў 1856 годзе. Дамовіліся аднаўляць мячэць на тым гістарычным месцы, дзе яна раней стаяла (вул. Мячэтная — цяпер Нарыманава). Але для гэтага патрэбна рашэнне мясцовых улад і добрая воля тых гаспадароў, якія ўступілі б па сотцы-дзве зямлі ад сваіх пляцаў на будоўлю мячэці.

Напрыканцы сходу старшыня смілавіцкай мусульманскай абшчыны Аляксандр Сапаравіч Палтаржыцкі і віцэ-прэзідэнт Згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Ібрагім Канапацкі ўручылі мусульманам — удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны мусульманскую літаратуру і грашовую дапамогу ад спонсэраў з маскоўскага ісламскага цэнтра.

***Наш карэспандэнт.***

# БЕРАГ ВАНДРАВАННЯЎ, ЦІ АДКУЛЬ У БЕЛАРУСІ МЯЧЭЦІ

## (заўвага мусульманіна)

Не будучы літаратарам, а проста зацікаўленым чытачом, я хачу адзначыць актуальнасць кнігі А.І.Лакоткі, якую выдала выдавецтва "Навука і тэхніка" у Менску ў 1994 г.

Гэта навукова-папулярнае выданне часткова закрыла той прабел, які існуе з даўніх часоў у адлюстраванні гісторыі, традыцый і звычаяў аднаго з многіх народаў, насяляючых Беларусь. Кніга актуальная і таму, што напрыканцы гэтага стагоддзя мы, татары, будзем адзначаць 600-годдзе пасялення нашых продкаў на землях Беларусі. І зусім не-абыякава і для дзяржавы, і для народаў, насяляючых

Беларусь, а хто ж гэта жыве побач з імі на працягу стагоддзяў і ўсё ж у нечым адрозніваецца ад астатніх. У чым жа розніца? Як яны, татары, з'явіліся на гэтай зямлі? І што гэта за рэлігія такая Іслам?

На гэтыя і іншыя пытанні дае ў даволі даступнай форме адказы названая ў загалоўку кніга аўтара, доктара архітэктуры А.І.Лакоткі. Пры напісанні кнігі аўтар карыстаўся вялікай колькасцю гістарычных крыніц, дае многа ілюстрацыйнага матэрыялу. Усё гэта дазваляе чытачу больш глыбока азнаёміцца з тэмай і шырэй пазнаць гісторыю свайго краю.

Трэба адзначыць тое, што аўтар кнігі не татарын, але, абапіраючыся на гістарычныя і літаратурныя матэрыялы, на свой уласны вопыт, даволі аб'ектыўна і поўна расказаў чытачам пра татар — самабытны, своеасаблівы, са сваімі традыцыямі, сваёй верай народ, які на працягу вякоў жыве ў згодзе з беларускім і другімі народамі, насяляючымі гэты край.

Прачытаць кнігу А.І.Лакоткі будзе карысна як для навукоўцаў, так і для кожнага жыхара Беларусі.

Кніга мае наклад 6 тыс. паасобнікаў. Лічу, што гэта мала, пажадана, каб было хоць 20 тыс. Але перад тым, як надрукаваць яе большым накладам, добра было б унесці ў яе невялікія папраўкі, удакладненні, дапаўненні, што, на маю думку, пасадзейнічала б павышэнню яе ўзроўню і навуковаму абгрунтаванню. Вось мае прапановы:

**1.** Старонка (далей ст.) 21 — паказаны гады жыцця прарока Мухаммеда 571-638, хоць у многіх іншых крыніцах даюцца даты 570-632, ды і ў самой кнізе аўтара на ст. 23 гаворыцца аб годзе смерці Мухаммеда 632.

**2.** Ст. 24 — у кнізе даецца слова джэміят, але больш правільна
было б джаміят, ад слова джама, джамія.

3. Ст. 29 — у кнізе “Татары Беларусі з'яўляюцца продкамі кіпчакскіх плямёнаў...”. Трэба не “продкамі”, а “нашчадкамі”.

4. Ст. 30 — у кнізе “...пасля смерці прарока Мухамеда (638 г.)” трэба паправіць на (632).

5. Ст. 33 — у кнізе “Вылучаліся вялікія набажэнствы (гужэль) і меней значныя (абдэст)”.

Тут ужо больш значная памылка, бо ў сапраўднасці — абдэст — гэта не назва набажэнства, а спецыяльнае, рытуальнае мыццё некаторых частак цела (рукі, галава, ногі) перад малітвамі. Гусль, гусель, гусуль (не гужэль!) — таксама спецыяльнае, рытуальнае мыццё ўсяго цела перад малітвай.

6. Ст. 34 — у кнізе “Татары Беларусі захавалі звычаі святкавання традыцыйных святаў. Яны таксама прыпадалі на пятніцу”. Апошні сказ трэба апусціць, бо не заўсёды іншыя традыцыйныя святы прыпадаюць на пятніцу.

7. Ст. 34 у кнізе “сваякоў, учыніць іясенне (малітву, ад арабскага “іесін”, першыя літары пачатковага і апошняга з трыццаці шасці вершаў карана)”.

Замест гэтага дакладней было б напісаць: “...прачытаць “Ясін” (малітву, 36-у суру Кур`ана, назва якой узята ад двух літар арабскага алфавіта — “я” і “сін”).

8. Ст. 34 — у кнізе “Пасля намазу каля мячэці адбываўся рытуал ахвяравання (курбан) у памяць прарокаў”.

Трэба замяніць апошнія словы на “...у гонар Аллага”, бо прарок Абрагам (Ібрагім) у знак сваёй адданасці Аллагу хацеў ахвяраваць свайго сына Ісмаіла, але Аллаг такую ахвяру не прыняў (пашкадаваў), а замяніў на барана.

9. Ст. 34 — у кнізе “У ахвяру звычайна прыносілі каня, вала, карову, альбо авечку”. Трэба “вала, быка альбо барана”.

**10.** Ст. 35 — у кнізе "...даў знак і бычкі былі забіты". Трэба "...даў знак і бычкі з малітваю былі зарэзаны".

**11.** Ст. 35 — у кнізе "наступнае свята — Ажурэйны байрам — святкавалася на 9-10 дзень першага месяца календара — Мухарэма".

Трэба "Наступнае свята — Ашурэйны байрам — святкавалася на 10-ты дзень першага месяца месячнага календара — Мухарэма". І далей добра было б дапоўніць: "Ашура — галоўная дата шыіцкага рэлігійнага календара, дзень памяці шыіцкага імама аль Хусейна ібн Алі (сына Алі), забітага 10-га Мухарэма 61 г. (10.10.680 г.), гэта дзень жалобы па Хусейну". І далей паправіць замест "...дзень Ажура..." на "...дзень Ашура...".

**12.** Ст. 35 — у кнізе "Першы дзень месяца Мухарэма святкуецца як Новы год..."

Трэба напісаць : "Першы дзень месяца Мухарэма святкуецца як Новы год па месячнаму календару. Ён у татар Беларусі вызначаецца па дадзеных Хамаіла — рукапіснай кнігі, якая ўключае ў сябе збор малітваў і многія практычныя парады па правядзенні тых ці іншых абрадаў. Звычайна год на месячным календары на 10-11 дзён карацей за год па грыгарыянскім календары, таму даты мусульманскіх свят кожны год змяшчаюцца на 10-11 дзён наперад. Так, напрыклад, Новы год у татар у 1993 г. быў 21.06. (гэта пачынаўся 1414 г. Хіджры), у 1994 г. ён адзначаўся 11.06 (1415 г. Хіджры), а ў наступным, 1995 г. Новы, 1416 г. Хіджры, выпадае на 31.05. Новы год звязаны ў мусульман з датай пераезду, эміграцыі прарока Мухаммеда з Меккі ў Медыну (Хіджра) і гэта здарылася ў 622 г. па грыгарыянскім календары.

Муэдзін Іўеўскай мячэці Шабановіч Ісмаіл Аліевіч з ахвотай называе месяцы ў тым вымаўленні, якое бытуе ў Іўі: Мухарэм, Сафар, Рэбі-ўль-ахыр, Рэбі-ўль-аўвель, Джэмазіль-аўвель, Джэмазіль-ахыр,

Раджаб, Шаўбан, Рамадан (Рамазан), Шаўваль, Зюль-каадда, Зюль-хаджа.

У татар Беларусі з цягам часу ўсталяваўся звычай у дакументах і на надмагільных помніках ставіць дзве даты: год Хіджры (пачынаецца эра не ад нараджэння Мухаммеда, як надрукавана ў кнізе, а ад перасялення прарока Мухаммеда з паплечнікамі з Меккі ў Медыну).

Адзначаецца яшчэ і свята Мяўлюд — дзень нараджэння прарока Мухаммеда і дзень яго смерці. Гэта свята было ўстаноўлена праз 300 гадоў пасля смерці Мухаммеда і выпадае на 12-ты дзень Рэбі-ўаль-аўваля. Адзначаецца гэта падзея малітвамі ў мячэцях.

Месяц Рамадан (рамазан) — гэта месяц посту, калі мусульмане на працягу ўсяго месяца ад усходу і да заходу сонца не павінны нічога есці і піць. Сілкавацца і піць могуць толькі пасля заходу сонца і да ўсходу. У гэты месяц у мячэцях ладзяцца начныя набажэнствы ("таравіх")... і далей па тэксту да канца абзаца.

А наступны абзац ідзе са ст. 36: "Згодна з дадзенымі..." і далей па тэксту кнігі.

**13.** Ст. 39 і 53, у іншых месцах кнігі слова "мумібар" замяніць на "мінбар" або "мімбар" (гэта па-арабску) ці "мубер" — па-мясцоваму ў беларускіх татар.

**14.** Ст. 47 і ў іншых месцах — назвы Рэйзы, Немец, Бажанкі, Крыжыняны трэба замяніць на Рэйжы, Немеж, Багонікі, Крушыняны.

**15.** Ст. 54 і ў іншых месцах, пад ілюстрацыямі слова "мухір" замяніць на "мугір".

**16.** Ст. 83 і ў іншых месцах слова "джэміят" замяніць на слова "джаміят".

**17.** Ст. 96, блок ілюстрацый, перакулены Мугір з элементамі ісламскай сімволікі. Іўе. XX ст. Мугір. Іўе XX ст. (выразна бачна, што паўмесяц не можа быць рожкамі ўніз), подпіс Татары-грабары з

Глыбокага. Фота пач. XX ст. Слова грабары замяніць на слова гарбары. Мячэць у Бахонках. 1900. Замяніць на Мячэць у Багоніках. 1900 г. Мумібір. Іўе. Замяніць на Мінбар. Іўе.

**18.** Знак роду, пячаткі і тамгі. Подпісы не адпавядаюць малюнкам. Правы подпіс павінен пайсці на левую старонку, а левы подпіс — на правую старонку.

**19.** Ст. 89. Да раздела Літаратура трэба даць навукова-папулярную кнігу С.Думіна і І. Канапацкага. Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць. Мн., 1993.

# РАЗДЗЕЛ ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

| **Назва слова ў кнізе** | ***Прапануецца*** | ***Заўвагі да тлумачэння слова*** |
|---|---|---|
| **Абдэст** | ***Абдэст*** | спецыяльнае, рытуальнае мыццё некаторых частак цела (рукі, галава, ногі) перад малітвамі. |
| **Абу-Бекер** | ***Абу-Бакр*** | па тэксту, а ў канцы прывесці даты праўлення (632 — 634). |
| **Ажурэйны байрам** | ***Ашурэйны байрам*** | па тэксту, толькі паказаць на 10-ты дзень месяца Мухарэма. |
| **Алій** | ***Алі*** | па тэксту кнігі. |
| **Амар** | ***Амар*** | па тэксту кнігі, а ў канцы дпроўніць датамі праўлення (634 — 656). |
| ***Гужэль*** | ***Гусль*** | спецыяльнае рытуальнае мыццё ўсяго цела перад малітвай. |
| ***Джэміят*** | Джаміят | па тэксту кнігі. |

| | | |
|---|---|---|
| **Асман** | Асман | паслядоўнік Мухаммеда, трэці халіф (644 — 656). |
| **Джэмазіл** | ***Джэмазіль-айваль*** | пяты месяц месячнага календара. |
| **Джэмазір ахыр** | ***Джэмазіль-ахыр*** | шосты месяц месячнага календара. |
| **Залях** | ***Хутба*** | па тэксту кнігі. |
| **Зікр** | ***Зікр*** | (араб. памінанне) — рытуальнае памінанне Аллага. |
| **Іясенне** | ***Ясін*** | малітва, 36-ая сура Карана, назва якой узята ад двух літар арабскага алфавіта “я” і “сін”. Чытаецца яна за душы памерлых продкаў і над магіламі. |
| **Імам** | ***Імам*** | па тэксту кнігі, а ў канцы дадаць — “таксама і ў Беларусі”. |
| **Кібла** | ***Кібла*** | трэба: “напрамак для малітвы. У першы год існавання Ісламу напрамак быў на Іерусалім, на другі год Хіджры – Кааба”. |
| **Курбан-байрам** | ***Курбан-байрам*** | унесці папраўкі згодна з пунктам 9 да ст. 34. |
| **Міхраба** | ***Міхраб*** | ніша ў сцяне ці невялікі прыруб. Арыентаваны ў бок Меккі. Упрыгожваўся разьбой ...і далей па тэксту (Міхраб — слова муж. роду). |

| | | |
|---|---|---|
| **Міўлюд** | ***Мяўлюд*** | дзень нараджэння і дзень смерці прарока Мухаммеда. Выпадае на 12-ты дзень Рэбі-ўль-аўваля. |
| **Мула** | ***Мулла*** | персідскае слова, кіраўнік прыхода. |
| **Мумібір** | ***Мінбар, Мімбар, Мубер*** | па тэксту. |
| **Муфцій** | ***Муфцій*** | ісламскі іерарх, які стаіць на чале духоўнага ўпраўлення (муфціята) рэгіёна, дзяржавы. Назначаўся халіфам ці султанам. Цяпер выбіраецца на з'ездах, кангрэсах мусульман. З 1925 па 1939 г. мусульмане Заходняй Беларусі выбіралі муфція разам з мусульманамі Польшчы і Літвы. У сучаснай рэспубліцы Беларусь мусульмане ўтварылі Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне на чале з Упраўленнем (Муфціятам), якое зарэгістравана 2.02.1944 г. ў Савеце па справах рэлігій пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. |
| **Мухамед** | Мухаммед | нарадзіўся ў 571 (трэба 570), памёр у 638 (трэба 632). З 664 г. (трэба з 610 г.) пачынае выступаць з публічнымі лекцыямі. А астатняе —усё па тэксту |

| | | |
|---|---|---|
| | | кнігі. |
| **Мухіры** | ***Мугіры*** | па тэксту кнігі... |
| **Намаз** | ***Намаз*** | малітва (*турэцк.*), набажэнства. |
| **Рамадан-байрам** | ***Рамадан-байрам*** | свята пасля заканчэння месяца Рамадан. |
| **Салят** | ***Салят*** | малітва (*араб.*). |
| **Таравіх** | ***Таравіх*** | вячэрняе (начное) набажэнства ў месяцы Рамадан. |
| **Хутба** | ***Хутба*** | пропаведзь, прамова перад малітвай. |
| **Хадзіс** | ***Хадзіс*** | расказ пра словы і чыны прарока Мухаммеда. Служаць прыкладам для мусульман. |
| **Хадж** | ***Хадж*** | паломніцтва ў Мекку. |
| **Шайбан** | ***Шаўбан*** | восьмы месяц месячнага календара. |

# НЕЗНАЁМАЕ — ПОБАЧ

Выйшаў у свет першы ў гэтым годзе нумар штоквартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб". Як і ў ранейшых нумарах, у пачатку гэтага дадзены ўрывак з той кнігі мусульман усяго свету — Кур'ана, а таксама шэраг малітваў з Хамаіла (малітоўніка) і іншыя звесткі аб Ісламе, у прыватнасці аб мусульманскім свяце — свяшчэнным месяцы Рамазан. "Байрам" паведамляе аб правядзенні 7 студзеня 1994 г. з'езда мусульман Беларусі і стварэнні Мусульманскага рэлігійнага

аб'яднання. Выбрана ягоная ўправа (муфтэят) на чале са старшынёй (муфтэям) Ізмаілам Мустафавічам Аляксандровічам. Невыпадкова ў гэтым выданні надаецца шмат увагі Ісламу, бо менавіта ён дапамог беларускім татарам захаваць сваю тоеснасць, знаходзячыся на працягу стагоддзяў у іншаэтнічным і іншаканфесійным асяроддзі.

Будзе вельмі цікавым для ўсіх, хто вывучае гісторыю Беларусі, змястоўны артыкул Ібрагіма Канапацкага "Удзел татараў-мусульман у паўстанні 1794 года пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі". У ім распавядаецца пра ўдзел у паўстанні тых вайсковых злучэнняў Вялікага княства Літоўскага, што звычайна фарміраваліся выключна або ў пераважнай частцы з мясцовага татарскага насельніцтва.Аўтар узгадвае імёны паўстанцаў-татараў з ліку вайскоўцаў Княства — генерал-маёра Юсуфа (Юзафа) Беляка, палкоўнікаў Мустафы Бараноўскага, Якуба Азулевіча, Мустафы Ахматовіча, паручніка Аляксандра Ахматовіча,, распавядае пра ўдзел беларускіх татараў у абароне Варшавы ў лістападзе 1794 г.

Як і заўсёды, значнае месца ў "Байраме" адводзіцца гісторыі і культуры народаў цюрскамусульманскага свету. Штоквартальнік працягвае публікацыю працы Г.Ісхакі "Гісторыя дзяржавы Ідэль-Урал". Новы раздзел яе прысвечаны гісторыі казанскіх татараў у другой палове XVIII — першай палове XIX стагоддзяў. У ім гаворыцца пра тое, што ўдзел значнай колькасці татараў у паўстанні пад кіраўніцтвам Пугачова прымусіў расійскія ўлады дзеля захавання спакою ў краі скасаваць шэраг раней уведзеных абмежаванняў у сферах гандлёвапрамысловай дзейнасці, рэлігійнага жыцця і інш, Гэтыя абставіны значна паспрыялі сацыяльнаэканамічнаму і культурнаму развіццю татарскага народа ў вышэйзгаданыя часы.

Гадавіне трагедыі крымска-татарскага народа — пяцідзесятым угодкам са дня яго дэпартацыі (18 мая 1994) — прысвечаны артыкул ветэрана вайны, кадравага вайскоўца, ураджэнца Крыму Ісмаіла Меметова і гутарка карэспандэнта штоквартальніка с паэтам і публіцыстам Яўгенам Гучком. У іх прыводзяцца цікавыя паралелі з гісторыі крымскіх татар і беларусаў. Між іншым, спадар І.Меметаў з'яўляецца складальнікам беларуска-крымска-татарскага слоўніка, які ўжо друкуецца ў шэрагу нумароў "Байрама". Нам застаецца толькі выказаць яму шчырую падзяку за руплівую працу.

Сучаснаму жыццю крымскіх татараў прысвечана публікацыя Мадзіны Абязавай "Нечарговая сесія курултая". Яна распавядае пра сесію курултая (з'езда) крымска-татарскага народа, што адбылася ў Сімферопалі ў лістападзе 1993 г. На ёй абмяркоўваліся пытанні аб меўшых адбыцца выбарах у Вярхоўны Савет і прэзідэнта Рэспублікі Крым.

Як мы бачым, штоквартальнік "Байрам" разглядае на сваіх старонках даволі шырокае кола пытанняў. Гэта дазваляе разглядаць гісторыю беларускіх татараў у больш шырокім кантэксце, звязваць яе з агульнай гісторыяй Беларусі і найбольш роднаснымі ім паміж цюркскіх народаў — казанскіх і крымскіх татараў. Рэдакцыя гэтага выдання і яго аўтары распачалі вялікую працу па вывучэнню гісторыі народа, які ўжо шэсць стагоддзяў жыве на беларускай зямлі, стала для яго Бацькоўшчынай. *Пажадаем жа ім новых поспехаў на гэтым доўгім і, будзем спадзявацца, пасяховым шляху.*

**Аляксандр Лашкевіч,**
***кандыдат гістарычных навук,***
***навуковы супрацоўнік Нацыянальнага***
***архіва Рэспублікі Беларусь***

# РАСКАЖЫЦЕ ПРА ПРЭЗІДЭНТА ЯК ПРА ЧАЛАВЕКА

У рэдакцыю "Байрама" даслаў ліст мусульманін Амурат з Мядзельшчыны. Ён просіць расказаць пра Мінцімера Шайміева — прэзідэнта Татарстана штонебудзь чалавечае, бо ў даведніку "Кто есть кто", які надрукаваны ў Маскве ў 1993 г., змешчаны толькі даты і пасады, якія займаў Шайміеў. І чаму ў яго такое незвычайнае для татарына імя? Хто яго жонка?

З дапамогай нашых казанскіх сяброў мы сабралі звесткі пра першага прэзідэнта Татарстана і ахвотна іх даводзім да вашага ведама.

Мінцімер быў перадапошнім, дзевятым, дзіцем у татарскай сям'і, што жыла ў вёсцы Анякава Актанышскага раёна Татарскай АССР. Бацька яго, Шарып ага Шайміеў, усё жыццё аддаў сельскай гаспадарцы, дваццаць шэсць гадоў працаваў старшынёй калгаса. У 1941 годзе быў мабілізаваны, каля года ваяваў, быў цяжка паранены пад Масквой, спісаны "па чыстай" і зноў вярнуўся ў родную вёску на старшынскую пасаду.

У сям'і Шарыпа Шайміева да нараджэння Мінцімера памерла чацвёра хлопчыкаў. І бацькі, згодна з нацыянальнымі звычкамі народа, рашылі даць нованароджаным хлопчыкам такія імёны, якія б забяспечылі ім здароўе і даўгалецце (паводле старадаўняга павер'я імя чалавека валодае магічнай сілай: як назавеш дзіця, такім яно і будзе). Таму ў сям'і Шайміевых паявіліся два "жалезныя" хлопчыкі: Канцемір і Мінцімер. І абодва сапраўды мелі добрае здароўе, не хварэлі, хутка раслі і лёгка пераносілі жыццёвыя нягоды. Калі ж паглядзець на імя з пункту гледжання этымалогіі, то адбылося сцяжэнне мінле і цімер, г.зн. "жалезны з радзімым знакам". Гэта значыць "адзначаны Аллагам", "шчаслів[illegible]" і ў той жа час моцны, як жалеза. Такія імёны пашыраны сярод цюркскіх народаў.

Жонка прэзідэнта Сакіпа ханум з татарскай сям'і. Бацька яе — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, быў параненьі, заўчасна памёр ад франтавых ран у 1953 годзе. Да шлюбу з Мінцімерам скончыла гандлёвы тэхнікум, пасля завочна вучылася і скончыла Маскоўскі інстытут гандлю. Нарадзіла і выгадавала разам з мужам двух сыноў, цяпер на пенсіі, дапамагае гадаваць унка і ўнучку.

Можа для нашых чытачоў будзе цікава даведацца, што думае Мінцімер аб працоўным выхаванні дзяцей і якія яго погляды на дзяржаўныя справы Рэспублікі Татарстан.

— Я лічу, што самыя лепшыя, надзейныя кадры вырастаюць у вёсцы, — кажа Мінцімер Шарыпавіч.— Чаму? Таму што яны маюць сапраўдае працоўнае выхаванне. Вось у мяне, скажам, з ранняга дзяцінства, колькі памятаю сябе, было пэўнае кола абавязкаў. Догляд за жывёлай — пачысціць хлеў ад гною, напаіць жывёлу, даць пошар. Прынесці ваду на цэлы дзень — вазілі з братам у вялікім бітоне, зімою на саначках, пасля на калясцы. Разграбсці снег на панадворку, а летам падмесці. Нарыхтаваць і прынесці дровы. І ўсё гэта трэба было рабіць да школы. Вучыліся мы ў першую змену, так што прыходзілася ўставаць у пяць гадзін. Зімою ў гэты час зусім цёмна, зоркі блішчаць, снег рыпіць пад нагамі... І так хочацца яшчэ хоць крышачку паспаць..."

Летам палолі кок-сагыз, бо тады гэта была прыярытэтная культура. Колькі калгаснікі нагараваліся з ёю! Увосень — на капанні бульбы, уборцы агародніны... Урокі рыхтавалі вечарамі. Добра, калі была газа. Яе прыходзілася ашчаджаць, так што лямпу палілі далёка не заўсёды"... Вось адкуль у Мінцімера звычка да працы, якая засталася на ўсё жыццё.

— Вясковая праца выхоўвае пачуццё адказнасці, — працягваў Шаймієў,— таму што ніхто

не падганяе, спецыяльна не правярае... Паспрабуй толькі схалтурыць... Скажам, пакінь сям'ю без вады або без дроў, не пакладзі сена карове. Я такога не ўяўляў. Нават думкі такія ў галаў не прыходзілі..."

А вось як бачыць Мінцімер Шайміеў заўтрашні дзень Татарстана: "Калі прэзідэнту дазволена памарыць, то я бачу сваю родную рэспубліку — Татарстан — высокаразвітай суверэннай прававой дзяржавай, дзе пануе мір і спакой, моцная дружба паміж народамі, якія заняты стваральнай працай. Усе цяжкасці, нягоды пераходнага перыяду засталіся ззаду. На тварах людзей блукае шчаслівая ўсмешка.

Ці далёкія мы ад гэтага? І так, і не. Так, таму што грамадзянам Татарстана пакуль не да ўсмешак. Як і ўсюды, зніжаецца вытворчасць, расце дарагавізна, жыццёвы ўзровень паніжаецца, у дзверы вось-вось пастукае беспрацоўе. Не, таму што шматнацыянальны народ Татарстана — народ працалюбівы. Яго рукамі і розумам створаны вялікі эканамічны і інтэлектуальны патэнцыял. У гэтага народа высокая тысячагадвая матэрыяльная і духоўная культура, моцная маральная база. Калі гэты народ выжыў, не згубіў свае высокія маральныя якасці ў гады жорсткага прыцяснення царызму, пасля таталітарызму, то ён знойдзе ў сябе сілу выйсці непераможным і з цяперашніх цяжкасцей.

І яшчэ. Нягледзячы ні на якія імкненні дэструкцыйных сіл, я цвёрда веру ў шматвяковую, па-сапраўднаму чалавечую, інтэрнацыянальную дружбу народаў, якія насяляюць нашу рэспубліку. Я безупынна паўтараю: палітыка павінна грунтавацца на веданні свайго народа, яго маральнай сіле, якая ідзе ад далёкіх продкаў.

Сёння ўсіх хвалюе пытанне харчовага забяспячэння. Яно хвалюе і мяне, таму што сельскай гаспадарцы ўвагі не хапала, хоць яна заўсёды несла на сваіх плячах асноўны цяжар усёй народнай гаспадаркі. У апошнія 7-8 гадоў становішча сельскай

гаспадаркі яшчэ больш пагоршылася. Прычыны агульнавядмыя, тут не пра іх размова. У сваіх жа рэспубліканскіх праграмах уваходжання ў рынак мы загадзя прадугледзелі значную дапамогу аграрнаму сектару, яго прыярытэтнае развіццё. Вынікі відавочныя. Прадукты харчавання на паліцах у Татарстане больш разнастайныя і танныя, чым у іншых рэгіёнах Расіі. Вёска не замкнулася ў сабе. А ў бліжэйшы час мы плануем яе карэнную перабудову, у якой знойдуць сваё месца і фермерскія гаспадаркі, і калгасы, і саўгасы, асновай дзейнасці якіх будуць сапраўдная матэрыяльная зацікаўленнасць аграрыяў. Мы за рынак, але за цывілізаваны рынак. Пераход да яго для нас не мэта, а сродак. За ім мы бачым не абстрактнага, а канкрэтнага чалавека з яго патрэбамі і клопатамі.

Нас вельмі турбуюць і праблемы канверсіі прадпрыемстваў ваенна-прамысловага комплексу (ВПК). Трэба адкрыта сказаць, што скарачэнне абаронных заказаў, разрыў гарызантальных сувязей у шматтысячных калектывах ВПК (а там занята 40% усіх працоўных у прамысловасці) стварыла няпростую сітуацыю. Праўда з некаторым спазненнем, але і тут мы знаходзім выйсце. Цяпер практычна ўсе гэтыя прадпрыемствы маюць канкрэтна распрацаваныя праграмы канверсіі, у аснове якіх, калі коратка сказаць, прынцып спалучэння інтарэсаў рэгіёна з інтарэсамі саміх прадпрыемстваў.

Ужо сёння на абаронных прадпрыемствах Татарстана асвоены выпуск розных машын і запасных частак для іх, прылад, якія кантралююць работу апушчаных у свідравіну электрапомпаў, аўтаматыкі для катлоў у кацельнях, малакаправодаў, кандытарскіх печаў. На шэрагу малых і сумесных прадпрыемстваў і на іх базе створана вытворчасць канкурэнтназдольнай прадукцыі — персанальных

кампутараў, тэлефонных апаратаў, іншый электроннай апаратуры.

Вярхоўны Савет прыняў Канстытуцыю Рэспублікі Татарстан. На яе падставе разгорнута законатворчая дзейнасць, накіраваная на свабоднае ўсебаковае развіццё грамадзян Татарстана. Абапіраючыся на асноўны закон, шырокія магчымасці свайго магутнага эканамічнага і інтэлектуальнага патэнцыялу, шматгаліновай народнай гаспадаркі, багатыя прыродныя рэсурсы, мы свае намаганні будзем накіроўваць і ў будучым на ўмацаванне дзяржаўнасці ў Татарстане, усебаковых сувязей з Расіяй, на стабілізацыю эканамічнага развіцця на шляху да рынку з тым, каб працэсы, якія ідуць у гэты час, прайшлі з найменшымі стратамі для рзных слаёў насельніцтва.

Я жадаю вам поспехаў і вялікага чалавечага шчасця!"

## СА ЗБОРАЎ АЛЕСЯ БАРКОЎСКАГА

Добры сябар Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" мае вялікую зычлівасць, уласцівую сапраўдным беларусам у іх стасунках да выхадцаў з Арды.

Ён дасылае нам вельмі цікавыя матэрыялы са старадрукаў, гістарычных дакументаў, дзённікавых запісаў славутых падарожнікаў. У гэтым нумары "Байрама" мы друкуем матэрыял пра спробу перасялення беларускіх татараў на землі Крыма ў міжваенныя часы.

Беластоцкая "Ніва" 20 жніўня 1989 г. за подпісам Міколы Іванова змясціла такі матэрыял: "Вельмі цікавай з'явай была кампанія перасялення татарскага насельніцтва Беларусі на Крым.

Ажыцьцяўлялася яна згодна з дэмакратычнымі пажаданнямі саміх беларускіх татараў, якія, як вядома, былі нашчадкамі шматлікіх вайсковых палонных, ахвяр польска-татарскіх ваенных канфліктаў у XVI — XVII ст.".

У "Ніве" 5 сакавіка 1990 г. таксама цікавы матэрыял: "Латышы і літоўцы жылі ў асноўным на Віцебшчыне, а татары на Міншчыне (Узда)... Што датычыцца беларускіх татараў, ды з імі адбылася зусім неверагодная гісторыя. Савецкая ўлада абвясціла сябе, як вядома, пасьлядоўным абаронцам і апекуном малых народаў. Тыя, хто за часы царызму праследваліся найбольш жорстка, павінны былі атрымаць ад савецкай улады своеасаблівую кампенсацыю. У адносінах да беларускіх татараў савецкія тэарэтыкі па нацыянальнаму пытанню (ініцыятыва ў гэтым выпадку зыходзіла ад урада Крымска-татарскай аўтаномнай рэспублікі) прапанавалі масавае перасяленне на Крым беларускіх татараў. Справа ў тым, што насельніцтва Крыма толькі на траціну складвалася з карэнных жыхароў — татар. Астатняй большасцю было насельніцтва наезнае (галоўным чынам рускае). Каб выправіць не вельмі выгадную для мясцовага камуністычнага татарскага кіраўніцтва статыстыку, прабавалі яны запрашаць на Крым беларускіх татараў. На Беларусь пачалі прыязджаць вярбоўшчыкі — прадстаўнікі татарскага крымскага ўраду. Адбываліся сходы і мітынгі, на якіх агітавалі да перасялення.

Грандыёзная гэта акцыя скончылася, аднак, нічым. Перасялілася ўсяго толькі некалькі соцень чалавек татарскай нацыянальнасці. Але і яны большаю часткаю неўзабаве вярталіся дамоў. Татарскі крымскі ўрад, апрача прапагандысцкай кампаніі, абсалютна не падрыхтаваўся да прыёму перасяленцаў. Павінны яны былі на свой страх і рызыку асвойваць дзікія стэпы. Дзеля гэтага не было ў іх ні сродкаў, ні сацыяльнай падтрымкі" (паўночны

Крым — фактычна паўпустыня, ападкаў да 400 мм за год, кожны трэці год — засушлівы, калі гінуць пасевы — заўвага рэд.).

# СЛОЎНІК ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА

# "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

## (працяг)

**Складзены на падставе даведнікаў і манаграфічнай літаратуры.** Пасля слова ці групы слоў, якія абазначаюць з`яву, падзею, прадмет, імя чалавека (прозвішча) нярэдка ў слоўніку пазначаны вялікімі літарамі і лічбамі імёны аўтараў манаграфій і нумар старонкі ў кнізе, дзе пра энцыклапедычны артыкульчык ёсць некаторыя звесткі.

БД — Пётр Бараўскі і Аляксандр Дубіньскі. "Польскія татары. Гісторыя, абрады, легенды, традыцыі", 1986;

ЯТ — Ян Тышкевіч. "Татары ў Літве і Польшчы", 1989;

АМ — Алі Міськевіч. "Польскія татары 1918-1939", 1990;

Г — Зыгмунт Глогер. "Старапольская ілюстраваная энцыклапедыя". Т. 1-4, 1958.

Паважаны чытач! У надрукаваным тут слоўніку будучых артыкулаў, якія пачынаюцца на літары "Л" і "М", вядома, могуць быць пропускі. Дасылайце свае прапановы, а яшчэ лепш — завершаныя артыкулы, а таксама палепшаныя Вамі артыкулы, якія друкаваліся ў "Байраме" як пробныя.

# Л

Л, літара

**ЛА**, назва літары, якая азначае гук Л

**ЛАГІ**, *лягі*, свята заканчэння мусульманскага навучання школьніка, АМ 87.

**ЛАЗНЯ**, баня, Г, Т. 3 160

**ЛАННОЙ Жыльберт дэ**, бургундскі рыцар-падарожнік, ЯТ 18, 159

**ЛАСОСНА**, вёска каля Гродна, ЯТ 218, 219, 263, 286, 292

**ЛАСТАЙСКІЯ**, мурзы, БД 54

**ЛАУХ ал-МАХФУЗ**, *ал-Лаух ал-Махфуз*, *Лаўхіль Махфузу*, скрыжаль

**ЛАЎХІЛЬ МЕХФУЗУ**, гл. **Лаух ал-Махфуз**

**ЛАФА**, плата за службу, Г, Т. 3 131

**ЛЕБЯДЗЕЎСКАЯ МЯЧЭЦЬ**, БД 139

**ЛЕГІСТАН**, *Легенда пра Легістан*, татарская назва Польшчы БД 235

**ЛЕГЕНДЫ** татарскія

**ЛЕГЕНДЫ** польскія пра татар, БД 244, 245, 246

**ЛЕТУВА, ЖАМОЙЦЬ**, дзяржава

**ЛЕФАФ**, палатно, у якое загортваюць нябожчыка (па-руску — *саван*)

**ЛІДА**, горад у РБ АМ 58

**ЛІПКІ**, назва татар у польскай літаратуры, БД 73

**ЛІПКАЎ БУНТ 1672**, БД 73, 89, 90, 100

**ЛІПУВКА**, прыгарад Вільні, дзе жылі татары, АМ 90

**ЛЮЛЬКА**, *пінка, файка*, прыйшла з Турцыі, Г, Т. 2 41

**ЛЮСТРАЦЫЯ ТАТАРШЧЫЗН (1624-1631)**, гл. Кердзея перапіс татар

**ЛЯЗА**, *лязза*, чацвёртае пекла

**ЛЯЙЛЬ**, *аль-Ляйль*, 92-я сура з Кур`ана

**ЛЯЙЛЯТУЛЬ КАДР**, гл. *Кадыр-ноч*

**ЛЯМ**, назва літары, якая азначае мяккі гук Л

**ЛЯМЛІФ**, назва літары, якая спалучае гукі *аліф* і *лям*

**ЛЯХАВІЦКАЯ МЯЧЭЦЬ**, знаходзіцца ў г. Ляхавічы Брэсцкай вобласці

**ЛЯХАВІЧЫ**, раённы цэнтр у Брэсцкай вобласці, АМ 58

**ЛЯ ХАЎЛЯ УА ЛЯ КУЎВАТА ІЛЛЯ БІЛЛЯГІЛЬ, АЛІЙЮЛЬ АЗЫМ**, фраза, якую мовіць вельмі перапалоханы мусульманін

# М

**М**, літара

**МААД**, *ал-маад*, будучае жыццё

**МААРЫДЖ**, *аль-Маарыдж*, 70-я сура Кур`ана

**МАГАМЕТ**, гл. *Мухаммед*

**МАГАМЕТАНСТВА**, гл. *Мусульманства*

**МАГІЯ**, БД 200

**МАГОГ**, гл. *Яджудж і Маджудж*

**МАГОЛЫ**, назва манголаў-заваёўнікаў у Індыі

**МАГРЫБ**, гл. *Малітвы*

**МАДЖЛІС**, *меджліс*, месца паседжання, парламент

**МАДЗІЯ**, *аль-Мадзія*, 5-я сура з Кур`ана

**МАДЖУС**, *ал-Маджус*, назва прыхільнікаў зараастрызму

**МАДЖУДЖ**, гл. *Яджудж і Маджудж*

**МАДРАСА**, гл. *медрэсэ*

**МАЁНТКІ ТАТАРСКІЯ, БД 136**

**МАЗАР**, гл. *Мізар*

**МАЗХАБ**, *музгаб, малака, масхаб*, багаслоўска-прававая школа

**МАЙДА Т.**, гісторык, **БД 269**

**МАЙДАН**, вялікі пляц, **Г, Т.3 177**

**МАЙСЕЙ**, прарок, гл. *Муса*

**МАККА**, гл. *Мекка*

**МАКРУГ**, *меккрух, мекрух*, ежа і дзеянні, непажаданыя для мусульманіна, але не грахоўныя

**МАКАТА**, *макат*, дыванок, аплікацыя, вышыўка, Г, Т. 3 180

**МАКТАБ** гл. *Мектаб*

**МАЛ** *маёмасць*, грошы

**МАЛАДЗЕЧНА**, горад у Мінскай вобласці, **АМ 59**

**МАЛАІКА, АНЁЛЫ, АНГЕЛЫ**

**МАЛАКУТ**, вышэйшая, боская ўлада

**МАЛЕННІ З НАГОДЫ, АМ 97, 98**

**МАЛІК**, цар, гаспадар, уладальнік,

**МАЛІК ібн АНАС**, заснавальнік малікіцкага мазхабу

**МАЛІКІТЫ**, прыхільнікі малікіцкага мазхабу

**МАЛІКІЦКІ МАЗХАБ**

**МАЛІТВА**, *салят, намаз*. Гл. таксама *Салят-уль-Феджр* (сабаг намаз), *Салят-уль-зугр* (еўле намаз),

*Салят-уль-аср* (акіндэ намаз), *Салят-уль-магрыб* (акшам намаз). *Салят-уль-ушаі* (етцы намаз) — назвы арабскія, у дужках — назвы татарскія.

**МАЛЛА**, гл. *Мулла*

**МАЛНА**, гл. *Мулла*

**МАМАЙ**, цемнік у Залатой Ардзе, ЯТ 120

**МАМАК**, *мурза*, гл. *Крымскае ханства*

**МАМКА**, Г, Т.3 183

**МАНАРА**, гл. *Мінарэт*

**МАНАСІК**, абрад, які выконваецца ў час хаджу

**МАНҐОЛЫ**, народ

**МАНДУБ**, шчодрасць

**МАНЕТЫ**, манеты Залатой Арды і Крымскага ханства з выявай Вітаўта

**МАНСУР-КІЯТ**, сын Мамая

**МАРАКАНСКІЯ АРАБЫ**

**МАРДЖАНІ Шынабуддзін**, мусульманскі вучоны (1818 — 1899)

**МАРЙАМ**, маці Хрыста — Марыя

**МАРЙАМ**, 19-я сура з Кур`ана

**МАРУТ**, гл. *Харут* і *Марут*

**МАРОКА**, дзяржава на поўдні Афрыкі

**МАРЫ**, насілкі, на якіх нясуць нябожчыка, Г, Т.3 191

**МАРШАЛКІ ТАТАРСКІЯ**, БД 215, 214

**МАРЫЯ**, маці Хрыста, гл. *Марйям*

**МАСАД**, *аль-Масад*, 111-я сура з Кур`ана

**МАСДЖЫД**, гл. *Мячэць*

**МАСДЖЫД ал-АКСА**, *ал-Масджыд ал-Акса*

**МАСКОЎСКАЕ КНЯСТВА**

**МАСЦІЦКІ** Ігнацы, вучоны і прэзідэнт Польшчы

**МАЎЛА**, заступнік перад Аллагам. Так часам называюць Мухаммеда

**МАЎН**, *ал-Маун*, 107-я сура з Кур`ана

**МАХЗУР**, гл. *Харам*

**МАХР**, маёмасць ці грошы, якія муж павінен аддаць жонцы пры разводзе

**МАХМАЛ**, паланкін

**МАХМУТ**, хан у Казані, БД 43

**МАЦІ**, Г, Т.3 199

**МАШХАД**, гл. *Мізар*

**МЕВРАДЖ**, гл. *Міраджс*

**МЕГРЫБ**, *магрыб*, гл. *Малітва*

**МЕДДЫ МУСЕККАЛЕ**,

**МЕДЖЫД**, светлы, горды (па-польску — вспнялы)

**МЕДРЖ**, гл. *Медрэсэ*

**МЕДРЭСЭ**, *мадраса*, *медрж*, мусульманская сярэдняя навучальная (часам вышэйшая) установа, ЯТ 70

**МЕДЫНА**, *аль-Мадына*, *Мэдзіна* , *Мадынат ан Набі*, *Ясрыб*, святы горад

**МЕЙЙТ**, гл. *Мэййт*

**МЕККА**, *Макка*, святы горад

**МЕКРУХ**, гл. *Макруг*

**МЕКСЮР**,

**МЕКТЭБ**, *мактаб*, *мектэбе*, пачатковая мусульманская школа, БД 154; АМ 86-87

**МІЗАР**, *мазар, мізяр, зерэць, зірэць*, мусульманскія могілкі, АМ 90, 91; ЯТ 241, 273, 281, 283, 289, 299

**МІКАЛ, Мікаіл**, ангел

**МІЛЛА**, рэлігійная абшчына ў мусульман

**МІЛЬК**, *аль-Мільк*, 67-я сура з Кур`ана

**МІЛЬКОЎСКІ Аляксандр**, генерал БД 135

**МІЛЬКОЎСКІ**, князь у ВКЛ

**МІЛАСІЦІЦА**, *садага*

**МІЛАСЭРНАСЦЬ**

**МІМ**, назва літары

**МІНБАР**, *мінбэр, мумбер*, подыюм у мячэці

**МІНАРЭТ**, *мінара*, вежа каля мячэці

**МІНГАН**, вайсковая адзінка (1000 воінаў) БД 211

**МІР**, гарадскі пасёлак у РБ, АМ 58; ЯТ 236, 241, 255, 266-273

**МІРАДЖ**, цудоўнае падарожжа Мухаммеда на неба, БД 273

**МІРАС**, *вірса, тарыка, турас*, спадчына

**МІРСКАЯ МЯЧЭЦЬ (З 1809 г.)**, ЯТ 272

**МІСВАК**, *мэсвак*, зубачыстка

**МІСІТ**, *Месір*, Егіпет

**МІСКА КЕЙАШ**, мурза ў ВКЛ, ЯТ 199

**МІСКАЛЬ**, мера вагі

**МІСКЕВІЧ**, *Міськевіч*, татарскі князь у ВКЛ

**МІСРАМСКІ**, егіпецкі

**МІСЬКЕВІЧ Алі**, навуковец, БД 269

**МІСЬКЕВІЧ Зофія**, настаўніца, актывістка ЗКАТРП, АМ 72, 136, 151, 154, 178, 181, 185

**МІСЬКЕВІЧ Ібрагім**, намеснік старшыні ЗТПЛБУ, БД 146

**МІФТАХУ ДЖЭННЕТЫ**, райская крыніца

**МІХАІЛ АЛЕЛЬКАВІЧ**, прэтэндэнт на пасаду вялікага князя, ЯТ 133, 134, 137, 138

**МІХРАБ**, *мухраб*, ніша ў мячэці, арыентуе вернікаў у напрамку Каабы

**МІСЮРКА**, *місурка*, шышак, Г, Т.3 219

**МОГІЛКІ**, гл. *Мізар*, Т.3 248

**МОЛЛА**, гл. *Мулла*

**МОНГКЕ ТУДА**, хан, гл. *Залатая Арда*

**МОНГКЕ ЦІМУР**, хан, гл. *Залатая Арда*

**МСЦІСЛАЎСКІЯ ТАТАРЫ**, БД 218

**МУАЗЗІН**, гл. *Мязім*

**МУБАХ**, дазволенае

**МУБІН**, ясны, светлы (чалавек)

**МУКЕВІД**, цвёрда ўстаноўлены (фарз, фард)

**МУГАДЖЫР**, гл. *Мухаджыр*

**МУГІР**, *мугр*, аят з Кур`ана, прыгожа напісаны, часам з выявай якой-небудзь славутай мячэці

**МУДАРАБА**, удзел у прыбытку

**МУДАССІР**, *аль-Мудассір*, 74-я сура з Кур`ана

**МУДЖАХІД**, удзельнік іджціхада, аўтарытэтны прававед

**МУДЖРЫМ**, крымінальны

**МУЗАММІЛЬ**, *аль-Музамміль*, 75-я сура Кур`ана

**МУЗГАБ**, *музгаб*, гл. *Мазхаб*

**МУЗЕЙ НАРОДНЫ ТАТАРСКІ Ў ВІЛЬНІ**, АМ 110, 111

**МУЗРЫК**, шубравец, вісельнік (з пракляцця)

**МУКЕДДЫС**,

**МУЛЛА**, *малла*, *молна*, *мунла*, *мална*, той, хто ўзначальвае джаміят; гл. таксама *Імам*

**МУМБЕР**, гл. *Мінбар*

**МУМІН**, вернік

**МУМІН**, *аль-Мумін*, 40-я сура з Кур`ана

**МУМІНУМ**, *аль-Мумінпум*, 23-я сура з Кур`ана

**МУМТАГАНА**, *аль-Мумтагана*, 60-я сура з Кур`ана

**МУНАФІК**, аблуднік, крывадушнік

**МУНАФІКУМ**, *аль-Мунафікум*, 63-я сура з Кур`ана

**МУНБЭР**, гл. *Мінбар*

**МУНКІР І НЕКІР**, першыя пытальнікі нябожчыка, БД 195

**МУНТЭГА**, першае неба

**МУРЗА**, *мірза*, князь, БД 54, 227, 228

**МУРЗА-МУРЗІЧ Адам**, старшыня праўлення Віленскага джаміяту, АМ 37, 42-44, 52

**МУРЗА-МУРЗІЧ Галена**, навуковец, АМ 76

**МУРАЎШЧЫНА**, ваколіца каля Іўя, гл. *Іўе*, АМ 58

**МУРСЕЛЬ**, пасланнік Аллага

**МУРСАЛЯТ**, 77-я сура з Кур`ана

**МУРЭКАК**, тонка (у дачыненні да вымаўлення гукаў)

**МУСА**, *Майсей*, прарок

**МУСАЛЛА**, *масджыд*, месца агульнага малення, гл. *Мячэць*

**МУСЛІМ**, мухадзіс

**МУСЛІН**, тканіна, Г, Т.3 241

**МУСЛІБАС**,бавоўняная тканіна, Г, Т.3 241

**МУСІЧ**, татарскі князь у ВКЛ

**МУСТАФІЧ**, татарскі мурза

**МУСТЭДЭАБ**, рэлігійны наказ, выкананы Мухаммедам

**МУСТЭКЕРУ**, *мустэкерру*

**МУСТЭКІМ**, справядлівы, верны шлях

**МУСУЛЬМАНІН**, *мусюльманін, муслім*

**МУСУЛЬМАНСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ЗГУРТАВАННЕ**, (у Польшчы), БД 171, 172; АМ 46, 54, 167

**МУСУЛЬМАНСКІЯ ЗВЫЧАІ**

**МУСТАФІРУНА**, *аль-Мустафіруна*, 83-я сура з Кур`ана

**МУТЭКЕББІР**, самаўпэўнены, пагардлівы

**МУФТЭЙ**, *муфцій* АМ 78, 79

**МУФІД**, дрэнны ўчынак, грэх

**МУХА**, мурза ў ВКЛ

**МУХА Алі**, імам у Багоніках БД 172

**МУХА Айша**, настаўніца, актывістка ЗКАТРП, АМ 72, 136

**МУХАДЖЫР**, *мугаджыр*, паплечнік Мухаммеда, які перасяліўся ў час Хіджры з Меккі ў Медыну

**МУХАЕМ**, мусульманскі лагер для вывучэння Ісламу; адпачынку

**МУХАКАМА**, судовы працэс

**МУХАММЕД**, *Мухаммад*, *Магамет*, прарок Аллага

**МУХАММЕД**, 47-я сура з Кур`ана

**МУХАРСКІ Аляксандр**, журналіст АМ 27

**МУХАРСКІ Аляксандр**, намеснік старшыні ЗТПЛБУ, БД 146

**МУХАРСКІ Сулейман**, навуковец АМ 27, 172

**МУХАРРАМ**, *мухаррэм*, першы месяц мусульманскага календара

**МУХЛЯ абу ТАЛЕБ**, генерал, БД 135

**МУХЛІНСКІ Антон**, навуковец, БД 256

**МУХПІР**, тоўстае сукно, Г, Т.3 237

**МУХРАБ**, гл. *Міхраб*

**МУХТАСІБ**, той, хто накіроўвае на правільны шлях

**МУФЕСІД**, гл. *Муфсід*

**МУШКАТЭЛЬ**, *мускат*, віно, Г, Т.3 241

**МУШТЭГА**, пажаданне

**МУЭЗІН**, *муэдзін*, гл. *Мязім*

**МУЭККІД**, *мкевід*, цвёрда ўстаноўлены (фарз, фард)

**МЫЦЦЁ РУК**, Г, Т.3 245

**МЫШ**, татарская вёска ў Баранавіцкім раёне

**МЭВНІ**, пропаведзь, хутба

**МЭВСУН**, *мевсун*, вера перасцерагаючая, вера продкаў

**МЭВУД**, Дзень Апошняга Суда

**МЭГР**, пасаг

**МЭД**, *мэдды*, *мед*, знак працяглага гучання гука

**МЭДДЫ АРЫД**,

**МЭДДЫ ЛАЗІН**

**МЭДДЫ ЛІН**

**МЭДДЫ НУФАСЫЛЬ**

**МЭДДЫ ТЫБ**

**МЭДЖУСІЙ**, *меджусій*, язычнікі

**МЭДЗІНЭ**, гл. *Медына*

**МЭДУМ**,

**МЭДНЫ ХУРФ**

**МЭЗГАБ**, *мезгаб*, гл. *Мазхаб*

**МЭЗГІМ**, чацвёртае неба

**МЭЙЙТ**, *мейійт*, памерлы, нябожчык

**МЭКАІЛ**, архангел, гл. *Міксл*

**МЭКБУЛЬ**, *мекбуль*, мусульманская вера

**МЭКЭБ**, *мэкер*, гл. *Мектэб*

**МЭЛЕК**, ангел

**МЭЛУН**, *мелюн*, *мэлунін*, слова пагарды, праклёну і ганьбы

**МЭНЭ**, дрэнная вада

**МЭРДЖАН**, значэнне слова страчана

**МЭСВАК**, гл. *Місвак*

**МЭСДЖЫД**, гл. *Мячэць*

**МЭСІХ**,гл. *Месіх*

**МЭСЭЛЬ**, пытанне, устанаўленне, правіла

**МЭТБУ**, гл. *Метбу*

**МЭШАІХ**, *мешаіх*, мудрацы, богабаязныя людзі

**МЭШГУД**, сведка

**МЯДЗЕЛ**, горад у Мінскай вобласці

**МЯДЗЕЛСКІ МАЛІТОЎНЫ ДОМ**,

**МЯДЗЕЛСКІ МІЗАР**,

**МЯЗІМ**, *муэдзін, муэззін*, памочнік імама

**МЯЎЛЮД-БАЙРАМ**, БД 192; АМ 101

**МЯХРЭДЗЬ**, *мехрэдзь*, органы маўлення

**МЯЧЭЦЬ**, *джамія, масджыд, мечэт, мечыць*, БД 113; АМ 88, 89, 90; ЯТ 70, 214, 224, 226, 227, 421, 250, 265, 272, 279, 285-289, 291, 298, 299, 305.

**(Працяг будзе)**

# ГЭТЫ БЕЛАРУСКА-ТУРЭЦКІ СЛОЎНІК ТРЭБА НАДРУКАВАЦЬ У "БАЙРАМЕ"

Баркоўскі Алесь звяртае ўвагу чытачоў "Байрама", што ў кнізе "Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пач. XX ст.), выдадзенай у Менску ў 1977 г., беларускі мовавед М.Ф.Гуліцкі напісаў наступнае: "У Вільнюсе захоўваецца арыгінальны, напісаны арабскімі літарамі беларуска-турэцкі слоўнік-размоўнік, складзены ў Слоніме Мустафой Шагідэвічам. Рукапіс не датаваны, але па вадзяных знаках, якімі абазначаўся год вырабу паперы (18 — 36), можна меркаваць, што слоўнік створаны пасля 1836 г. Ён павінны быў служыць дапаможнікам для вывучэння турэцкай мовы тым, хто хацеў выехаць у Турцыю.

У слоўнік увайшлі словы розных тэматычных груп: назвы гародніны, дзён тыдня, посуду, лексіка і фразеалогія вайсковай справы, будаўніцтва, рамесніцтва. У рэестравай частцы занатаваны словы розных граматычных катэгорый: назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы. Апрача асобных слоў, у размоўніку ёсць некалькі дыялогаў рознай тэматыкі: пра сельскагаспадарчую працу, будаўнічую працу, як дамаўляцца на начлег, наймацца на працу. Прафесар А.Антановіч у сваёй кнізе "Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-

орфографическая система" (Вильнюс, 1968) піша: "Очень любопытной является рукопись № 42 по инвентарной описи Караимского музея (ВЭМ — 42)... Словарь-разговорник пердставляет известную научную ценность как образец народно-разговорной белорусской речи города Слонима и его ближайших окрестностей в первой половине 19 в. Он интересен также как факт, свидетельствующий о том, что в указанное время татары не только переписывали и читали ранее уже известные религиозные и другие тексты на белорусском языке, но обращались к последнему и в таких специальных случаях, как составление пособия для изучения турецкого языка".

А.Баркоўскі паведамляе, што беларуска-турэцкі слоўнік знаходзіцца ў Гістарычна-этнаграфічным музеі Акадэміі навук Літвы. Ён складаецца з 36 старонак фармату 11,5×18 см і яго можна і трэба надрукаваць у "Байраме", напрыклад, па частках у 3 — 4 нумарах. Гэта будзе цікава для навукоўцаў і для тых, хто вучыцца чытаць арабскія літары.

# ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ ДЛЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

**АДВАЖНЫ Вінцук** (сапр. Германовіч Язэп), беларускі пісьменнік, каталіцкі святар, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся 4.3.1890 у мястэчку Гальшаны (цяпер Ашмянскі раён Гродзенскай вобл.) у сям`і Станіслава і Ганны (з Савіцкіх). Бацька быў рамеснікам, нейкі час працаваў у Санкт-Пецярбургу. Гаспадар памёр рана, і трое дзяцей выхоўвала маці.

Пасля сканчэння Віленскай духоўнай семінарыі (1913) Язэп служыў ксяндзом. У 1920 г. арганізаваў беларускую школу. Казанні ў касцеле гаварыў на беларускай мове, за што падвяргаўся ганенням з боку польскіх улад. У 1924 г. уступіў у ордэн марыянаў у Друі, выкладаў у Друйскай гімназіі. З 1932 г. дырэктар гімназіі ў Харбіне (Кітай), у 1936 г. вярнуўся ў Вільню, кіраваў беларускім студэнцкім інтэрнатам. У 1938 г. разам з семінарыстамі зноў паехаў у Хабрін, дзе арганізаваў дапамогу беспрытульным і бедным дзецям. У 1948 г. арыштаваны кітайскай міліцыяй і перададзены савецкім уладам. Паводле беспадстаўнага абвінавачвання прыгавораны да 25 гадоў зняволення. У 1955 г. вызвалены, выехаў у Польшчу, адтуль у Італію. Апошнія гады жыцця правёў у Англіі, рэдагаваў часопіс "Божым шляхам". Друкаваўся з пачатку 1920-х гадоў (допісы, гутаркі на бытавыя, маральна-этычныя і грамадскія тэмы). У зборніку "Беларускія цымбалы" (1933) уяўленні аўтара пра мастака слова пераклікаюцца з традыцыяй беларускага нацыянальнага адраджэння, паэзіяй Ф. Багушэвіча. Працаваў у жанрах дзіцячай паэзіі, пісаў гумарыстычныя і сатырычныя творы, займаўся перакладамі. У эміграцыі працягваў пісаць вершы, вершаваныя гутаркі і байкі (зборнік "Князь і Лапаць", Лондан, 1964; "Байкі і іншыя вершы", Лондан, 1973). Ва ўспамінах "Кітай — Сібір — Масква" (друкаваліся на беларускай мове і ў перакладзе на іншыя мовы, у скарочаным выглядзе ў часопісе "Спадчына" ў нумарах 1-3 за 1994 г.) расказаў пра свае знаходжанне ў сібірскіх лагерах.

Язэп цікаваўся гісторыяй беларускіх татар, быў знаёмы з Аль-Кітабам, пісаным на беларускай мове арабскай графікай. У кнізе "Байкі і іншыя вершы. Частка першая і другая" (Лондан, 1973) сярод іншых надрукавана татарская легенда з кнігі Аль-Кітаб, якую апрацаваў і напісаў вершам пад назвай "Майсей пытае" ("Байрам"

перадрукаваў гэты твор і змясціў яго ў першым нумары "Байрама" ў 1991 г.)

**БАГУШЭВІЧ Марыя Уладзіміраўна** (псеўданімы Рэгіна, Ванда, Вянеда; 4.1.1865 г. ў в. Цапэрка Слуцкага павета, цяпер Клецкі раён — зіма 1887 г.), дзеячка рэвалюцыйнага руху ў Польшчы і на Беларусі. Нарадзілася ў сям'і арандатара маёнтка ў Радзівілаў. Са збяднелай дваранскай сям'і з старадаўняга роду татарскага паходжання. Бацька быў у блізкім сваяцтве з беларускім паэтам Францішкам Багушэвічам. Па жаночай лініі Марыя Багушэвіч з'яўлялася сваячкай роду Касцюшкаў.

У 1874 разам з сям'ёй пераехала ў Варшаву. Там Марыю аддалі ў прыватны пансіянат. Скончыўшы вучобу атрымала званне народнай настаўніцы. Настаўнічала. У доме бацькоў пазнаёмілася з шэрагам прадстаўнікоў рэвалюцыйнага руху. З іх дапамогай далучылася да барацьбы за сацыяльную і нацыянальную незалежнасць Рэчы Паспалітай. З самага пачатку заснавання першай рабочай партыі "Пралетарыят" звязала з ёй свой лёс. З верасня 1882 г. супрацоўнічала з таварыствам Чырвонага Крыжа — дапаможнай арганізацыі "Пралетарыята". Збірала грашовыя сродкі для хворых, вязняў, арганізоўвала маёўкі, развучвала з моладдзю "Варшавянку" і "Марсельезу", наладзіла ў сваёй кватэры работу нелегальнай друкарні, выпускала і распаўсюджвала ў рабочых кварталах лістоўкі. Далучыла да падпольнай працы малодшых брата Івана і сястру Зосю. Пасля масавых правалаў і арыштаў сярод кіраўніцтва "Пралетарыята", якія пракаціліся ў 1884 г., узначаліла партыю, стала кіраўніком яе ЦК. Аднавіла разгромленыя партыйныя арганізацыі ў Лодзі, Згежы, Тамашаве-Мазавецкім, Беластоку, Радаме і інш. месцах. Арганізавала новыя падпольныя групы ў вёсках. Працягвала выдаваць

цэнтральны друкаваны орган партыі — газету "Пралетарыят". Наладзіла дзейнасць сталярнай, швейнай і іншых майстэрняў, якія працавалі на патрэбу партыі. Устанавіла кантакты з польскім сацыялістычнымі арганізацыямі ў Жэневе, Парыжы, з дапамогай паплечнікаў аднавіла сувязь з рэвалюцыйнымі арганізацыямі Вільні, Гродна, Менска, Брэста, Нясвіжа, Слуцка і інш.

30.9.1885 г. была арыштавана разам з братам, кінута у 10-ы павільён Варшаўскай цытадэлі. 12.5.1887 г. асуджана да высылкі ва Усходнюю Сібір тэрмінам на 5 гадоў. Па дарозе да месца высылкі вяла дзённік. У час зняволення захварэла на сухоты. Хвароба абвастрылася і зімой 1887 г. ў Краснаярскай перасыльнай турме Марыя Багушэвіч памерла.

**БІАРМ**, першая дзяржава цюркаў, размяшчая у Паволжы. Вядома ў Заходняй Еўропе з VI ст. З скандынаўскіх саг і рускіх крыніц вядома, што Біармія (так называлі яе ўсходнія славяне, па-скандынаўску — Біармланд) — гэта краіна, якая славілася футраным звяр`ём, мамантавымі іклами, серабром і металічнымі вырабамі. Вучоныя XIX і пачатку XX ст. меркавалі, што яна знаходзілася каля берагоў Белага мора, на Дзвінскай зямлі і Пярмі, на Кольскім паўвостраве, Паўночным Прыладажы і ў Карэліі. Але ўсе гэтыя варыянты лакалізацыі былі абгрунтавана адкінуты вучонымі. Былі спробы ідэнтыфікацыі Біарміі з Волжскай Булгарыяй. У 1878 годзе Н. І. Залатніцкі выказаўся больш абгрунтавана. Этнонімы біар і булгар ён лічыў варыянтамі аднаго і таго ж слова.

Пры вывучэнні назваў плямён і народаў Прыкам`я і Прыўралля з IX ст. да н.э. да IX н.э. выявілася, што генетычна розныя этнонімы маюць адну і тую ж семантыку: "гаспадары, багатыя людзі". У IX ст. да н.э. і пазней іх называлі і і р к (і й - о э р к), з VIII ст. н.э. яны зафіксаваны як б і а р

(бі-ор), тады ж — білэр (бі-лор), бігер (бэк-ор) і булэр (бу — белыя косці, — лэр — паказчык мн. ліку). Удмурты па традыцыі татар і сёння называюць этнонімам бігер (бок ці бікэр).

Біары, як гаспадары багатай краіны, якая мела цесныя адносіны з заходнееўрапейскімі дзяржавамі, называлі сваю краіну не проста Біар, а Біарым, г.зн. мой Біар, адсюль скандынаўскае Біармланд, рускае Біармія. (Татары і цяпер кажуць не проста іл або авыла абавязкова ілем, авылым, аналагічна: кыр — уладанні, краіна, кырым — мае ўладанні, мая краіна).

На працягу больш чым 200 гадоў (VII — IX стст.) Біармія квітнела як суверэнная краіна. На поўначы і ўсходзе пэўных граніц яна не мела, бо побач не было іншых дзяржаўных утварэнняў, на поўдні яе ўладанні прасціраліся, верагодна, да зямель дзяржаў Саманідаў, да гунскіх, хазарскіх, балгарскіх уладанняў. На захадзе Біармія непасрэдна межавала са славянскімі і скандынаўскімі землямі.

Кансалідацыя розных плямен вакол галоўнага этнічнага кампанента біараў-бігераў адбывалася, відавочна, доўга, этнонім бігер у удмуртаў захаваўся да гэтых часоў і скарыстоўваецца сёння ў адносінах да сваіх старадаўніх суседзяў — цяпер татараў. Акрамя гэтага, не захопленая булгарамі частка Біарміі ў верхнім цячэнні Чулман-Камы працягвала называцца Біарм і зберагласся ў назве горада Перм. Ад гэтага слова паходзіць назва народа комі, якіх рускія назвалі комі-пярмякі.

**ГЛІНСКАЯ Алена Васільеўна** (1508 — 13.4.1538), вялікая княгіня маскоўская, дачка ваяводы брэсцкага, падстолія літоўскага Васілія Львовіча Глінскага, які паходзіў з татарскага роду і быў прамым нашчадкам цемніка Мамая. У дзяцінстве з прычыны ўдзелу яе бацькі ў мяцяжы супроць

вялікага князя Літоўскага і караля Польскага Зыгмунта І Старога (арганізатарам мяцяжу быў брат бацькі Міхал Глінскі), вымушана была з сям`ёй перасяліцца ў вялікае Маскоўскае княства. Алена атрымала традыцыйнае для ліцвінкі выхаванне, якое адрознівалася ад выхавання рускіх баярскіх паненак свабодай у паводзінах і меркаваннях. Прыкладна ў 1525 г. Алену Глінскую, вельмі прыгожую дзяўчыну, заўважыў вялікі князь маскоўскі Васіль III. Ён скасаваў шлюб з жонкай Саламоніяй Сабуравай (фармальная прычына — бясплоддзе жонкі). У студзені 1526 г. Алена Глінская ўзяла шлюб з Васілём III і стала вялікай княгіняй маскоўскай. У 1530 г. нарадзіла сына Івана (пазней стаў царом, за лютасць у гісторыі атрымаў мянушку Жахлівы), пазней другога сына — Юрыя. Алена аказвала на мужа вялікі ўплыў. У 1533 г. аўдавела. Вялікім князем стаў малалетні (трохгадовы) Іван. Апякунчы савет узначальваў дзядзька Алены — М. Глінскі. Прыкладна ў гэты час у Алены з`явіўся фаварыт — князь І. Аўчына-Целяпнёў Абаленскі. Дзядзька М. Глінскі лічыў паводзіны ўдавы-княгіні непрыстойнымі і выступіў супраць гэтай сувязі. Пад надуманым абвінавачваннем Алена кінула свайго дзядзьку ў вязніцу, апякунскі савет разагнала і сама стала рэгенткай (правіцельніцай). Паказала сябе здольнай кіраваць дзяржавай. Змагла перашкодзіць некалькім спробам баяр скінуць яе з пасаду. Яна сама вяла перамовы з замежнымі пасольствамі, заключыла ў 1537 г. мірную дамову са Швецыяй. Пры ёй была праведзена ў 1535 г. грашовая рэформа. Яна зрабіла спробу правесці рэформу мясцовага ўпраўлення. У час яе рэгенцтва ўзмацніўся кантроль за ростам манастырскага землеўладання, было прынята рашэнне аб забароне продажу зямельных участкаў служылых людзей і выхад зямель са "службы". Вялікую незадаволенасць выклікала ў

настаяцеляў манастыроў абмежаванне ільгот ад вызвалення падаткаў з манастырскіх зямель.

Княгіня Алена прадстаўлялася вельмі набожнай, наведвала манастыры. Пад імем каралевы-чараўніцы Алены Прамудрай яна трапіла ў рускі фальклор. Ва ўзросце 30 гадоў вялікая княгіня памерла. Існавала думка, што яе атруцілі. Будучы першы рускі цар Іван IV (Жахлівы) застаўся круглым сіратой у 8-гадовым узросце. Некаторыя гісторыкі тлумачаць, што прыдворныя інтрыгі баяр, у выніку чаго заўчасна памёрла маці, адмоўна адбіліся на характары цара.

**КАФІРУНА, Аль-Кафіруна;** 109-я сура Кур'ана. Складаецца з 6 аятаў. Лічаць яе мекканскай. Назва паходзіць ад слова ў 1 аяце. Па-беларуску назву суры перакладаюць як *Няверныя*. Складае яна быццам крэда Прарока аб поўным разрыве з даўняй даісламскай верай арабаў. Паводле некаторых каментатараў Кур'ана гэта сура была абвешчана Прароку ў адказ на прапанову мекканцаў, якія моцна трымаліся сваёй язычніцкай веры, каб менавіта заключыць пэўны кампраміс з мусульманскай верай і ў той жа час заставацца пры старых язычніцкіх багах. Прарок выразна падкрэслівае, што справа сапраўднай веры, у разуменні мусульманіна, не можа мець нічога агульнага з язычніцтвам. Мусульмане часта спасылаюцца на гэтую суру, каб паказаць талерантнасць Ісламу. З гэтай суры вынікае, што Іслам нікога не праследуе за веру.

**КЕРДЗЕЯ ПЕРАПІС ТАТАРАЎ, Кердзея рэвізія, Рэвізія татарскіх зямель 1628 — 1631 гадоў**, люстрацыя (перапіс) татар-землеўладальнікаў (землекарыстальнікаў) у Вялікім княстве Літоўскім. Гэта адна з найважнейшых крыніц па гісторыі татар Вялікага княства Літоўскага. Распачаты ў 1628 г. і завершаны

ў 1631 г. ашмянскім земскім пісарам Янам Кердзеем (матэрыялы зберагліся ў архіве вялікакняжацкай канцылярыі — Літоўскай метрыцы), перапіс ўключае таксама звесткі, узятыя з аналагічнай рэвізіі, якая праводзілася ў 1559 г. князем Багданам Агінскім (гл. Агінскага перапіс татараў) і такім чынам дае мажлівасць прасачыць лёс соцень татарскіх двароў.

Прызначаныя каралём рэвізоры — Яраш Пясецкі і Ян Кердзей прыступілі было да сваіх абавязкаў, але спроба поспеху не прынесла. Як пісаў пазней сам Кердзей, новыя ўладальнікі татарскіх маёнткаў, ухіляючыся ад службы, ніякіх звестак не пажадалі даць. У Наваградскім ваяводстве ўсяго некалькі мяшчан прыйшлі да рэвізораў, і большасць, заявіўшы, што рэвізію праводзіць не дазволяць, паехалі прэч. Літоўскі скарбны Брольніцкі, які сам валодаў татаршчынамі, доўгі час не адважваўся паказаць неабходныя дакументы. Тым часам татары па загаду караля разоў колькі хадзілі на вайну ў Лівонію, і застаць іх у дварах не ўдавалася.

У 1628 г. сейм, бачачы значную пагрозу для Рэчы Паспалітай у змяншэнні павіннасці і службы татарскай з маёнткаў з-за таго, што тыя татарскія двары розныя асобы забралі і скупілі, афіцыйна абвясціў Пясецкага і Кердзея рэвізорамі, а праз год пацвердзіў сваё рашэнне. У пастанове сейма падкрэслівалася і наступнае: "... татары, которыя имения шляхетские скупив, с них никакой не выполняют повинности, тогда такие имения их должны подлежать той же ревизии, и с них военную службу, согласно конституции 1620 г., они должны исполнять".

**КЛЕЦКАЯ БІТВА 1506**, адбылася 5 жніўня каля Клецка (цяпер Менская вобл.,) паміж крымскімі татарамі і войскамі Рэчы Паспалітай. У Крыме ханскі пасад займаў Менглі-Гірэй I (трэцяе панаванне, 1478 — 1515), Вялікім князем з 1492 Вялікага княства

Літоўскага быў унук Ягайлы і сын Казіміра IV, з 1501 кароль Аляксандр Ягелончык, у час бітвы цяжка хворы, памёр 19.8.1506).

Фармальнай прычынай некалькіх нападкаў крымскай арды на Літву і Польшчу ў пачатку XVI ст. у 1505 г. быў націск на Рэч Паспалітую, каб змусіць плаціць даніну татарам, аб якой упамінаў Менглі-Гірэй у 1499 г. Крымскі правіцель спасылаўся на тое што ён як наследнік Залатой Арды мае права патрабаваць даніну ад палякаў і ліцвінаў, якія з 1438 г., пасля наезду Арды на Падолле і паражэння войск падольскага ваяводы Міхаіла Бучацкага, плацілі яе пэўны час ханам у Сарай. Даніну не атрымаў, а таму кінуў Арду ў атаку.

У пачатку 1506 г. татары накіравалі частку сіл на Малапольшчу, другую частку на Беларусь. У маі паўтарылі наезд. На гэты раз у выправе татар прыняло удзел каля 4 тысяч вершнікаў са значна большай колькасцю коней. Узначальвалі войска сыны Менглі-Гірэя Фаціх і Бурнаш. Праз Чарнігаў, Мазыр, Пагост і Слуцк войска дайшло да Клецка, дзе атабарылася і распусціла чамбулы (атрады) рабаваць ваколіцы. У гэты час вестка пра наезд татар дайшла да цяжка хворага караля Аляксандра Ягелончыка, які абвясціў паспалітае рушэнне і перадаў камандаванне гетману літоўскаму Станіславу Кішку і прыдворнаму маршалку Міхалу Глінскаму, які меў большы вайсковы вопыт, чым гетман. "Будучы татарынам па крыві і меўшы цесныя адносіны з Менглі-Гірэем добра ведаў і разумеў татарскую вайсковую тактыку — пісаў Станіслаў Гэрбст. — На тэрыторыі Кароны пачаў Глінскі вялікую рэарганізацыю конніцы — увядзенне рацаў, усходняга элемента, выпрабаванага ў войнах з туркамі" (мова ідзе аб лёгкай конніцы, якая выводзіцца з сербска-венгерскага паграніччa).

Неўзабаве сабралася 7 тыс. воінаў, у тым ліку 6 тыс. з паспалітага рушэння (г.зн. апалчэнцаў). Пасля

таго, як разведка сабрала звесткі пра непрыяцеля, вечарам 3 жніўня рушылі насустрач ворагу з намерам нанесці ўдар на кош (табар). Па дарозе хвароба зваліла з ног гетмана, кіраўніцтва прыняў Глінскі.

У гэты час у татарскім табары было каля 3 тыс. воінаў з палоннымі, сагнанымі татарскімі чамбуламі, які рабавалі па ваколіцах, дасягаючы Менска, Ашмян, Наваградка і Ліды. Татары, якія знаходзіліся ў табары, прынялі бой, які адбыўся 5 жніўня каля багністых берагоў Лані. Польска-літоўскія сілы наступалі дзвюма калонамі, для чаго трэба было фарсіраваць раку (татары не чакалі наступлення праціўніка з гэтага боку, таму ён не быў умацаваны). Першай пераправілася цераз раку правая калона. На яе напалі татары галоўнымі сіламі і акружылі. Ішла упартая бойка. Глінскі з левай калонай паспеў пераправіцца цераз раку, разбіў слабую заслону татар і прышоў на дапамогу акружаным. Гэты ўдар і вырашыў зыход бою. Разбітыя татары кінуліся на ўцёкі, частка з іх патапілася ў р.Цапра. У табары пераможцы ўзялі ўсе трафеі татар: каштоўныя рэчы, ясір (палонных), жывёлу; было ўзята ў палон шмат татар і іх коней. З-за недысцыплінаванасці правай калоны, якая складалася з паспалітага рушэння і пачала наступленне самавольна, Глінскаму не ўдалося акружыць непрыяцеля. Рэшткі адступіўшых татар знішчала навакольнае насельніцтва.

Неўзабаве пасля бітвы пад Клецкам польска-крымскія адносіны значна палепшыліся. Польшча і Літва згадзіліся плаціць даніну, якую з далікатнасці назвалі "падарункамі". Менглі-Гірэй у ярлыку ад 1507 г. для Жыгімонта Старога пацвердзіў пажалаванні папярэдніх ханаў і прызнаў правы Літвы да ўсіх рускіх зямель, некалі належалі Залатой Ардзе, а пасля адышла да Вялікага княства Літоўскага. Абодва бакі заключылі дагавор ў Мельніку аб антымаскоўскім саюзе, да якога

меркавалі прыцягнуць і Казанскае ханства, на якое ў маі 1506 г. напалі царскія войскі.

Большасць даследчыкаў, якія тлумачаць пасяленне татар у Клецку і Менску як вынік пераможнай бітвы 1506 г., не маюць бясспрэчных падстаў, бо ў час наведвання Менска Вітаўтам Вялікім у 1428 г. яго віталі татары і зрабілі яму падарункі. Магчыма, часткова палонныя з-пад Клецка пасяляліся сярод сваіх супляменнікаў у гарадах і мястэчках Вялікага княства Літоўскага, што здаралася раней і пазней бітвы 1506 года пад Клецкам.

**ЛІВІЙСКІЯ АРАБЫ**, **лівійцы**, **арабы Лівіі**, асноўнае насельніцтва Лівіі. Колькасць больш за 3 млн. чалавек, жывуць таксама ў Італіі, Германіі і інш. краінах. Належаць да індаміжземнаморскай расы вялікай еўрапеоіднай расы. Размаўляюць на лівійскім дыялекце арабскай мовы. Гэты дыялект уваходзіць у магрыбскую групу дыялектаў. Лівійскія арабы — мусульмане-суніты.

Лівійскія арабы сфарміраваліся ў выніку змяшання ў 7-11 стст. прышлых арабскіх плямён з карэнным берберскім (гл. Берберы) насельніцтвам. Працэс этнічнай кансалідацыі ўзмацніўся ў барацьбе за незалежнасць у 20 ст., асабліва пасля рэвалюцыі 1969 г. На ўзбярэжжы займаюцца земляробствам (масліны, цытрусавыя, фінікавая пальма, ячмень, пшаніца), у паўднёвых і цэнтральных раёнах — жывёлагадоўляй (козы, авечкі, вярблюды, у меншай ступені — коні). Частка лівійскіх арабаў занята на нафтапромыслах. Каля трэціны насельніцтва качэўнікі і напаўкачэўнікі, у якіх зберагліся рэшткі родаплемяннога ладу. Жыллё — нізкія глінабітныя дамы з унутранымі панадворкамі. Пашыраны прызначаныя для людзей і свойскай жывёлы зямлянкі — скляпеністыя памяшканні на глыбіні да 10 м, у якое вядзе шахта, часам — некалькі такіх

памяшканняў на рознай глыбіні, злучаных лесвіцай. Вопратка агульнаарабскага тыпу. Развіта саматужная вытворчасць дываноў (кілімаў), цісненне і аплікацыя (на вырабленай скуры), меднага чаканага посуду, пляценне з пальмавых лістоў. Сістэма роднасці і сваяцтва арабскага тыпу. Існуе народны тэатр ценяў, вусныя апавяданні ("куфар навін").

**ЛІПКАЎ БУНТ 1672**, пераход татарскіх харугваў на бок Турцыі вясной 1672, выступленне са зброяй у руках падданых Рэчы Паспалітай супроць сваёй радзімы. Татары, служачы Вялікаму княству Літоўскаму шмат стагоддзяў, толькі адзін раз (і далёка не ўсе) перайшлі на бок ворага.

Надарылася тое ў 70-ыя гады XVII ст., калі зноў абвастрылася сітуацыя на паўднёвых межах Рэчы Паспалітай. Руска-польская і руска-шведская вайна ў канцы 50-ых гадоў XVII ст. набыла хранічны, зацяжны характар. У 1660 г. быў заключаны мір са Швецыяй (ў гэтай вайне вельмі пацярпелі татарскія сем'і), праз год вызвалена Вільня. Пасля некалькіх няўдач рускі ўрад у 1664 г. пагадзіўся пайсці на перамовы аб перамір'і. Магчымасць збліжэння Расіі і Рэчы Паспалітай падалася небяспечнай Крыму і Турцыі. Султан скінуў прыязнага да Польшчы хана Мехмед-Гірэя IV, яго пераемнік Адыль-Гірэй вярнуўся да варожай палітыкі. Новы гетман казакоў правабярэжнай Украіны Пётр Дарашэнка спрабаваў ператварыць яе ў васальную ад Атаманскай Порты дзяржаву. Татарскія харугвы арміі Кароны (непасрэдна падпарадкоўваліся каралю Рэчы Паспалітай), служылі ў войску не за зямельны пажалаванні, а за грошы — адзіны сродак утрымання сваіх сямей) разам са сваімі таварышамі па зброі з цяжкасцю адбівалі атакі казацкіх атрадаў. Наспяваў узброены канфлікт паміж Турцыяй і Польшчай.

Увосень 1671 г. пасля разгрому казацка-крымскіх войск пад Кальнікам гетман Ян Сабескі

(17.8.1629 — 17.6.1696; кароль Рэчы Паспалітай пад імем Ян III з 1674 г.) размясціў свае атрады на зімнія кватэры. Некалькі татарскіх харугваў стаялі пад Белаю Царквою. З іх кіраўніцтвам наладзіла кантакты турэцкая разведка, якая ўжо ведала аб незадаволенасці, што наспявала ў пэўных шэрагах татарскіх харугваў, як, зрэшты, і многіх іншых злучэннях польска-літоўскай арміі. А падстава дзеля таго мелася. Казна апусцела. Сейм абяцаў выплаціць жалаванне ўжо шмат разоў, але далей абяцанняў справа не пайшла, што паслужыла прычынай многіх пратэстаў. Пакрыўджаным лічыў сябе і ротмістр Аляксандр Крычыньскі, нашчадак старога літоўскага роду Найманаў. Яго продкі валодалі многімі дварамі ў Ашмянскім павеце і сялом Крычын на Бярэзіне ў Аршанскім павеце. Але сам ён у маладосці апынуўся на Украіне (магчыма, і нарадзіўся там) вызначыўся у баях з паўстанцамі Хмяльніцкага, вадзіў сваю харугву на крымскія чамбулы (атрады).

Да незадавальнення сваім матэрыяльным становішчам прыбавілася адчуванне татарамі рэлігійнага ўціску. Турэцкая прапаганда ўмела падкрэслівала рэлігійную супольнасць паміж туркамі і татарамі. Значную ролю адыгрывала і традыцыйная павага да асобы султана, які насіў тытул халіфа — правадыра ўсіх мусульман. Адна справа — вайна з Крымам, другая — з Турцыяй; у такім выпадку татары з Літвы і Польшчы маглі ў прынцыпе мець тыя ж пачуцці, што і каталікі, вымушаныя ваяваць ў арміі іншаверцаў супраць папы рымскага. Зрэшты, татарам з Вялікага княства Літоўскага, якія зведалі ў 1621 г. Хоцім, гэта акалічнасць не вельмі перашкаджадла. У XVII ст. крызіс дзяржавы прымусіў многіх яе грамадзян шукаць сабе апекуноў у чужых краях, спадзявацца на нечую дапамогу. Так, украінцы і частка беларусаў нейкі час ускладалі надзеі на праваслаўнага "белага цара", пратэстанты — на адзінаверца караля шведскага. Некаторыя

мусульмане павярнуліся да свайго духоўнага настаўніка — уладара магутнай Атаманскай імперыі.

Яшчэ ў снежні 1671 года польскі пасол Кавоўскі, едучы ў Крым, папярэдзіў улады Рэчы Паспалітай, нібыта туркі штодзённа атрымліваюць звесткі ад літоўскіх татар, якія, лічачы сябе абдзеленымі ў заслугах, накіраваліся пад пратэкцыю турэцкага султана. Яны гавораць аб беднасці Польшчы і бязладдзі, аб тым, што Польшча ўжо не тая, што была раней.

Вясною 1672 г. татарскія харугвы на чале з Аляксандрам Крычыньскім узбунтаваліся і перайшлі на турэцкую службу. Праз некалькі месяцаў на ўкраінскія землі ўступіла велізарная султанская армія: 100 тысяч турак, каля 10 — 15 тысяч крымскіх татар, прыхільныя ім казакі Дарашэнкі, каля 6 тысяч малдаван і валахаў (татарскія харугвы, якія здрадзілі Рэчы Паспалітай, складалі 2 — 3 тыс. чалавек, (крыху больш за 2% войска Атаманскай імперыі і істотнага значэння для турак не мела — заўвага рэд.). 26 жніўня пасля кароткай асады паў Камянец-Падольскі. Паводле Бучацкага міру, падпісанага 18 кастрычніка, Рэч Паспалітая мусіла аддаць частку Украіны (у тым ліку Падолію) Турцыі і абавязалася плаціць султану даніну — штогод 22 тысяч злотых. Сем`ям татар, якія перайшлі на турэцкую службу, дазвалялася выехаць у Турцыю з ўсёй маёмасцю.

Сейм 1673 года не прызнаў ганебнага пагаднення з Турцыяй і пачаў падрыхтоўку да новай вайны. Тым часам Аляксандр Крычыньскі стаў беем захопленай туркамі крэпасці Бар, дзе размясцілася значная частка былых татарскіх харугваў Кароны. Аднак апынуўшыся ў мусульманскай краіне пад уладаю "праваапернага халіфа", літоўскія татары даволі хутка выказалі абурэнне сваім новым становішчам. Ужо ў ліпені 1673 г. група ротмістраў, што знаходзілася на турэцкай службе, завязала

тайныя перамовы з гетманам Янам Сабескім (пры ўмове магчымасці вярнуць колішнія ўладанні, а таксама атрымаць за ранейшыя заслугі хоць нейкі надзел зямлі). Было выказана і некалькі прапаноў па змяненні законаў, якія датычыліся татар. Па-першае, каб не чынілася ніякіх перашкод у веравызнанні і дазвалялася на сваіх землях будаваць мячэці. Па-другое, каб крымінальныя справы ў дачыненні татар вырашаліся так, як і да астатняй шляхты. З часоў трэцяга Статута існавалі невялікія адрозненні; у прыватнасці, за ненаўмыснае забойства звычайнага шляхціца бралася галоўшчына і вінаватага змяшчалі ў турму ("вежу"), за забойства татарына "вежа" не прымянялася. Відаць, асаблівага практычнага значэння такая мера не мела, гаворка ішла аб скасаванні нязначнай, але ўсе ж адметнасці ў прававым становішчы татар і іншай шляхты.

Аднак першыя кантакты ротмістраў з гетманам Сабескім не прынеслі поспеху, і беглыя татарскія атрады бралі ўдзел у ваенных дзеяннях на баку Турцыі. (Дарэчы, яны атрымалі прозвішча "ліпкі" ад скажонай турэцкай назвы Літвы). Незадавальненне сярод іх нарастала, і ў кастрычніку 1673 г., калі армія Яна Сабескага перайшла ў наступленне, у Бары адбылося хваляванне, падчас якога Аляксандра Крычыньскага забілі яго ж таварышы. Яго пераемнікам неўзабаве назначылі другога татарскага ротмістра Хусейна Мураўскага.

Войскі Рэчы Паспалітай абыходзіліся з палоннымі ліпкамі, як са здраднікамі. Пры ўзяцці падольскай крэпасці Мендзыбожа туркаў адпусцілі на волю, аднак усіх захопленых ліпак пакаралі смерцю. Гэта, напэўна, узмацніла разгубленасць сярод тых, хто застаўся на турэцкай службе.

11 лістапада польска-літоўская армія, куды ўваходзілі і тры татарскія харугвы, перамагла туркаў пад Хоцімам, і гетмана Яна Сабескага хутка абралі польскім каралём.

Новы паход на Турцыю пачаўся праз год. 12 лістапада здаўся пераможны Бар. Ліпкі (паводле сведчанняў аднаго з удзельнікаў паходу, іх было 1200 чалавек) здаліся на чацьвёрты дзень пасля даволі жорсткага супраціўлення. Кароль злітаваўся і зноў прыняў іх на службу ў армію, а Хусейна Мураўскага пазней нават накіраваў са спецыяльнай місіяй у Крым, даручыўшы яму весці перамовы з ханам Селім-Гірэем. На жаль, Мураўскі не апраўдаў даверу караля і зноў апыніўся ў турказ. Засталіся там і іншыя ліпкі. Для тых, хто вярнуўся на службу Рэчы Паспалітай, сейм у 1676 г. абвясціў агульную амністыю. Многія татары крывёю змылі сваю віну, сумленна працягвалі служыць каралю і Рэчы Паспалітай.

Падчас новых перагавораў з Турцыяй быў падпісаны цяжкі для Рэчы Паспалітай мір, які захаваў за Турцыяй частку Украіны. Адзін з артыкулаў Журавінскага трактата прадугледжваў добраахвотнае перасяленне татар-ліпкаў з Каралеўства Польскага ў Атаманскую Імперыю з усёй маёмасцю і сем`ямі. Такіх аказалася не многа, бо тыя, хто гэтага ждалі, збеглі ў Турцыю раней.

Рух ліпкаў не атрымаў шырокага размаху: нешматлікія літоўскія татары не маглі ўяўляць сур`ёзнай пагрозы для Рэчы Паспалітай, хоць і прыносілі многа клопатаў польскаму ўраду. Але менавіта крызіс шматнацыянальнай дзяржавы ў сярэдзіне XVII ст. знайшоў свае адлюстраванне ў руху літоўскіх татар. Зрэшты, нашчадкі ардынцаў на той час былі моцна паланізаваны і большасць іх захоўвала традыцыйную вернасць Рэчы Паспалітай. Аднак рух ліпкаў мусіў прыцягнуць увагу польскіх улад да становішча літоўскіх татар, выклікаць дзеянні, накіраваныя на яго рэальнае паляпшэнне.

Ужо ў 1673 г., адразу пасля здрады ліпкаў, сейм зноў пацвердзіў прывілеі татар, іх свабоду ад падаткаў і павіннасцей нароўні са шляхтай, прычым

парушэнне чыноўнікамі тых правоў павінна было адпаведна караццa. Замацавалі і пашырылі льготы татар таксама прывілеі Яна III Сабескага, сеймавыя канстытуцыі. Гл. таксама Прывілеі каралеўскія, Падляшскія татары.

---

Польскія вучоныя, якія вывучалі бунт ліпкаў, сабралі вялікі фактычны матэрыял. Станіслаў Крычыньскі, Пётр Бараўскі і Аляксандр Дубіньскі адзначаюць, што сем'і татар-вайскоўцаў на працягу месяцаў і нават гадоў не атрымлівалі грошы за службу. Галодныя татарскія жанчыны прадавалі ўсю хатнюю маёмасць, вымушаны былі жабраваць. Шматразовыя просьбы татар да свайго начальства, да гетмана звычайна ніякага выніку не давалі. Татары, якія непасрэдна падпарадкоўваліся Вялікаму князю ці літоўскім магнатам, былі ў лепшым становішчы і сем'і іх не жабравалі. Такім чынам, адзіным выйсцем для татар каронных (каралеўскіх) харугваў быў збройны чын. Кароль і сейм прызналі, што запазычанасць Рэчы Паспалітай татарам за вайсковую службу склала 10 тысяч злотых, замест якіх дзяржава дала татарам зямельныя надзелы ў Падляшшы.

**ЛУКАШЭНКА Аляксандр Рыгоравіч** (н. 30.8.1954 у п.Копысь Аршанскага раёна Віцебскай вобл.), першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Закончыў Магілёўскі педагагічны інстытут і Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Па спецыяльнасці — настаўнік гісторыі і грамадазнаўства, эканаміст-арганізатар сельскагаспадарчай вытворчасці.

З 1987 года працуе дырэктарам саўгаса "Гарадзеец" Шклоўскага раёна на Магілёўскай вобл. Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Работа ў мінулым: 1971 — 1975 — студэнт Магілёўскага педінстытута, сакратар камітэта камсамола СШ № 1 г.Шклова. 1975 — 1977 — інструктар палітаддзела Заходняй пагранічнай акругі, г.Брэст, в/ч 2187. 1977 — 1978 — сакратар камітэта камсамола гархарчгандлю, г. Магілёў,

інструктар Акцябрскага райвыканкама г. Магілёва. 1978 — 1980 — адказны сакратар раённай арганізацыі таварыства "Веды", г. Шклоў. 1980 — 1982 — намеснік камандзіра роты па палітчасцы, в/ч 04104. 1982 — 1983 — намеснік старшыні калгаса "Ударнік" Шклоўскага раёна. 1983 — 1985 — намеснік дырэктара камбіната будматэрыялаў, г.Шклоў. 1985 — 1987 — сакратар парткома калгаса імя Леніна Шклоўскага раёна. 1987 — да выбрання на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 10 ліпеня 1994 года — дырэктар саўгаса.

**МУНКАР І НАКІР**, імёны двух анёлаў, якія дапытваюць чалавека пасля яго смерці ў магіле. Верніка-мусульманіна яны пакідаюць у супакоі, грэшнікаў і недавяркаў падвяргаюць пакаранню (азаб ал-кабр), якое папярэднічае пакаранню у джаханнаме (пекле). Некаторыя знаўцы Ісламу Мункара і Накіра лічуць анёламі-ахоўнікамі, якія суправаджаюць кожнага чалавека.

**НАКІР**, гл. Мункар і Накір.

**НАСР, Аннаср, Аль-Наср**, 110-я сура з Кур`ана. Складаецца з 3 аятаў. На беларускую мову назву суры перакладаюць словамі *Перамога*. Лічаць яе да кароткіх мекканскіх сур, назва паходзіць ад слова ў 1 аяце. Прадракае перамогу Ісламу. Як мяркуюць многія каментатары Кур`ана паходзіць яна з апошняга перыяду жыцця Прарока і як бы нагадвае пераможнае ўступленне Мухаммеда ў Мекку ў 630 г., а некаторыя даследчыкі лічаць што гэта сура адносіцца да развітальнага Хаджу Прарока ў Мекку, г.зн. да 632 г.

**СЦЯГ БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ, Флаг беларускіх татараў** ужываўся ў вайсковых падраздзяленнях для абазначэння месца знаходжання начальніка-камандзіра. Там, дзе ўздымаўся флаг, сцягваліся з рапартамі-дакладамі камандзіры падраздзяленняў, ганцы з загадамі харугвам

(сотням). У час Грунвальдскай бітвы, паводле сведчання татарскіх рукапісных кніг — Аль-Кітабаў, гаспадарскія татары (падпарадкоўваліся непасрэдна Вітаўту — свайму гаспадару) мелі сцяг гаспадара: бел-чырвона-белы (суадносіны вышыні да даўжыні 1 х 2, шырыня кожнай паласы аднолькавая). Каб вылучыцца, што пад сцягам татары, на чырвонай паласе быў змешчаны белы паўмесяц (ветах) і побач пяцікутная зорка, якія добра глядзеліся на чырвоным фоне. Татары, якія ўдзельнічалі ў Грунвальдскай бітве, карысталіся сцягам сына хана Залатой Арды Тахтамыша — Джалалэд-Дзіна (гл. Сцяг прароцкі). Беларускае згрунтаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб" карыстаецца сваім сцягам з 1991 г. На ўрачыстасцях беларускія татары на пачэсным месцы вывешваюць Беларускі Дзяржаўны сцяг, Сцяг беларускіх татараў, Сцяг Прароцкі як сімвал еднасці са сваімі адзінаверцамі на ўсім свеце.

**СЦЯГ ПРАРОЦКІ**, **Сцяг Прарока**, **Флаг Прарока**, скарыстоўваецца татарамі з часу прыняцця Ісламу (з 922 г. ў Булгарыі Волжскай, з XIV ст. ў Закаспіі). На палотнішчы зялёнага колеру (гэты колер быў паводле паданняў любімым колерам Прарока Мухаммеда) з паўмесяцам і зоркай, якія мелі белы колер. Пад гэтым сцягам войска Джалал-эд-Дзіна ўдзельнічала на баку беларуска-літоўска-польскага войска ў бітве пад Грунвальдам. Гаспадарскія татары мелі іншы сцяг (гл. Сцяг беларускіх татараў).

**СЫРАКОМЛЯ Уладыслаў** (сапр. Кандратовіч Людвік Францішак Уладзіслаў; 29.9.1823, фальварак Смольгава Бабруйскага пав. Менскай губ., цяпер в. Смольгава Любанскага раёна Менскай вобл. — 15.9.1862, Вільня, пахаваны на могілках Роса), паэт, драматург, перакладчык, крытык, краязнавец. З прыязных пазіцый пісаў пра беларускіх татар. Творы

Сыракомлі пераважна на польскай мове, ёсць вершы на беларускай мове.

Нарадзіўся У. Сыракомля ў сям`і арандатара Аляксандра Каятана Кандратовіча (шляхецкі герб — Сыракомля), шлюб браў з Вікторыяй Златкоўскай. Продкі належалі да старадаўняй беларускай шляхты, паланізаванай у выніку гістарычных падзей у Вялікім княстве Літоўскім. Дзед паэта, Юзаф, быў лідскім ротмістрам. Бацька меў адукацыю каморніка, аде на казённую службу не пайшоў і, каб пракарміць сям`ю, арандаваў дробныя фальваркі ў князёў Радзівілаў. У 1825 годзе Кандратовічы пераехалі ў Яськавічы (цяпер вёска ў Салігорскім раёне), вясной 1831 г. ў Кудзінавічы (цяпер вёска ў Капыльскім раёне). Навучыўшыся чытаць па-польску самастойна знаёміцца з творамі І. Красіцкага і Ф. Князьніна. За падрыхтоўкай У. Сыракомлі да школы сачылі хатнія настаўнікі. Здаўшы ў канцы лета 1833 г. экзамены, У. Сыракомля пачаў вучыцца ў павятовай школе пры дамініканскім кляштары ў Нясвіжы адразу з другога класа. Пад канец навучальнага года ён быў па паспяховасці трэцім вучнем класа, аднак скончыць школу не ўдалося: у лістападзе 1835 г. ўлады зачынілі яе. Давучваўся ў дамініканскай школе ў Навагрудку, адкуль, скончыўшы пяты клас, вярнуўся да бацькоў у в. Марахоўшчына, каб паступова далучыцца да гаспадарчых спраў. Неўзабаве высветлілася, што арандатарскія клопаты не прываблівають падлетка, які шмат чытае і нават рыфмуе, пераймаючы класічныя ўзоры. Бацька добра разумеў імкненне сына да асветы і, калі яны перабраліся на новую арэнду ў Залучча (цяпер Стаўбцоўскі раён), дапамог яму ў 1841 г. ўладкавацца на службу ў канцылярыю кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі. Гэта дазволіла У. Сыракомлю пашырыць магчымасці для самаадукацыі. На працягу года ён вывучаў паперы радзівілаўскага архіва і ў выніку напісаў артыкул пра мінулае Нясвіжа для

"Старажытнай Польшчы" М. Балiньскага. У красавiку 1844 г. У. Сыракомля ўзяў шлюб з Паўлiнай Мiтрашэўскай i пераехаў у Залучча.

Будучы арандатарам, У. Сыракомля напiсаў паводле пачутай у Мiры гiсторыi "народную гутарку" "Паштальён", якая была яго дэбютам у друку (1844 г.), а пазней, праз пераклад Л. Трэфалева, — надзвычай папулярнай у Расii песняй "Когда я на почте служил ямщиком ..." У цiхiм прынёманскiм Залуччы ён працаваў многа i плённа: пераклаў на польскую мову паэтаў-лацiнiстаў, рыхтаваў "Гiсторыю лiтаратуры ў Польшчы", пiсаў вершы, гутаркi, карэспандэнцыi ў газеты. Лiтаратурныя клопаты вымагалi частых сустрэч з выдаўцамi. Паўстала непазбежнасць пераезду ў Вiльню.

Развiтанне з абжытым Залуччам было паскорана раптоўнай смерцю дачок-малалетак. У верасні 1852 г. У. Сыракомля, даручыўшы гаспадарскiя клопаты будучаму паэту В. Каратынскаму, якi жыў у яго з сярэдзiны 1850 г., пераехаў з сям`ёю ў Вiльню. Аднак сталым жыхарам горада ён быў нядоўга; у канцы красавiка 1853 г. пачаў арандаваць фальварак Барэйкаўшчына (цяпер вёска ў Вiльнюскiм раёне). Барэйкаўшчынска-вiленскае дзесяцiгоддзе паэта вызначаецца ўзмацненнем у яго творчасцi дэмакратычных тэндэнцый i грамадзянскiх матываў. Шукаючы адказ на сацыяльна вострыя пытаннi часу, Сыракомля абураўся абыякавасцю пануючых класаў да лёсу прыгонных ("Вызваленне сялян"), саркастычна глядзеў на самадзяржаўную ўладу ("Сахар-мароз"), звяртаўся да гiсторыi краю, каб апаэтызаваць гераiчна-патрыятычныя ўчынкi продкаў дзеля аднаўлення сучаснай яму нацыянальна-вызваленчай барацьбы ("Гетманаўская начоўка", "Улас"). У сярэдзiне 1850-х гадоў Сыракомля быў ужо аўтарам шасцi кнiг перакладзеных iм паэтаў-лацiнiстаў, двухтомнай "Гiсторыi лiтаратуры ў Польшчы", некалькiх асобных

выданняў гутарак-паэм, а таксама зборнікаў лірычных твораў.

У 1856 і 1857 гадах ён ездзіў у Варшаву, у 1858 г. пабываў у Познані і Варшаве, дзе, ёсць меркаванні, наладжваў кантакты з рэвалюцыйным эміgranцкім рухам. Шмат увагі надаваў падтрымцы творчасці землякоў на беларускай мове (В. Дунін-Марцінкевіч, А. Вярыга-Дарэўскі і інш.). Наважваўся сумесна з В. Каратынскім выдаць кнігу беларускамоўных вершаў, пры гэтым выявіў разуменне грамадскай патрэбы ў вывядзенні беларускіх твораў на самастойны шлях. З твораў, напісаных У. Сыракомлем па-беларуску, да нас дайшлі толькі два — агітацыйны антыцарскі верш "Добрыя весці" (1848, 1861) і вершаваная лірычная мініяцюра "Ужо птушкі пяюць усюды ..."(1861).

Уласная беларуская паэзія і гарачая падтрымка творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча на беларускай мове, амаль увесь літаратурны даробак Сыракомлі ў яго няўхільным набліжэнні да дэмакратычнага чытача, да народа, у яго ўнутрана лагічным руху да беларускамоўнай творчасці вызначаюць У. Сыракомлю як гістарычна абумоўленую з`яву ў грамадска- культурным жыцці Беларусі сярэдзіны мінулага стагоддзя, як беларускага паэта-дэмакрата.

Сакрэтны нагляд за Сыракомлем, устаноўлены пасля яго знаходжання за мяжой у 1858 г., паглыбіў канфлікт з царскімі ўладамі. Таму, калі паэт выступіў у Коўне з чытаннем антыцарскіх вершаў, а пасля выехаў у Варшаву, яго на зваротным шляху арыштавалі. Амаль месяц Сыракомля знаходзіўся пад арыштам у віленскай турме. Пасля — да заканчэння следства — яму было дазволена жыць пад наглядам паліцыі ў Барэйкаўшчыне, а пазней пераехаць на лячэнне ў Вільню. 15 верасня 1862 г. ён памёр. У фарным касцеле ў Нясвіжы, а таксама на доме ў Вільні, дзе ён памёр, устаноўлены памятныя таблiцы. У Нясвіжы і Варшаве ёсць вуліцы, якія носяць яго

імя. Імем У. Сырвкомлі названа адна з сярэдніх школ у Вільнюсе. Песні на словы паэта напісалі І. Залескі, С. Манюшка, С. Прушынскі і інш.

---

У краязнаўчых творах ("Вандрэўкі па маіх былых ваколіцах", "Менск") У. Сыракомля даў цікавыя замалёўкі і глыбокія гістарычныя экскурсы пра татар, якія спрадвеку жылі на Меншчыне, каля Нясвіжа, Вільні і ў самым Менску. Мяркуюць, што сюжэт яго верша "Паштальён" — гэта падзея, якая здарылася ў выніку любові паненкі-хрысціянкі і хлопца-мусульманіна. "Паштальён" Сыракомлі з польскай мовы (відаць з артыкула М. Маліноўскага, надрукаванага ў газеце "Літаратура і мастацтва", №36 (3758) за 9 верасня 1994 г.) акрамя Л. Трэфалева пераклалі паэты М. Міхайлоўскі, Л. Пальмін, І. Талмачоў, Д. Бохан, А. Карынфскі, Я. Лучына, М. Лужанін, І. Чыгрын, М. Сматрыцкі.

**ТАТАРСКІ ПРАЛІЎ**, паміж мацерыком Еўразія і востравам Сахалін. Злучае Японскае і Ахоцкае мора (цераз праліў Невяльскога, Амурскі ліман і Сахалінскі заліў). Даўжыня 663 км, шырыня на поўдні да 324 км, на поўначы — да 40 км, у самым вузкім месцы (праліў Невяльскога) — 7,3 км, найменшая глыбіня на фарвары 8 м. Зімою замярзае. Порты: Ваніна, Аляксандраўск-Сахалінскі, Невельск, Холмск. Першыя з еўрапейцаў Татарскі праліў убачылі казакі атрада І.Ю. Масквіціна ў 1640 г. Назва праліву дадзена памылкова, бо ніўхі, якія жылі на берагах праліва, належаць да палеаазіяцкай групы народаў. Пад назвай Татарскі ён вядомы на замежных геаграфічных і марскіх картах.

**ТАТАРШЧЫНА**, Т а т а р ш ч ы з н а, зямельныя пажалаванні караля Рэчы Паспалітай татарам Вялікага княства Літоўскага. За некалькі валок зямлі (валока — каля 20 га) татарын павінен быў конна са зброяй з`яўляцца па загаду караля ці гетмана і ўдзельнічаць у наступальных ці абарончых войнах. Кожны татарын-воін сам клапаціўся пра тое, каб конь быў абучаны, рыштунак і зброя спраўныя,

вывучка воіна адпаведная, бо ад гэтага ў вялікай ступені залежала яго жыццё. Калі воін-татарын гінуў на вайне, а ў яго падрастаў сын, то да яго паўналецця сям`я татарына карысталася татаршчынай, а далей залежыла ад таго, ці пераймаў сын і працягваў вайсковую службу бацькі. Калі пасля смерці татарына-воіна заставалася ўдава, то яна таксама карысталася зямлёй да сваей смерці. У адрозенне ад наданняў зямельных надзелаў Вялікім князем Літоўскім, так званым зямянам, карыстальнікі татаршчынамі не мелі права прадаваць, перадаваць па спадчыне, абменьваць татаршчыны на шляхецкія, зямянскія землі. Калі ж хто-небудзь з хрысціян купляў ці іншым шляхам прыдбаў татаршчыну, то ён павінен несці вайсковую службу ў поўным аб`ёме ў татарскай харугвіі, або павінен быў на працягу 2 гадоў перадаць татаршчыну ўладам. Практычна, ніхто не хацеў з новых гаспадароў выконваць вайсковыя абавязкі на ўмовах, якія выконвалі татары. Рэвізія Кердзея татаршчын (гл. Кердзея перапіс татараў) паказала, што ў параўнанні з 1559 г., калі правадзіўся Агіньскі перапіс татараў, колькасць татар-вершнікаў, якіх набіралі за кошт татар — карыстальнікаў татаршчын скарацілася ў тры-чатыры разы. У большасці еўрапейскіх краін фарміраванне войска за кошт карыстання зямельнымі надзеламі, цалкам састарэла, захавалася памеснае землекарыстанне толькі у Вялікім Маскоўскім княжастве і Вялікім княстве Літоўскім, часткова на тэрыторыі Кароны (уласна Польшчы). На тэрыторыі Беларусі да гэтага часу захавалася некалькі населеных пунктаў з назвай татарышчына (татаршчызна), асобных урочышчаў, якія нярэдка звязаны з назвамі мінулых землекарыстальнікаў.

У Слоўніках назваў населеных пунктаў пра кожную вобласць, якія склаў Я.Н. Рапановіч і выдала ў Менску выдавецтва "Навука і тэхніка"

(больш чым 30 тыс. назваў вёсак, хутароў, пасёлкаў) назву з корнем слова татар маюць наступныя: Брэсцкая вобл. (кніга надрукавана ў 1982 г.) — Татарка, хутар у Бастыніцкім с/с Лунінецкага раёна; Татарнавічы, вёска ў Антопальскім п/с Драгічынскага раёна; Татар`я, вёска ў Імянінскім с/с Драгічынскага раёна. Віцебская вобл. (1987) — Татаршчына, хутар у Слабодкаўскім с/с Браслаўскага раёна; Татаркі, вёска да 1939 г. ў Светласельскім с/с Шумілінскага раёна; хутар да 1963 г. ў Язвінскім с/с Шумілінскага раёна; Татарск — вёска ў Ліпскім с/с Аршанскага раёна; Татарскія, вёска ў Суражскім п/с Віцебскага раёна; Татары — вёска ў Якубаўшчынскім с/с Міёрскага раёна.

Гомельская вобл. (1986) — населеных пунктаў з назвай, у корні слова татар не захавалася, а можа не існавала наогул. Гродзенская вобл. (1982) — Татарка — вёска ў Пагодзенскім с/с Воранаўскага раёна; хутар у Трабскім с/с Іўеўскага раёна; Татарыцы — вёска ў Бердаўскім с/с Лідскага раёна; Татарышчына — хутар у Больцішкаўскім с/с Воранаўскага раёна; хутар да 1965 г. у Лунненскім с/с Мастоўскага раёна; вёска ў Бялкоўшчынскім с/с Смаргонскага раёна.

Магілёўская вобл. (1983) — Татарка — рабочы пасёлак і чыгуначная станцыя, цэнтр Татарскага с/с Асіповіцкага раёна; Татарка — вёска ў Кручанскім с/с Круглянскага раёна; Татаркавічы — вёска ў Ясенскім с/с Асіповіцкага раёна.

Мінская вобл. (1981) — Татараўшчына — вёска ў Рабунскім с/с Вілейскага раёна; Татарка — вёска ў Залескім с/с Валожынскага раёна; Татаршчына — вёска ў Путчынскім с/с Дзяржынскага раёна; Татаршчына — вёска ў Красненскім с/с Маладзечынскага раёна; Татаршчына — чыгуначная станцыя ў Мясоцкім с/с Маладзечанскага раёна; Татары — вёска ў Залескім с/с Валожынскага раёна.

Вядомыя шматлікія назвы ўрочышчаў, рэк з корнем татар (напрыклад, Татарка рака ў

Гродзенскім раёне), Татарка — рака ў Смаргонскім раёне; Татарскі канал у Любанскім раёне) хутчэй за ўсё не маюць сувязі з землекарыстаннем татараў-шляхты.

**ТАТАРКА**, рака ў Гродзенскім раёне, левы прыток р.Ласосна (басейн Нёмана). Даўжыня 13 км, плошча вадазабору 134 кв. км. Пачынаецца на захад ад вёскі Дубніца, цячэ ў межах Гродзенскага ўзвышша, упадае ў Ласосну на ўсход ад вёскі Трусічы. Рэчышча на працягу 4 км (ад вёскі Саннікі да вёскі Караліно) каналізаванае.

**ТАТАРКА**, рака ў Смаргонскім раёне, левы прыток р.Кужэц (басейн Віліі). Даўжыня 11 км. Пачынаецца каля вёскі Цярэшкі, упадае ў Кужэц на Пн ад вёскі Зарудзічы. Рэчышча на працягу 3,5 км (ад вёскі Кеўлы да вёскі Зарудзічы) каналізаванае.

**ТАТАРСКІ КАНАЛ**, меліярацыйны канал у Любанскім раёне, левы прыток Загальскага 10-га канала (басейн Прыпяці). Даўжыня 22,2 км. Пачынаецца з Слаўкавіцка-Ямінскага канала, за 5 км на паўночны ўсход ад вёскі Баянічы. Вусце за 2 км на паўночны ўсход вёскі Дварэц.

**ШАЙМІЕЎ Мінцімер Шарыпавіч**, дзяржаўны і палітычны дзеяч Рэспублікі Татарстан. Нарадзіўся 20.1.1937 г. ў вёсцы Анякава Актамышскага раёна Татарскай АССР. Жанаты. Мае двух сыноў.

Скончыў Казанскі сельскагаспадарчы інстытут (1959), інжынер-механік. З 1959 г. — інжынер, затым галоўны інжынер Муслюмаўскай рамонтна-тэхнічнай станцыі; з 1962 г. — упраўляючы Мензелінскім раённым аб`яднаннем "Сельгастэхніка"; з 1967 г. — інструктар, намеснік загадчыка аддзела Татарскага абкома КПСС, міністр меліярацыі і воднай гаспадаркі Татарскай АССР (1969 — 1983); з мая 1983 г. да лістапада 1983 г. — першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Татарскай АССР (1985 —

1989); першы сакратар Татарскага абкома КПСС (1989 — 1990); Старшыня Вярхоўнага Савета Татарскай АССР (1990 — 1991); з чэрвеня 1991 г. — Прэзідэнт Рэспублікі Татарстан. Выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета РСФСР 11-га склікання; з 1989 г. да студзеня 1992 г. — народны дэпутат СССР, з 1990 г. — народны дэпутат Вярхоўнага Савета Татарскай АССР; член КПСС з 1963 г. да 1991 г., член ЦК КПСС (1990 — 1991).

Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў.

**ШЫІТЫ, аш-Шыа, алейчык** ("прыхільнікі", "партыя"), агульная назва розных груповак і абшчын, прызнаўшых Алі б. Алі Таліба і яго нашчадкаў адзінымі законнымі наследнікамі і духоўнымі пераемнікамі прарока Мухаммеда. Неўзабаве пасля смерці Мухаммеда частка яго паплечнікаў (Салман ал-Фарысі, Абу Зарр ал-Гіфары, ал-Мікдад і інш. выступілі за тое, каб пераемнікам быў Алі, за захаванне вярхоўнай улады сям'і Прарока, прызнаўшы незаконнай прысягу Абу Бакру. Шыіты таксама лічаць незаконнымі халіфаў Амара ібн Хаттаба, Асмана ібн аль-Аффана і толькі чацвёртага халіфа — Алі, які паходзіў па прамой лініі ад Мухаммеда і яго нашчадкаў прызнаюць законнымі нашчадкамі, якія маюць права быць уладаром правaверных.

Сунніты і шыіты па рознаму тлумачаць роль імама. Згодна з вучэннем шыітаў імам — устанаўленне Аллага, не залежыць ад жадання людзей, прадвызначана перадавацца ў родзе ад нашчадкаў Алі. Таму імам ў шыітаў з прычыны прадвызначэння Аллага, непагрaшымы, валодае ведамі скрытых бакоў жыцця, ён выканаўца "прадвызначэння Аллага", найбольш аўтарытэт у

справах веры, а безумоўнае падпарадкаванне яму з`яўляецца дагматам.

У час праўлення дынастыі Амейядаў (661 — 750), затым Аббасідаў (750 — 1258), шыіцкі рух жорстка падаўляўся, што ў той жа час узмацняла месіянства (чаканне прышэсця праведнага халіфа). Спрабуючы пазбегнуць праследванняў, шосты шыіцкі імам Джафар ас-Садык (каля 700 — 765) нават абвясціў канцэпцыю аттакійа — асцярожнае, разумнае прыхаванне свай веры. Аднак гэта не выратавала шытаў. Яшчэ ў VII — IX стагодзях на грунце спрэчак аб перадачы права на імамат тым ці іншым нашчадкам Алі, шыізм раздрабіўся на шматлікія разгалінаванні (гл. схему — асноўныя напрамкі ў шыіцкім Ісламе на стар. 105 )

Памяркоўную галіну ў шыізме прадстаўляюць у асноўным імаміты, іх называюць яшчэ існа-ашарыя — прыхільнікі дванаццаці імамаў. Імаміты верацъ, што імамаў, пачынаючы з Алі, было адзінаццаць. Гэта назва паявілася пасля 873 — 874 г., калі знік малалетні 12-ы імам і фізічна перарваўся шэраг імамаў, прызнаных шытамі-імамітамі.

Імамы імамітаў:

1. Абу-л-Хасан (прозвішча Абу-Тураб) Алі б. Абі Таліб ал-Муртада ("Жаданы", пам. у Кафе 21 студзеня 661 г.);
2. Абу Мухаммед ал-Хасан б. Алі ал-Муджтаба ("Выбраны", пам. у Медыне ў 669 г.);
3. Абу АбдАллаг ал- Хусайн б. Алі-аш-Шахід ("Пакутнік", загінуў у Кербеле 10 кастрычніка 680 г.);
4. Абу Мухаммед Алі б. ал-Хусайн ас-Саджжад ("Часта адбіваўшы паклоны пры малітве", пам. у Медыне ў 713 г.);
5. Абу Джафар Мухаммед б. Алі ал-Бакір ("Адкрываючы сутнасць ведаў"), пам. у Медыне ў 765 г.);

# Асноўныя напрамкі ў шыіцкім ісламе



У шыіцкіх мячэцях (мячэці суннітаў могуць быць месцам для малення і шыітаў), мязім, заклікаючы вернікаў на малітву, пасля выказанай формулы "Няма боства акрамя Аллага, і Мухаммед пасланнік Яго", дадае фразу: "Сведчу, што Алі ёсць эмір прававерных і блізкі да Аллага". Для шыізма характэрны культ пакутнікаў, якімі лічацца многія імамы, у тым ліку сыны халіфа Алі. Шырока адзначаюць жалобны дзень — Ашура.

Шыіты складаюць каля 10% сярод вернікаў-мусульман (пераважаюць сунніты), але ў Іране і Іраку яны пераважаюць у колькасных адносінах. Некаторыя адгалінаванні шыітаў вылучаюцца ваяўнічасцю, уступаюць у збройныя канфлікты з дзяржаўнымі органамі, мусульманамі-суннітамі, прадстаўнікамі розных рэлігій і атэістамі.

# НАМ ПІШУЦЬ ...

## З Баранавічаў: *Міхась Маліноўскі.*

... Сёння Міхась Бернат перадаў мне падарунак і шчырыя словы ад менскіх татараў. Гэта мяне вельмі ўзрушыла. За "Байрам" вам вельмі ўдзячны. Памятаю сваю кароткую сустрэчу ва Уздзе ў 1991 годзе, калі я там пазнаёміўся з мясцовым падзвіжнікам Адамам Александровічам. З тае пары і застаўся ў маей памяці гэты добры і цікавы чалавек. А калі служыў у Кяхце, то быў знаёмы з вельмі многімі тамтэйшымі татарамі, ад якіх меў вялікую ласку і пашану. Ды і ў другіх месцах я жыў па-суседску з татарамі, таму мне і хацелася напісаць пра татараў. Спачатку я надрукаваў артыкул "Какого роду татарское племя?" ("Во славу Родины", 6 июня 1992 г.), потым "Дабром за дабро" ("Голас Радзімы", 4 лютага 1993 г.). А матэрыял у "Беларускай думцы" Цудоўна апрацаваў пісьменнік Уладзімір Глушакоў.

Зараз збіраю матэрыял пра татар і завёў для гэтага спецыяльную папку. Мабыць у будучым і яшчэ атрымаецца публікацыя. Хочацца зрабіць артыкул пра паэта Адама Гурыновіча.

З вялікай цікавасцю прагледзеў і прачытаў квартальнік "Байрам". Мне ён спадабаўся. Калі хто-небудзь са стваральнікаў "Байрама" будзе ў Баранавічах, то абавязкова заходзьце да мяне. Тут вы знойдзіце беларускую сардэчную гасціннасць.

**З Мядзельшчыны:** *Халіль Асановіч.*

... У кнізе Фелікса Зыгмунта Верамея "Польшча сёння і заўтра" (Варшава, 1979) сярод іншых ёсць цікавы для нас артыкул пад назвай "Джыгіты караля Яна" (маецца на ўвазе кароль Ян III Сабескі). Можа варта "Байраму" надрукаваць гэта па-беларуску. У апошніх двух радках там сказана наступнае: "Крушняны (вёска ў Беластоцкім ваяводстве — заўвага рэд.) ужо 19 ліпеня 1944 г., як першы населены пункт Польшчы, былі вызвалены ад гітлераўцаў." Нашы татары ведаюць, што гэта адна з нямногіх у Польшчы старадаўніх татарскіх вёсак.

**З Цюмені:** **Ассаляму алейкум!**

Здравствуйте уважаемый Ибрагим-эфенди!

С наилучшими пожеланиями к Вам главный редактор Российской татарской молодежной газеты "Ургыл" ("Стремление") М. Ибатуллин. Шлю пламенный привет Вам от сотрудников нашей редакции.

Наша Российская газета издается с мая 1991 года и выходит в г.Тюмени, распространяется по России. Есть у нас подписчики на Украине, Эстонии. Общий тираж газеты 97 тыс. экземпляров. В штате редакции 6 сотрудников. Учредителем газеты является Комитет по делам молодежи Правительства России. Хотя мы находимся в Тюмени, центр нас финансирует.

Татарское население у нас в Тюменской области составляет около 300 тыс. Кроме нашей газеты еще издается две областные газеты на татарском языке. Областное радио и телевидение ведет передачи на родном языке 3 раза в неделю. Действует также независимая татарская радиовещательная станция.

В Тюмени есть татарский театр, типография, национальный банк. В области татарское население проживает в основном в сельской местности, деревень около 160, дети в школах обучаются на родном языке.

Высылаем афишу "Сабантуй" на память.

Надеюсь что мы будем с Вами сотрудничать.

Желаю Вам всего хорошего.

**С уважением главный редактор газеты *М. Ибатуллин*. г. Тюмень**

Паважанае спадарства !

У штодытнёвіку "Літаратура і мастацтва" № 27 (3749) 8 ліпеня 1944 г. сярод іншых надрукаваны вялізны матэрыял — гутарка Юрася Залоскі з Андрэем Леанідавічам Кіштымавым. Пазней я даведаўся, што гісторык Кіштымаў спецыяліст па маладзёжнай і камсамольскай тэматыцы. Непрыхаваная недабразычлівасць аўтара да навуковай дзейнасці нашага славутага гісторыка — Міколы Ермаловіча ў "ЛіМ"е — газеце творчай інтэлігенцыі Беларусі (так надрукавана найвышэйшым радком у штотыднёвіку), удзел у публікацыі вядомага чытачу журналіста Ю. Залоскі мяне проста вельмі непрыемна ўразіла. Першым адрухам было затэлефанаваць Яўгену Гучку, майму сябру, але ў той дзень перагаварыць з ім не ўдалося. Назаўтра я скантактаваўся з ім і выказаў усё, што накіпела. Маю надзею, што вядомыя дактары навук — А. Грыцкевіч і Г. Штыхаў скажуць сваё слова пра

бэшчанне ў ЛіМе гісторыка-патрыёта нейкімі наезнікамі, для якіх наша мінулае і не дарага.

Выслухаў мяне Гучок і сказаў: "Я ўжо напісаў адказ кіштымавым. Толькі наўрад ці якая-небудзь газета яго надрукуе, калі нават "ЛіМ" заняў такую пазіцыю ў адносінах да нашай гісторыі". Параіўся я са сваімі прыяцелямі і рашыў, што Мікола Ермаловіч хоць і не патрабуе татарскага заступніцтва, але мы, татары, абавязаны яму многім у даследванні гісторыі нашага народа і не можам абыякава глядзець на тое, як ганьбіцца праца беларускага патрыёта. Мы папрасілі Яўгена Сяргеевіча Гучка даць нам свой верш, каб надрукаваць у нашым квартальніку "Байрам". Такую згоду атрымалі.

**Я. Якубоўскі**

### *Яўген Гучок*

Яшчэ не паслалі кілімы
Пад ногі
неўсенароднага прэзідэнта,
А на старонках "ЛіМа"
З`явіліся прэцэдэнты,

Прэцэдэнты непрыхаванай зняваг
У адрас
гісторыка
слыннага нашага;
Няўжо ўжэ і тут бадзягу
Разводзяць сабораўскія апашы?

Пад выглядам пошуку моцных лекаў
Множаць маральных яны калекаў.

На ўзроўні базарна-кухонных размоў
Мікола Іванавіч бэсціцца зноў.

І лезе у вочы звышедкім дымам

Нехта нахабны таварыш Кіштымаў.

Апошні шкадуе з тае нагоды,
Чаму Ермаловіч
як вораг народу
Не зведаў рэпрэсій мінулым часам,
Што выстаяў-выжыў
пад бальшавіцкім абцасам.

Яшчэ і таму вінаваты гісторык,
Што дух свой бадзёрыць
жывой інтуіцыяй,
Што не зваліўся калісь
у гістматаўскіх калідорах,
Не клянчыў дазволаў
ні ў КДБ,
ні ў міліцыі.
Вядома, і ў тым палягае віна,
Што самавук замахнуўся на
Вучонае невуцтва,
на структуры,
Якія і сёння жыруюць з халтуры,

Якія халястрай зайздросцяць Міколу,
Якія яму не даруць ніколі,
Што ён у самоце,
без дапамогі,
аховы
Раскрыў нашых сэрцаў і памяці
сховы.

А мы,
зубы сцяўшы,
церпім-маўчым, -
Глытаем кіштымаўска-лімаўскі дым?!.
Якая ж цана нам пасля усяго?!.
Дакоцімся ўрэшце мы да чаго?!.

## Адкрыты ліст

# Старшыні Чэрвеньскага райвыканкама, старшыні Смілавіцкага гарпасялковага савета

На землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы, ці як раней называлі Вялікага княства Літоўскага, татары жылі спрадвеку. У 1997 г. споўніцца 600 гадоў з дня зафіксаванай хронікамі даты пасялення татараў на Беларусі. Па запрашэнні вялікага князя Літоўскага Вітаўта для аховы межаў Беларуска-Літоўскай дзяржавы сюды прыбывалі татары з Залатой Арды і Крыма. Татарская конніца адыграла вялікую ролю ў разгроме крыжакоў пад Грунвальдам у 1410 годзе.

У 1428 г. татары, што жылі ў наваколлях Менска, сустракалі Вітаўта і зрабілі яму і яго дружыне каштоўныя падарункі.

Узаемаадносіны паміж асаднікамі-татарамі і беларусамі былі заўсёды мірныя. Татары ніколі не імкнуліся захапіць кіроўныя пасады ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве. Толькі на вайсковай службе адвагай і кемлівасцю яны дасягалі высокіх вайсковых званняў.

Талерантнасць (верацярпімасць), якая панавала на Беларусі, дазваляла татарам будаваць мячэці, мег[illegible] пры іх мусульманскія школы, выхоўваць сваіх дзяцей згодна з патрабаваннямі мусульманскай веры і сваіх звычаяў.

Беларуская насельніцтва, сярод якога жылі татары, аказвала ім дапамогу. У жніўні 1856 г. уладальніцы маёнтку Паўліна і Барбара Манюшкі аказалі дапамогу татарам Смілавіцкага джаміяту (парафіі) у будаўніцтве мячэці і татарскай школы пры храме.

Покуль дзейнічаў мусульманскі джаміят, у татарскай абшчыне быў парадак, шанаваліся старэйшыя, традыцыі. У 1937 г. савецкая ўлада ў Смілавічах адабрала ў татар мячэць. Многія татары былі рэпрэсаваны савецкай уладай, але калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, яны разам з беларусамі, у адным страі змагаліся з фашыстамі на франтах і ў партызанскіх атрадах.

Сёння, калі пачаўся працэс нацыянальнага адраджэння на Беларусі, неабходна прыкласці намаганні для захавання і развіцця беларускіх татар. Прыняцце Вярхоўным Саветам Беларусі законаў аб нацыянальных меншасцях, аб мовах, аб культуры, аб рэлігійных канфесіях ствараюць неабходную заканадаўчую базу для гэтай работы.

Просім Райвыканкам і Гарпасялковы Савет не заставацца ў баку ад нашых праблем і разглядаць іх як агульнадзяржаўныя.

У Смілавічах, паводле апошняга перапісу (1989 г.), пражывае 317 асоб татарскай нацыянальнасці. У 1993 г. на сходзе татараў-мусульман была ўтворана мусульманская абшчына. Для таго, каб адрадзіць наш народ, захаваць тое, што збераглося, выхаваць нашу моладзь працавітымі і законапаслухмянымі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, трэба вярнуць татарам тое, што належыла мусульманскай абшчыне да 1937 г. — мячэць і школу. Добра разумеючы тыя цяжкасці, якія перажывае наша грамадства, мы прапануем разглядзець гэтае пытанне ўсебакова на адным з вашых паседжанняў і даць станоўчы адказ на пастаўленае пытанне.

Ассяляму алейкум уа рахматулагі уа баракятугу (Мір Вам, міласць Аллага Усявышняга і Яго благаслаўленне)

*З павагаю старшыня Смілавіцкай мусульманскай абшчыны*

***А. Палтаржыцкі***

20.8.1994г.

***Ад рэдакцыі:*** Мы спадзяёмся, што гэты ліст старшыні Смілавіцкай мусульманскай абшчыны Алі Палтаржыцкага будзе ўсебакова разгледжаны у адпаведных інстанцыях. Дагэтуль улады прыязна ставіліся да смілавіцкіх мусульман. Нагадаем, што ў 1991 годзе на просьбу мусульман г.п. Смілавічы абгарадзіць мізар раённыя ўлады выдаткавалі грошы, матэрыялы і зрабілі добрую агароджу. Дзякуй Вам за гэта!

# А МОЖА І ЗБУДУЕМ МУСУЛЬМАНСКУЮ ВЁСКУ НА БЕЛАРУСІ?

Напрыканцы ліпеня гэтага года наш муфтэй расказаў нам пра гутарку, якую ён меў з паволжскім татарынам. Спачатку ідэя стварэння мусульманскай вёскі на Беларусі мне здалася нерэальнай. З гісторыі вядома,што спробы пабудаваць і жыць у ідэальнай вёсцы, горадзе спрабавалі людзі не раз. Вядома "Новая гармонія" — камуна ў Паўночнай Амерыцы, якая пабудавана паводле праекта і на сродкі англійскага сацыяліста-ўтапіста Роберта Оўэна ў 1825 годзе. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі з Амерыкі ў Савецкую Расію з сем`ямі, з немалымі сродкамі, сельскагаспадарчымі машынамі прыехалі людзі, каб пасяліцца на вольных землях. Галоўнае для іх было не стварыць дабрабыт сабе, а навучыць разумнаму вядзенню гаспадаркі рускіх людзей. І што з тымі

амерыканскімі пасяленцамі сталася ? Амаль усе яны пазней выведзены ў ГУЛАГ.

Пагаварыўшы з дасведчанымі спецыялістамі пра ідэю стварэння татарскай мусульманскай вёскі на Беларусі, пакапаўшыся ў памяці, я ўспомніў, што ідэальныя паселішчы былі і існуюць нават цяпер на працягу многіх дзесяцігоддзяў. Вось узяць хоць бы вёскі малаканаў у ЗША. Гнаныя ў Расіі яны знайшлі сабе прытулак у ЗША, дзе жыве ўжо чацвёртае пакаленне гэтых хрысціян-сектантаў. А што чалавеку трэба для шчасця? Адзін мудрэц, які быў вучоны і багаты, сказаў, што ён зведаў усё, але галоўнае і адзінае, што сапраўды патрэбна — гэта добрае здароўе і каб цябе не грызла сумленне за злыя ўчынкі, якія зрабіў у гэтым жыцці.

Дык навошта нам мусульманская вёска? Каб жыць справядліва і шчасліва. А дзе і хто пабудуе такую вёску ?

Непадалёк ад Менска, за 30 км на паўднёвы ўсход ад горада, каля гарадскога пасёлка Смілавічы, паблізу ракі Волмы знаходзілася калісьці татарская вёска. Захаваліся дакументы, якія сведчаць пра тое, што тут у татараў была свая зямля. Некаторыя з іх мелі валоку (больш за 20 га), а іншыя — нават па 2 — 3 валокі.

Чым бы маглі займацца татары ў гэтай вёсцы ? Традыцыйнымі заняткамі: земляробствам, жывёлагадоўляй, садоўніцтвам і агародніцтвам, пчалярствам, рыбаводствам. Багаты вопыт маюць татары ў вырошчвані кветак. Авечак і буйную рагатую жывёлу можна было б гадаваць, каб прадаваць мяса для мусульман, што жывуць у Менску. Пакупнікамі будуць дыпламатычныя місіі з мусульманскіх краін, замежныя студэнты-мусульмане. Коней можна гадаваць для спартыўных мэт, кабыліц для кумысалячэння. У гэтай вёсцы можна будзе вырабляць аўчыны на кажухі і хром для куртак і абутку. Можна шыць прыгожыя боцікі, якія

спрадвеку ўмелі так прыгожа рабіць татары (у Татарстане яшчэ не згублена гэтае ўмельства, можна навучыцца і нашым мадэльерам). Пчалярства дапаможа вырошчваць добрыя ўраджаі садавіны і гародніны, атрымліваць мёд, воск і прапаліс.

Няма патрэбы падрабязна апісваць, якія тут будуць жылыя будынкі і грамадскія пабудовы. Гэта школа, клуб з бібліятэкай, кабельнае тэлебачанне. А галоўнае — будзе мячэць. У доме адпачынку ў татарскай вёсцы пажадаюць адпачываць мусульмане з розных краін.

Для пачатку, як вядома, трэба ствараць пражэкты, а пасля праект. Таму трэба даць магчымасць выказацца на старонках "Байрама" тым, хто раскрытыкуе наш пражэкт. Гэта дасць магчымасць абгрунтаваць усе палажэнні і прапанаваць для жыхароў будучай вёскі розныя віды заняткаў, напрыклад, выраб помнікаў на магілы мусульман, бо рана ці позна без гэтага не абыходзіцца ні адзін чалавек.

Шліце прапановы на адрас рэдакцыі квартальніка "Байрам".

Я. Якубоўскі

***Газета "Звязда", 13 ліпеня 1994 г.***

# СЕНСАЦЫЯ Ў СТАРАЖЫТНЫХ РУКАПІСАХ

2500 гадоў назад Зямлю наведалі іншапланецяне. Ісус Хрыстос зноў народзіцца ў 1994 годзе, а канец свету адбудзецца ў 11991 годзе. Гэтыя звесткі ўтрымліваюцца ў вядомых кумранскіх рукапісах — запісах на скураных скрутках, знойдзеных у 1947 годзе на беразе Мёртвага мора. Так сцвярджае французскі антраполаг, лінгвіст, даследчык Бібліі прафесар Фелікс Банжан — адзін з шасці вучоных, якія вывучалі рукапісы па ўказанню Ватыкана, дзе яны цяпер знаходзяцца. Вучоныя

пакляліся не раскрываць тэксты манускрыптаў, але Банжан парушыў клятву.

Паводле яго слоў, у скрутках паведамляецца, што 2500 гадоў назад на Зямлю прыбыла флатылія іншапланетных касмічных караблёў. Яны мелі форму дыскаў і, мяркуючы па апісаннях, стваралі вакол сябе гравітацыйнае поле. У касманаўтаў былі велізарныя грушападобныя галовы і зялёна-кафейна-шэрая скура. Маісей не быў ні яўрэям, ні егіпцянінам, ні наогул чалавекам. Ён прыбыў на Зямлю з сябрам планеты як пасланнік Бога. Паводле слоў Банжана, у манускрыптах таксама ўтрымліваюцца гістарычныя прадказанні, здольныя ўзрушыць свет. Так, на першую палову XX стагоддзя "запланавана" з`яўленне Антыхрыста, апісанне якога адпавядае знешнасці Гітлера. Палёт на Месяц быў абяцаны ў 1969 годзе. Імёны касманаўтаў Наал і Эдэн (як вядома, імя Армстранга — Нейл, а Олдрына — Эдвін). У 1994 годзе адбудзецца адраджэнне "Усходняй дзяржавы", а ў 1997 годзе распадзецца другая сусветная імперыя, размешчаная ў Азіі, за высокай сцяной. З 2025 года для людзей пачнуцца шчаслівыя стагоддзі без галечы і войнаў. Яны прадоўжацца да 11991 года, калі наступіць канец свету на Зямлі, а выбраннікі Бога адродзяцца як спецыфічныя формы жыцця на іншай планеце, што па апісанню нагадвае Марс...

"Праўда рана ці позна павінна стаць відавочнай. Пасля шматгадовых ваганняў я прыйшоў да вываду, што нікому нельга хаваць яе ад людзей", — заявіў Фелікс Банжан на прэс-канферэнцыі ў Парыжы, якая выклікала буру ў навуковым свеце. З інфармацыйных ватыканскіх крыніц было атрымана пацвярджэнне кампетэнтнасці прафесара: "Сапраўды, ён даследаваў манускрыпты. Яны былі скрыты Ватыканам па прычыне таго, што іх змест выкліча сусветнае хваляванне, а можа, і паніку". Аб усім гэтым паведаміла ізраільская газета "Вести".

# МУСУЛЬМАНСКІ КАЛЯНДАР СВЯТ І ПАМЯТНЫХ ПАДЗЕЙ

Нашы мусульмане ведаюць, што існуюць мусульманска-арабскі і мусульманска-турэцкі календары. Беларускія мусульмане кіруюцца мусульманска-турэцкім календаром, які дазваляе кожнаму мусульманіну з дапамогай Хамаіла (малітоўніка) вылічыць, калі будзе свята, тая ці іншая падзея, якія спрадвеку адзначаюць татары. У даўнейшыя часы, калі кожны мусульманін ці мусульманка умелі чытаць Хамаіл, гэта рабілася кожным вернікам, хоць нярэдка чалавек праўджваў свае разлікі ў больш падрыхтаванага мусульманіна — імама. Калі яго разлікі супадалі з разлікамі добра навучонага чалавека, то ён атрымліваў вялікае задавальненне, калі ж памыляўся, то ён спрабаваў знайсці прычыну памылкі.

Трэба адзначыць, што мусульманскі арабскі каляндар крыху адрозніваецца ад мусульманскага турэцкага календара. Польскія татары святкуюць разам з арабамі, а мы — разам з казанскімі і сярэднеазіяцкімі мусульманамі. Несупадзенне дат складае часцей за ўсё адны суткі (у арабаў святы наступаюць раней), радзей — двое сутак, а здараецца, што даты поўнасцю супадаюць, як у 1415/1416 годзе Хіджра (у 1995 г. па еўрапейскім календары).

Ніжэй прапануем Вашай увазе час свят і падзей паводле еўрапейскага календара, час свят і падзей па мусульманскім турэцкім календары.

## Святы:

**Берат-ноч** — з 17 на 18 студзеня

**Саўм** — *Святы Пост* —пачынаецца 2 лютага

**Кадыр-ноч** — з 27 на 28 лютага

**Рамазан-Байрам** — 4-6 сакавіка

**Курбан-Байрам — 11-14 траўня (мая)**

**Новы 1416 год Хіджра — 31 траўня** (мая)

**Ашура** — *жалобны дзень* — **9** чэрвеня

**Маўлюд** — *свята нараджэння Прарока Мухаммеда* — **9** ліпеня

**Рагаиб-ноч** — з 23 на 24 лістапада

**Ва-л-Мірадж, Мерадзь-ноч** — з 19 на 20 снежня

## ЕЎРАПЕЙСКІ КАЛЯНДАР НА 1995 ГОД І ТУРЭЦКА-МУСУЛЬМАНСКІ КАЛЯНДАР НА 1415-1416 ГОД ХІЖРА

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Студзень (январь) | 1 | Нд | 28 | Раджаб (Раджбун) | Люты (февраль) | 1 | Ср | 29 | Рамазан (рамадан) |
| | 2 | Пн | 29 | | | 2 | Чц | 1 | |
| | 3 | Ат | 30 | | | 3 | Пт* | 2 | |
| | 4 | Ср | 1 | Шаўбан (ша"абун) | | 4 | Сб | 3 | |
| | 5 | Чц | 2 | | | 5 | Нд | 4 | |
| | 6 | Пт*[2] | 3 | | | 6 | Пн | 5 | |
| | 7 | Сб | 4 | | | 7 | Ат | 6 | |
| | 8 | Нд | 5 | | | 8 | Ср | 7 | |
| | 9 | Пн | 6 | | | 9 | Чц | 8 | |
| | 10 | Ат | 7 | | | 10 | Пт | 9 | |
| | 11 | Ср | 8 | | | 11 | Сб | 10 | |
| | 12 | Чц | 9 | | | 12 | Нд | 11 | |
| | 13 | Пт | 10 | | | 13 | Пн | 12 | |
| | 14 | Сб | 11 | | | 14 | Ат | 13 | |
| | 15 | Нд | 12 | | | 15 | Ср | 14 | |
| | 16 | Пн | 13 | | | 16 | Чц | 15 | |
| | 17 | Ат | 14 | | | 17 | Пт | 16 | |
| | 18 | Ср | 15 | | | 18 | Сб | 17 | |
| | 19 | Чц | 16 | | | 19 | Нд | 18 | |
| | 20 | Пт | 17 | | | 20 | Пн | 19 | |
| | 21 | Сб | 18 | | | 21 | Ат | 20 | |
| | 22 | Нд | 19 | | | 22 | Ср | 21 | |
| | 23 | Пн | 20 | | | 23 | Чц | 22 | |
| | 24 | Ат | 21 | | | 24 | Пт | 23 | |
| | 25 | Ср | 22 | | | 25 | Сб | 24 | |
| | 26 | Чц | 23 | | | 26 | Нд | 25 | |
| | 27 | Пт | 24 | | | 27 | Пн | 26 | |
| | 28 | Сб | 25 | | | 28 | Ат | 27 | |
| | 29 | Нд | 26 | | | | | | |
| | 30 | Пн | 27 | | | | | | |
| | 31 | Ат | 28 | | | | | | |

**1 студзеня** — Новы 1995 год.

**7 студзеня** — праваслаўныя Каляды.

**З 13 на 14 шаўбана (з 17 на 18 студзеня)** — Берат-ноч.

**1 Рамазана (2 лютага)** — пачынаецца Саўм — Святы Пост.

**З 26 на 27 Рамадана (з 27 на 28 лютага)** — Кадыр-ноч.

---

[2] Маладзіковыя пятніцы пазначаны П*.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Сакавік (март) | 1 | Ср | 28 | Рамазан (Рамазанун) |
| | 2 | Чц | 29 | |
| | 3 | Пт | 30 | |
| | 4 | Сб | 1 | Шаўвал (шаўвал) |
| | 5 | Нд | 2 | |
| | 6 | Пн | 3 | |
| | 7 | Ат | 4 | |
| | 8 | Ср | 5 | |
| | 9 | Чц | 6 | |
| | 10 | Пт* | 7 | |
| | 11 | Сб | 8 | |
| | 12 | Нд | 9 | |
| | 13 | Пн | 10 | |
| | 14 | Ат | 11 | |
| | 15 | Ср | 12 | |
| | 16 | Чц | 13 | |
| | 17 | Пт | 14 | |
| | 18 | Сб | 15 | |
| | 19 | Нд | 16 | |
| | 20 | Пн | 17 | |
| | 21 | Ат | 18 | |
| | 22 | Ср | 19 | |
| | 23 | Чц | 20 | |
| | 24 | Пт | 21 | |
| | 25 | Сб | 22 | |
| | 26 | Нд | 23 | |
| | 27 | Пн | 24 | |
| | 28 | Ат | 25 | |
| | 29 | Ср | 26 | |
| | 30 | Чц | 27 | |
| | 31 | Пт | 28 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Красавік (апрель) | 1 | Сб | 29 | |
| | 2 | Нд | 1 | Зіль-Каада (зіль-ка"да) |
| | 3 | Пн | 2 | |
| | 4 | Ат | 3 | |
| | 5 | Ср | 4 | |
| | 6 | Чц | 5 | |
| | 7 | Пт* | 6 | |
| | 8 | Сб | 7 | |
| | 9 | Нд | 8 | |
| | 10 | Пн | 9 | |
| | 11 | Ат | 10 | |
| | 12 | Ср | 11 | |
| | 13 | Чц | 12 | |
| | 14 | Пт | 13 | |
| | 15 | Сб | 14 | |
| | 16 | Нд | 15 | |
| | 17 | Пн | 16 | |
| | 18 | Ат | 17 | |
| | 19 | Ср | 18 | |
| | 20 | Чц | 19 | |
| | 21 | Пт | 20 | |
| | 22 | Сб | 21 | |
| | 23 | Нд | 22 | |
| | 24 | Пн | 23 | |
| | 25 | Ат | 24 | |
| | 26 | Ср | 25 | |
| | 27 | Чц | 26 | |
| | 28 | Пт | 27 | |
| | 29 | Сб | 28 | |
| | 30 | Нд | 29 | |

**1-3 шаўвала (4-6 сакавіка)** — Рамазан-Байрам.
**8 сакавіка** — Дзень Жанчын.
**25 сакавіка** — Дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.
**16-17 красавіка** — каталіцкі Вялікдзень.
**23-24 красавіка** — праваслаўны Вялікдзень.

| Травень (Май) | | | Зіль-хаджа (зіль-хаджа) | Чэрвень (Июнь) | | | Мухарэм (мухаррам) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Пн | 30 | | 1 | Чц | 2 | |
| 2 | Ат | 1 | | 2 | Пт* | 3 | |
| 3 | Ср | 2 | | 3 | Сб | 4 | |
| 4 | Чц | 3 | | 4 | Нд | 5 | |
| 5 | Пт* | 4 | | 5 | Пн | 6 | |
| 6 | Сб | 5 | | 6 | Ат | 7 | |
| 7 | Нд | 6 | | 7 | Ср | 8 | |
| 8 | Пн | 7 | | 8 | Чц | 9 | |
| 9 | Ат | 8 | | 9 | Пт | 10 | |
| 10 | Ср | 9 | | 10 | Сб | 11 | |
| 11 | Чц | 10 | | 11 | Нд | 12 | |
| 12 | Пт | 11 | | 12 | Пн | 13 | |
| 13 | Сб | 12 | | 13 | Ат | 14 | |
| 14 | Нд | 13 | | 14 | Ср | 15 | |
| 15 | Пн | 14 | | 15 | Чц | 16 | |
| 16 | Ат | 15 | | 16 | Пт | 17 | |
| 17 | Ср | 16 | | 17 | Сб | 18 | |
| 18 | Чц | 17 | | 18 | Нд | 19 | |
| 19 | Пт | 18 | | 19 | Пн | 20 | |
| 20 | Сб | 19 | | 20 | Ат | 21 | |
| 21 | Нд | 20 | | 21 | Ср | 22 | |
| 22 | Пн | 21 | | 22 | Чц | 23 | |
| 23 | Ат | 22 | | 23 | Пт | 24 | |
| 24 | Ср | 23 | | 24 | Сб | 25 | |
| 25 | Чц | 24 | | 25 | Нд | 26 | |
| 26 | Пт | 25 | | 26 | Пн | 27 | |
| 27 | Сб | 26 | | 27 | Ат | 28 | |
| 28 | Нд | 27 | | 28 | Ср | 29 | |
| 29 | Пн | 28 | | 29 | Чц | 30 | |
| 30 | Ат | 29 | | 30 | Пт | 1 | |
| 31 | Ср | 1 | | | | | |

**1 і 2 траўня** — Свята Працы.
**9 мая** — Дзень Перамогі.
**10-13 зіль-Хадджа (11-14 траўня)** — Курбан-Байрам.
**1 мухаррэма (31 траўня)** — Новы 1416 год Хіджра.
**10 мухарэма (9 чэрвеня)** — Дзень Ашура.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ліпень (июль) | 1 | Сб | 2 | Сафар (сафарун) | Жнівень (август) | 1 | Ат | 4 | Рабі ўль-авваль (рабйун аль-аўалю) |
| | 2 | Нд | 3 | | | 2 | Ср | 5 | |
| | 3 | Пн | 4 | | | 3 | Чц | 6 | |
| | 4 | Ат | 5 | | | 4 | Пт* | 7 | |
| | 5 | Ср | 6 | | | 5 | Сб | 8 | |
| | 6 | Чц | 7 | | | 6 | Нд | 9 | |
| | 7 | Пт | 8 | | | 7 | Пн | 10 | |
| | 8 | Сб | 9 | | | 8 | Ат | 11 | |
| | 9 | Нд | 10 | | | 9 | Ср | 12 | |
| | 10 | Пн | 11 | | | 10 | Чц | 13 | |
| | 11 | Ат | 12 | | | 11 | Пт | 14 | |
| | 12 | Ср | 13 | | | 12 | Сб | 15 | |
| | 13 | Чц | 14 | | | 13 | Нд | 16 | |
| | 14 | Пт | 15 | | | 14 | Пн | 17 | |
| | 15 | Сб | 16 | | | 15 | Ат | 18 | |
| | 16 | Нд | 17 | | | 16 | Ср | 19 | |
| | 17 | Пн | 18 | | | 17 | Чц | 20 | |
| | 18 | Ат | 19 | | | 18 | Пт | 21 | |
| | 19 | Ср | 20 | | | 19 | Сб | 22 | |
| | 20 | Чц | 21 | | | 20 | Нд | 23 | |
| | 21 | Пт | 22 | | | 21 | Пн | 24 | |
| | 22 | Сб | 23 | | | 22 | Ат | 25 | |
| | 23 | Нд | 24 | | | 23 | Ср | 26 | |
| | 24 | Пн | 25 | | | 24 | Чц | 27 | |
| | 25 | Ат | 26 | | | 25 | Пт | 28 | |
| | 26 | Ср | 27 | | | 26 | Сб | 29 | |
| | 27 | Чц | 28 | | | 27 | Нд | 30 | |
| | 28 | Пт | 29 | | | 28 | Пн | 1 | |
| | 29 | Сб | 1 | | | 29 | Ат | 2 | |
| | 30 | Нд | 2 | | | 30 | Ср | 3 | |
| | 31 | Пн | 3 | | | 31 | Чц | 4 | |

27 ліпеня — Дзень Незалежнасці
12 рабі ўль-авваля ( 9 жніўня ) — Маўлюд.

| Верасень (сентябрь) | | Рабі уль-ахыр (рабіун аль-ссані) | Кастрычнік (октябрь) | | Джумаіль-авваль (джумала аль-уля) |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Пт* | 5 | 1 | Нд | 6 |
| 2 | Сб | 6 | 2 | Пн | 7 |
| 3 | Нд | 7 | 3 | Ат | 8 |
| 4 | Пн | 8 | 4 | Ср | 9 |
| 5 | Ат | 9 | 5 | Чц | 10 |
| 6 | Ср | 10 | 6 | Пт | 11 |
| 7 | Чц | 11 | 7 | Сб | 12 |
| 8 | Пт | 12 | 8 | Нд | 13 |
| 9 | Сб | 13 | 9 | Пн | 14 |
| 10 | Нд | 14 | 10 | Ат | 15 |
| 11 | Пн | 15 | 11 | Ср | 16 |
| 12 | Ат | 16 | 12 | Чц | 17 |
| 13 | Ср | 17 | 13 | Пт | 18 |
| 14 | Чц | 18 | 14 | Сб | 19 |
| 15 | Пт | 19 | 15 | Нд | 20 |
| 16 | Сб | 20 | 16 | Пн | 21 |
| 17 | Нд | 21 | 17 | Ат | 22 |
| 18 | Пн | 22 | 18 | Ср | 23 |
| 19 | Ат | 23 | 19 | Чц | 24 |
| 20 | Ср | 24 | 20 | Пт | 25 |
| 21 | Чц | 25 | 21 | Сб | 26 |
| 22 | Пт | 26 | 22 | Нд | 27 |
| 23 | Сб | 27 | 23 | Пн | 28 |
| 24 | Нд | 28 | 24 | Ат | 29 |
| 25 | Пн | 29 | 25 | Ср | 30 |
| 26 | Ат | 1 | 26 | Чц | 1 |
| 27 | Ср | 2 | 27 | Пт* | 2 |
| 28 | Чц | 3 | 28 | Сб | 3 |
| 29 | Пт* | 4 | 29 | Нд | 4 |
| 30 | Сб | 5 | 30 | Пн | 5 |
| | | | 31 | Ат | 6 |

**17 верасня** — Уз'яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі.

| Лістапад (ноябрь) | | Джумазіль-ахыр (ДЖУМАДА АЛЬ-ССАНІ) / Раджаб | Снежань (декабрь) | | Раджаб (РАДЖАБУН) / Шаубан |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Ср | 7 | 1 | Пт | 8 |
| 2 | Чц | 8 | 2 | Сб | 9 |
| 3 | Пт* | 9 | 3 | Нд | 10 |
| 4 | Сб | 10 | 4 | Пн | 11 |
| 5 | Нд | 11 | 5 | Ат | 12 |
| 6 | Пн | 12 | 6 | Ср | 13 |
| 7 | Ат | 13 | 7 | Чц | 14 |
| 8 | Ср | 14 | 8 | Пт | 15 |
| 9 | Чц | 15 | 9 | Сб | 16 |
| 10 | Пт | 16 | 10 | Нд | 17 |
| 11 | Сб | 17 | 11 | Пн | 18 |
| 12 | Нд | 18 | 12 | Ат | 19 |
| 13 | Пн | 19 | 13 | Ср | 20 |
| 14 | Ат | 20 | 14 | Чц | 21 |
| 15 | Ср | 21 | 15 | Пт | 22 |
| 16 | Чц | 22 | 16 | Сб | 23 |
| 17 | Пт | 23 | 17 | Нд | 24 |
| 18 | Сб | 24 | 18 | Пн | 25 |
| 19 | Нд | 25 | 19 | Ат | 26 |
| 20 | Пн | 26 | 20 | Ср | 27 |
| 21 | Ат | 27 | 21 | Чц | 28 |
| 22 | Ср | 28 | 22 | Пт | 29 |
| 23 | Чц | 29 | 23 | Сб | 30 |
| 24 | Пт* | 1 | 24 | Нд | 1 |
| 25 | Сб | 2 | 25 | Пн | 2 |
| 26 | Нд | 3 | 26 | Ат | 3 |
| 27 | Пн | 4 | 27 | Ср | 4 |
| 28 | Ат | 5 | 28 | Чц | 5 |
| 29 | Ср | 6 | 29 | Пт* | 6 |
| 30 | Чц | 7 | 30 | Сб | 7 |
| | | | 31 | Нд | 8 |

**2 лістапада** — Дзень Памяці.

**Ноч з 29 джумазіль-ахыда на 1 раджаба (з 23 на 24 лістапада)** — Рагайб-ноч.

**Ноч з 26 на 27 раджаба (з 19 на 20 снежня)** — Ва-л-Мерадж (Мерадзь-ноч).

**25 снежня** — каталіцкія Каляды.

# ЗМЕСТ